БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГРАМАДСКІ
АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ
«БЕЛАРУСЬ-2000»
Belarusian National Public Organizing Committee
«BELARUS-2000»

ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»
INTERNATIONAL ASSOTIATION OF THE BELARUSIAN PEOPLE
«BATSKAUSHCHYNA»

# ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ І ДЗЯРЖАВЫ

## The History of the Belarusian Nation and State





Мінск
"Беларускі кнігазбор"
2001

УДК 947.6 (082)
ББК 63.3 (4 Беи)
Г 51

Аўтарскі калектыў

**Міхась Біч** — доктар гістарычных навук; **Радзім Гарэцкі** — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прэзідэнт Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»; **Уладзімір Конан** — доктар філасофскіх навук; **Арсень Ліс** — доктар філалагічных навук; **Леанід Лойка** — кандыдат гістарычных навук; **Адам Мальдзіс** — доктар філалагічных навук; **Уладзімір Мархель** — кандыдат філалагічных навук; **Алена Макоўская** — выканаўчы дырэктар Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»; **Алесь Петрашкевіч** — кандыдат гістарычных навук; **Сабалеўскі Анатоль** — доктар мастацтвазнаўства; **Лідзія Савік** — кандыдат філалагічных навук; **Віктар Скарабагатаў** — заслужаны артыст Беларусі; **Ганна Сурмач** — старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»; **Барыс Стук** — намеснік старшыні Рады Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»; **Галіна Сяргеева** — кандыдат гістарычных навук; **Алег Трусаў** — кандыдат гістарычных навук; **Георгій Штыхаў** — доктар гістарычных навук; **Язэп Юхо** — доктар юрыдычных навук

Рэдакцыйная калегія

**Уладзімір Арлоў**, пісьменнік; **Анатоль Грыцкевіч**, доктар гістарычных навук; **Вітаўт Кіпель**, дырэктар Беларускага інстытута навукі й мастацтва ў ЗША; **Павел Лойка**, кандыдат гістарычных навук; **Іван Саверчанка**, доктар філалагічных навук; **Барыс Стук**, намеснік старшыні Рады Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Пераклала на англійскую мову Таццяна Вінярская

Кніга выдадзена па заказу Міжнароднай грамадскай арганізацыі «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і аўтарскі калектыў выказваюць асаблівую падзяку за падтрымку ў падрыхтоўцы кнігі
сп. **Ірэне Калядзе-Смірноў**,
старшыні Дабрачыннага фонду «Ethnic Voice of America» (Парма, ЗША)

ISBN 985-6638-27-5

# ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ І ДЗЯРЖАВЫ



## СЛОВА ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Да цябе, **Народ Беларускі**, да вас, нашчадкі далёкіх продкаў, што жылі тысячагоддзі таму на нашай старажытнай зямлі, слова Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта, створанага з ініцыятывы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

**Падышло да канца II тысячагоддзе ад Нараджэння Хрыстовага.** Завяршэнне такой гістарычнай эпохі мае важнае значэнне ў развіцці чалавецтва. Многія народы і дзяржавы імкнуцца зараз падсумаваць дасягненні і страты, вызначыць сваё месца ў свеце.

Далёка не ўсім людзям дадзена лёсам жыць на мяжы тысячагоддзяў. **Менавіта нам і належыць выканаць абавязак перад нашчадкамі — здолець асэнсаваць пройдзены беларускім народам шлях, перакінуць мост у новае тысячагоддзе.**

Надзея і падстава гэтага — у слаўных традыцыях, што на вякі замацаваны ў душах і пісьмёнах нашых суродзічаў. Нашы продкі адвагай, розумам і рупнасцю будавалі, мацавалі, ахоўвалі сваю Айчыну і Дзяржаву, каб застацца ў гісторыі, не знікнуць у небыцці.

**На мяжы тысячагоддзяў акінем позіркам сваё вялікае гістарычнае мінулае, зразумеем і вызначым, хто мы сёння ёсць — Народ Беларусі.**

# THE HISTORY OF THE BELARUSIAN NATION AND STATE



## ADDRESS TO THE BELARUSIAN PEOPLE

This address is to you, **the People of Belarus**, and to our forefathers who lived on this ancient land for thousands of years. This address is from the National Public Organizing Committee established on the initiative of the International Association of the Belarusian people 'Batskaushchyna.'

**We are on the eve of the third millennium.** Completion of such a big historic epoch is of a great importance in the development of mankind. Several nations and states desire to evaluate their achievements and try to understand their failure to establish their place in the world.

It is the fate of only a few to live at the turn of the millennium. **So we are the ones, who have both the honour and duty to future generations to review and evaluate the history of the Belarusian people, and we are the ones to cross the line between the millennia and start the third millennium.**

Hope and the grounds for our future are in the glorious traditions placed forever in the souls and letters of our people. Due to the bravery, intelligence, and hard work of our ancestors who built, strengthened, and guarded their Motherland and State we will not disappear as a nation, but will take our honorable place in the world history.

**So now, at the turn of the millennium, let us review our great historical inheritance, discover, and establish who we are — the People of Belarus.**

# НАЦЫЯ



Карані беларускай нацыі сягаюць у глыбокую даўніну. Беларусы належаць да **старажытных** народаў Еўропы. Наш народ, як і большасць іншых, сфарміраваўся ў выніку працэсаў міграцыі старажытных насельнікаў Азіі і Еўропы, сінтэзу плямёнаў, што жылі ў розныя часы на абшарах, якія займае этнічная Беларусь.

З археалагічных крыніц вядома, што найбольш старажытным насельніцтвам на тэрыторыі Беларусі былі еўрапеоіды-абарыгены. У II тыс. да н. э. Еўропу пачалі засяляць плямёны з Азіі. Каля трох тысяч гадоў таму на тэрыторыю будучай Беларусі прыйшлі фіна-угорскія плямёны. Потым на нашы землі прыйшлі індаеўрапейскія плямёны балтаў, якія асімілявалі абарыгенаў і фіна-уграў.

Першыя пісьмовыя звесткі аб нашых продках сустракаюцца ў старажытнагрэцкага гісторыка і географа Герадота. Ён апісаў вайну персідскага цара Дарыя са Скіфіяй, што адбывалася ў 513 г. да н. э. на тэрыторыі сучаснай Украіны. На поўнач ад скіфаў, што прыкладна адпавядае тэрыторыі сучаснай Беларусі, як сцвярджае Герадот, жылі неўры, або нарцы, якія пасяліліся каля будзінаў, ці гудзінаў.

На пачатку I тыс. н. э. на тэрыторыі Беларусі жылі плямёны балтаў. З VI ст. яе пачалі засяляць славянскія плямёны, што вылучыліся з індаеўрапейскага этнасу. **Асноўныя карані індаеўрапейскага радаводу — славянскі і балцкі, а таксама фіна-угорскія элементы — вызначылі этнічную адметнасць нашага народа, яго адрозненне ад рускага, украінскага і іншых славянскіх народаў.** У савецкія часы гэтая асаблівасць этнагенезу беларусаў катэгарычна адмаўлялася. У афіцыйнай гістарычнай навуцы панавала надуманая канцэпцыя існавання старажытнарускай народнасці, з якой нібыта паходзілі тры братнія славянскія народы — рускі, украінскі і беларускі. Такім чынам абгрунтоўвалася ідэя, што гэтыя народы павінны жыць у адной дзяржаве. Але, як сведчаць гістарычныя крыніцы, у кожнага з іх быў свой шлях фарміравання.

На тэрыторыі Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (цяперашнія Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Гарадзеншчына і Невель-

шчына), дрыгавічы (Цэнтральная Беларусь і Паўночнае Палессе), радзімічы (Магілёўшчына, Гомельшчына і Заходняя Браншчына). Жылі тут і іншыя ўсходнеславянскія плямёны — драўляне, славены, валыняне.

З VI—VII стст. пачынаецца доўгі працэс кансалідацыі славянскіх плямёнаў і ранейшага балцкага насельніцтва ў адзіную этнічную супольнасць. Спрыяла гэтаму ўтварэнне дзяржаўных аб'яднанняў.

У канцы X ст. крывічы стварылі нашу першую дзяржаву — Полацкае княства. З сярэдзіны XIII ст. асноўная роля ў дзяржаўным будаўніцтве перайшла да Панямоння, дзе жылі славянскія плямёны крывічоў і дрыгавічоў, а таксама балцкія — літва і яцвягі . Тут узнікла новая дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ), да якой пазней далучыўся і Полацк. На працягу болей чым 500-гадовага існавання ВКЛ на тэрыторыі будучай Беларусі сфарміравалася адметная этнічная супольнасць — **літвіны**. Яны складалі большую частку насельніцтва княства і жылі на асноўнай тэрыторыі дзяржавы ад Гародні да Вільні, ад Полацка, Мсціслава, Гомеля да Турава, Пінска, Берасця. **Назва «літвіны» стала гістарычным этнонімам беларусаў.** На ўскраінах ВКЛ жылі іншыя народы, якія захоўвалі сваю этнічную адметнасць, сярод іх — балцкае насельніцтва (жамойты, аўкштайты) — продкі сучасных літоўцаў. У сувязі з гэтым існаваў і палітонім «літвіны», які азначаў дзяржаўную прыналежнасць усіх жыхароў ВКЛ.

Напрыканцы XVIII ст. Вялікае Княства Літоўскае, якое на той час уваходзіла ў канфедэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, страціла свой суверэнітэт у выніку трох падзелаў канфедэрацыі паміж Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Беларускія землі былі далучаны да Расейскай імперыі.

Змена палітычнай сітуацыі адмоўна паўплывала на нацыянальнае жыццё народа. Царскія ўлады праводзілі палітыку татальнай русіфікацыі Беларусі. Паступова знікла з ужытку сама назва «літвіны». У складзе Расейскай імперыі за нашымі землямі замацавалася назва **«Белая Русь», «Беларусь»**, якая раней ужывалася ў дачыненні да ўсходніх раёнаў нашай краіны, праваслаўных жыхароў якіх называлі «русінамі». Назва не мела дачынення да расейскіх земель, што ў той час былі вядомы як Масковія.

Аднак і назва «Беларусь» не адпавядала стратэгічным мэтам імперскіх уладаў. У 1840 г. адмысловым царскім указам назвы «Беларусь» і «Літва» было забаронена выкарыстоўваць у афіцыйных дакументах. У адносінах да нашых земель пачало ўжывацца абразлівае, пазбаўленае усялякай нацыянальнай адметнасці найменне — «Северо-Западный край». Такім чынам, літвіны-беларусы ў афіцыйным жыцці Расеі нібыта спынілі сваё існаванне як асобны народ. Але ў рэальнасці яны працягвалі захоўваць свае нацыянальныя традыцыі, культуру і мову.

У другой палове XIX ст. нацыянальная інтэлігенцыя, якая выступала за адраджэнне свайго народа і яго дзяржаўнасці, аднавіла назвы **«Беларусь»** і **«беларусы»** як сімвал пратэсту супроць расейскага ўціску. Пад гэтаю назваю наш народ увайшоў у XX ст., замацаваў яе за сабою ў сусветнай супольнасці і ўступае з ёю ў новае тысячагоддзе. **Але нам неабходна памятаць, што мы — нашчадкі літвінаў, прадаўжальнікі іх патрыятычных спраў.**

Нацыянальны і сацыяльны прыгнёт, які адчуваў на сабе беларускі народ пад уладаю расейскага царызму, не мог стрымаць жывую плынь далейшага развіцця нацыі ў XIX ст. Разбурэнне натуральнай гаспадаркі, развіццё новых эканамічных адносін стварылі на беларускіх землях магчымасці для пашырэння гаспадарчых і культурных кантактаў. Міграцыя насельніцтва садзейнічала далейшаму фарміраванню агульнай культуры, мовы, умацаванню этнічных сувязяў і, як вынік, нацыянальнаму самавызначэнню. Як і ў іншых народаў, у беларусаў адбываўся працэс пераўтварэння ў адзіную нацыю.

Страта беларусамі ўласнай дзяржаўнасці ў Расейскай імперыі прывяла да цяжкіх наступстваў. Адбыліся прынцыповыя змены ў сацыяльным складзе беларускага народа. Вынікі перапісу 1897 г. сведчылі пра тое, што беларусы ўжо не з'яўляліся сапраўднымі гаспадарамі на сваёй Бацькаўшчыне, як гэта было ў часы незалежнага існавання Вялікага Княства Літоўскага. **Нязначнай была беларуская прысутнасць у прамысловасці і гандлі.** Сярод гарадскога насельніцтва было толькі 14,5% беларусаў. Варта згадаць, што ў XVI ст. гэты паказчык складаў болей за 80%. Адпаведна і беларускае нацыянальнае жыццё ў Расейскай імперыі было зведзена да этнаграфічнага ўзроўню. **Старажытны еўрапейскі народ, які меў сваю паважаную ў Еўропе дзяржаву з моцнай гаспадаркай, дэмакратычным ладам жыцця, высокаразвітай культураю, паступова ператваралі ў «мужыцкую нацыю».**

Нацыянальнае адраджэнне беларусаў у пачатку XX ст., якое сталася магчымым ва ўмовах крызісу і развалу Расейскай імперыі, было жорстка перапынена савецкімі палітычнымі рэпрэсіямі. У выніку амаль цалкам была вынішчана беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, беларускія дзяржаўныя і гаспадарчыя кіраўнічыя кадры. Беларусы, як і іншыя народы былога Савецкага Саюза, перажылі таксама цяжкія наступствы палітыкі дэнацыяналізацыі і зліцця ўсіх народаў у «адзіны савецкі народ».

**З пазіцыі сённяшняга дня добра відаць, што за два стагоддзі страты дзяржаўнасці беларуская нацыя амаль у кожным пакаленні давала плеяду нацыянальна свядомых выдатных асобаў і кожны раз большасць з іх бязлітасна знішчалася або мусіла пакінуць краіну. Наш гістарычны досвед яскрава сведчыць аб тым, што паўнавартаснае развіццё нацыі можа забяспечыць толькі ўласная незалежная дзяржава.**

Лепшыя сыны Беларусі разумелі гэта і змагаліся за аднаўленне незалежнасці Бацькаўшчыны. Сёння перад намі стаіць задача замацавання дзяржаўнай самастойнасці, а разам з тым і захавання самой беларускай нацыі.

Складанасці гістарычнага лёсу не перапынілі этнічнай кансалідацыі нашага народа. **Беларусы здолелі аформіцца ў самастойную нацыю, якая мае сваю тэрыторыю, мову, культуру, жыве ў адзінай эканамічнай прасторы.** Беларускі этнас вызначаецца адметным нацыянальным характарам, ментальнасцю, іншымі, толькі яму ўласцівымі асаблівасцямі, што вылучаюць яго ў сусветнай супольнасці. Найбольш характэрнымі нацыянальнымі рысамі нашага народа з'яўляюцца якасці, якія высока шануюцца ў чалавечым грамадстве: дабрыня, працавітасць, адказнасць, талерантнасць, гасціннасць, непрыняцце гвалту і жорсткасці. Аб сутнасці душы беларусаў дае ўяўленне іх схільнасць да светлых колераў адзення, мілагучныя душэўныя песні, прасякнутыя глыбокім гуманізмам казкі і легенды, увесь беларускі фальклор. Аднак у складаных сітуацыях, у самых, здавалася б, безнадзейных абставінах беларусы заўсёды выяўлялі незвычайную стойкасць, мужнасць, ваярскую здольнасць абараняць Бацькаўшчыну. Такія якасці нашага нацыянальнага характару ўратавалі беларускую нацыю ад знішчэння і даюць нам цвёрдую веру ў гістарычную перспектыву.

На фарміраванне нацыянальнага характару беларусаў істотна паўплывала **рэлігія.** Нашы старажытныя продкі маліліся язычніцкім багам. Галоўным язычніцкім богам напярэдадні прыняцця хрысціянства быў грозны Пярун — бог грому і маланкі, апякун ваяроў. Шанаваліся таксама Вялес (бог жывёлагадоўлі і багацця), Ярыла (бог вясны і ўрадлівасці), Жыжаль (бог агню) ды іншыя. Нашы продкі з цягам стагоддзяў захоўвалі язычніцкія абрады — гуканне вясны, Купалле, Дзяды, пахаванне стралы. Некаторыя з іх захаваліся да сёння.

**Святло хрысціянскай веры прыйшло ў Беларусь напрыканцы X ст. Першымі прынялі хрост жыхары Полацкага і Тураўскага княстваў.** Смаленскае княства хрысцілася на пачатку XI ст. У кожным княстве ствараліся асобныя епархіі на чале з епіскапамі. Адной з першых у 992 г. была заснавана Полацкая епархія. Епіскапы падпа-

радкоўваліся Кіеўскаму мітрапаліту, а праз яго — Канстанцінопальскаму патрыярху. Побач з усходнім (візантыйскім) абрадам хрысціянства на тэрыторыі Беларусі распаўсюджваўся і заходні (рымскі). Тураўскі князь Святаполк у 1010 г. разам з падданымі прыняў хрышчэнне паводле заходняга абраду.

У адрозненне ад суседніх зямель хрысціянства пашыралася ў нас без прымусу. Гісторыя не захавала фактаў гвалтоўнага пераводу ў хрысціянскую веру. У Беларусі яна доўгі час мірна суіснавала з глыбокімі язычніцкімі традыцыямі.

Пасля афіцыйнага падзелу хрысціянскай царквы ў 1054 г. на дзве канфесіі — праваслаўную і каталіцкую, насельніцтва беларускіх зямель, большасць якога была ахрышчана паводле ўсходняга абраду, сталася праваслаўнай. Уплыў каталіцтва на нашы тэрыторыі пашырыўся напрыканцы XIV ст. пасля Крэўскай уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчаю. Каталіцкую веру прымала пераважна балцкае насельніцтва. На тэрыторыі Беларусі ў той час існавала толькі тры каталіцкія парафіі. Пазней каталіцкае веравызнанне шырока прымала апалячаная беларуская шляхта.

Шмат хто з беларусаў у сярэднявеччы далучыўся да руху Рэфармацыі і стаў пратэстантам. Найбольш распаўсюджанай у Беларусі была такая плынь пратэстантызму, як кальвінізм.

У выніку Берасцейскай уніі 1596 г. у Вялікім Княстве Літоўскім узнікла новая царква— уніяцкая, або грэка-каталіцкая, якая захавала ўсходнюю абраднасць, але прызнала вяршэнства папы рымскага.

Беларусь належала да хрысціянскага свету. Хрысціянская мараль адпавядала характару беларусаў і ляжала ў аснове маральных каштоўнасцяў нашага народа. Побач з хрысціянскаю верай у Беларусі мірна існавалі і іншыя веравызнанні — мусульманства, іудаізм. Жывучы на мяжы двух светаў — заходняга і ўсходняга — нашы продкі выхоўвалі ў сабе павагу да розных рэлігійных арыентацый, тым самым зберагаючы мір і спакой у сваёй дзяржаве. Высакародны дух рэлігійнай талерантнасці быў уласцівы беларусам на працягу ўсёй гісторыі і стаў адметнай рысаю нацыянальнага характару.

**Мінуўшчыну, сённяшні дзень і будучыню беларускай нацыі лучыць наша мова, што ўзнікла ў старажытнасці і сфарміравалася разам з беларускім этнасам.** Беларуская мова належыць да славянскай групы індаеўрапейскай моўнай сям'і. Як і ў іншых еўрапейскіх народаў, у беларусаў першапачаткова існавала вусная моватворчасць. У X ст. з прыняццем хрысціянства з'явілася пісьмовая мова на стараславянскай аснове, якую заклалі знакамітыя славянскія асветнікі Кірыла і Мяфодзій. Яе ўсходні варыянт вядомы пад назваю «царкоўнаславянская мова». На ёй пісалася і перапісвалася царкоўная літаратура ў часы Еўфрасінні Полацкай. У свецкіх дакументах выкарыстоўвалася не толькі царкоўнаславяншчына, але і жывая народная гаворка. Так яшчэ ў X—XIII стст. пачала фарміравацца самастойная **старажытнабеларуская** мова. Яна паступова пранікала ў царкоўную літаратуру і выцясняла царкоўнаславяншчыну. Прыкладам гэтага стала выданне Францішкам Скарынам Біблії на зразумелай простаму люду мове. Паслядоўнікі Скарыны — Сымон Будны і Васіль Цяпінскі — працягвалі традыцыю беларускага кнігадрукавання.

**Беларуская мова дасягнула росквіту ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе яна была асноўнай пісьмовай моваю дзяржавы ад самага яго стварэння ў XIII ст.** У той час шмат якія еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку суседняя Польшча, карысталіся ў дзяржаўных справах лацінаю. **З гэтай прычыны беларускую мову можна лічыць адной з найстаражытнейшых нацыянальных дзяржаўных моваў у Еўропе.** Напрыклад, англійская мова набыла статус дзяржаўнай у 1362 г., а французская толькі ў 1400-м.

Аднак ужыванне беларускай мовы стала звужацца пасля аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага з Польшчаю ў канфедэрацыю — Рэч Паспалітую (1569), і ў хуткім часе пачаўся працэс паланізацыі. У 1696 г. беларуская мова ў справаводстве ВКЛ была заменена на польскую. Пасля далучэння да Расейскай імперыі беларуская мова была цалкам выведзена з пісьмовага ўжытку. Усё гэта прывяло да таго, што старабеларуская пісьмовая мова часоў Вялікага Княства Літоўскага паступова адышла ў мінулае.

Адраджэнне нацыянальнай пісьмовай мовы было распачата беларускай інтэлігенцыяй у першай чвэрці XIX ст. Працэс фарміравання новай літаратурнай мовы расцягнуўся больш чым на стагоддзе. Ён рэзка паскорыўся на пачатку XX ст., калі ў 1906 г. у Вільні пачалі выдавацца першыя беларускія газеты — «Наша доля» і «Наша ніва». **Адроджаная беларуская мова набыла дзяржаўнае прызнанне ў час існавання Беларускай Народнай Рэспублікі, незалежнасць якой была абвешчаная 25 сакавіка 1918 г.**

Сучасная літаратурная беларуская мова развівалася на аснове шматдыялектнай народнай. У 1918 г. вядомы дзеяч Беларускага адраджэння Браніслаў Тарашкевіч унармаваў правілы пісьма і выдаў першую граматыку беларускай мовы. Яна шырока выкарыстоўвалася ў адукацыі і атрымала ў далейшым у народзе назву«тарашкевіца». На пачатку 30-х гадоў, калі ўсталявалася сталінская дыктатура, правапіс Тарашкевіча быў істотна зменены ў накірунку русіфікацыі. Гэты рэфармаваны правапіс, або, як яго яшчэ называюць, «наркамаўка», працягвае выкарыстоўвацца ў якасці афіцыйнага і ў нашай сучаснай дзяржаве. «Тарашкевіца» захоўвалася ў Заходняй Беларусі, затым у асяроддзі эміграцыі, якая карыстаецца класічным беларускім правапісам і сёння. У самой Беларусі «тарашкевіца» зноў з'явілася ў друку ў час новага беларускага адраджэння. На «тарашкевіцы» выдаецца цяпер адноўленая газета «Наша ніва», яе выкарыстоўваюць іншыя незалежныя выданні.

**Дэмакратычныя працэсы канца 80-х гадоў прывялі да аднаўлення дзяржаўнага статуса беларускай мовы. 26 студзеня 1990 г. быў прыняты Закон аб мовах, які вызначаў адзінай дзяржаўнай моваю ў Беларусі беларускую.** Гэты яе статус быў замацаваны ў першай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. Аднак змаганне за адраджэнне сваёй мовы для беларускага народа на гэтым не скончылася. У выніку рэферэндуму 1995 г. статус дзяржаўнай быў нададзены і расейскай мове, што дазволіла ўладам ператварыць яе практычна ў адзіную дзяржаўную мову ў Беларусі. Ізноў беларуская мова, мова тытульнай нацыі дзяржавы, апынулася перад пагрозаю выцяснення са сваіх родных абшараў. Зноў беларусы мусяць змагацца за матчына слова. Зноў надзвычай актуальна гучаць неўміручыя словы Францішка Багушэвіча: **«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»**

**Наш абавязак — захавацца ў новым тысячагоддзі як самастойная этнічная супольнасць. Будзьма верыць, што глыбокія карані нашай мінуўшчыны і надалей утрымаюць на зямлі беларускае радаводнае дрэва!**

# NATION



The origin of the Belarusian nation goes back to very ancient times. The Belarusians belong to **the very ancient** European peoples. Our nation, the same as many others, was formed as the result of a series of migrations of the ancient inhabitants of Asia and Europe and their blending with tribes living at different times on the territory of the present day Belarus.

Archeological sources tell us that the most ancient inhabitants of the Belarusian territory were European aboriginals. Some 3 thousand years ago Finno-Ugric tribes from the Urals migrated to the territory which would become Belarus. In 2 thousand years BC Indo-European tribes from Asia began settling in Europe. At first these were Baltic tribes that assimilated both aboriginals and Finno-Ugric tribes.

It is in Herodotus — an Ancient Greek historian and geographer — that the first mentions of our ancestors are found. He described the war between the Persian Tsar Darius and the Scythians that took place on the territory of the contemporary Ukraine in 513 BC. According to Herodotus, there were the Neurs or Narts settled not far from the Budzins or Hudzins on the territory of the present Belarus north of the Scythians.

Early in the first millennium the territory of our country was inhabited by the Baltic tribes. In the VIth century the Slavic tribes departed from the Indo-Europeans and began moving to the Belarusian territory. **That is how it happened that ethnic traits of our nation distinguish us from the Russian, Ukrainian, and other Slavic nations which also have Indo-European roots (Slavic as well as Baltic) and Finno-Ugric elements.** But this conception used to be strongly criticized in the Soviet period. Official historians claimed one common origin for 'the three brotherly Slavic nations' out of the Old-Russian nation. And the Russians, the Ukrainians, and the Belarusians were referred to these 'brotherly nations'. Based on this erroneus concept, the idea of a common state and common history for these nations was cultivated. However, each nation has its own origin, and this is supported by a number of historical sources.



Жыхары старажытных беларускіх княстваў
Княжацкая сям'я («Гістарычны атлас Беларусі»)
Resedents of ancient Belarusian principalities
Duke's family (*Historic Atlas of Belarus*)



Жыхары старажытных беларускіх княстваў
Гараджанка і сяляне (Л. Дучыц «Касцюм жыхароў Беларусі X—XIII стст.»)
Resedents of ancient Belarusian principalities
Townswoman and peasants (*Belarusian Dress of the Xth-XIIIth c* by L. Duchyts)





Жыхары Вялікага Княства Літоўскага XVI ст.
Багатыя гараджане (паводле Л. Малчанавай)
Resedents of the Grand Duchy of Lithuania of the XVIth c
Rich townsfolk (according to L. Malchanava)



Баярын Вялікага Княства Літоўскага.
Сярэдзіна XVI ст.
Nobleman from the Grand Duchy of
Lithuania. The middle XVIth c



Багатыя нявесты
*Малюнак Ю. Косака*
Rich brides
Drawn by Yu. Kosak





Жыхары Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVII стст.
Прадстаўнікі знаці (паводле Л. Малчанавай)
Resedents of the Grand Duchy of Lithuania of the XVIth-XVIIth c
Noblemen (according to L. Malchanava)



Літвіны-беларусы
Belarusians-Litviny



Шляхціц
Nobleman



Сяляне ў святочных уборах. 1910-я гг. Чэрск. Брэсцкі р-н
(М. Раманюк «Беларускае народнае адзенне»)
Peasants in a holiday dress, the 1910s. Chersk, Brest District.
(*Belarusian National Dress* by M. Ramaniuk)



Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (трэці злева) з дачкой Камілай і
мінскай інтэлігенцыяй. Сярэдзіна XIX ст.
Vintsent Dunin-Martsinkievich (the third from the left) with his daughter Kamila and Minsk
intelligentsia. The middle XIXth c






Беларускае народнае адзенне (паводле М. Раманюка)
Belarusian national dress (according to M. Ramaniuk)



Жанчына ў старадаўнім строі з наміткай 1920-х гг. Яўсімавічы, Кобрынскі р-н
(М. Раманюк «Беларускае народнае адзенне»)
Woman in a traditional dress with a namitka (kind of kerchief), the 1920s. Yausimavichy, Kobrin District (*Belarusian National Dress* by M. Ramaniuk)



Дзяўчына ў традыцыйным святочным строі 1920-х гг. Морач. Клецкі р-н
(М. Раманюк «Беларускае народнае адзенне»)
Girl in a traditional holiday dress, the 1920s. Morach, Klietsk District.
(*Belarusian National Dress* by M. Ramaniuk)



Мужчына ў традыцыйнай кашулі 1930-х гг. Збляпы. Лідскі р-н
(М. Раманюк «Беларускае народнае адзенне»)
Man in a traditional shirt, the 1930s. Zbliapy, Lida District.
(*Belarusian National Dress* by M. Ramaniuk)

There were a few Slavic tribes settled on the territory of Belarus: the Kryvichy (Vitsebsk, Smalensk, Vilnya, and partly Harodnya and Nievel lands), the Dryhavichy (Central Belarus and Northern Paliesie), the Radzimichy (Mahiliou, Homel, and Western Bransk lands). There were also other Eastern-Slavic tribes settled: the Drauliane, the Slavieny, the Valyniane.

In the VIth-VIIth century a long consolidation and assimilation process of the former Baltic communities by Slavic tribes began. The process of state formation was greatly conductive to it.

At the end of the Xth century the Kryvichy formed our first state, the Polatsk principality. Since the middle of the XIIIth century a leading role in state formation was taken by the Slavic tribes of Kryvichy and Dryhavichy and the Baltic tribes of Litva and Yatsviahi settled along the Nioman. Right there a new Slavic-Baltic state — the Grand Duchy of Lithuania (the GDL) — was formed with Polatsk as a later part of it. Throughout the five-century history of the GDL a unique nation of **Litviny** (Litsviny) was being formed on the territory of contemporary Belarus. This nation composed the major part of the Duchy settling from Harodnya to Vilnya, from Polatsk, Mstsislau, Homel to Turau, Pinsk, Bierastsie. **In such a way, the name 'Litviny' became the historical ethnic name of the Belarusians.** The borderlands of the GDL were inhabited by other peoples from different ethnic groups with the Balts (the Zhamoity, the Aukshtaity), who were the forefathers of the modern Lithuanians, among them. It was the time when the word 'Litviny', meaning 'a citizen of the GDL', appeared.

In the late XVIIIth century the GDL, while a part of the Polish Commonwealth (Rzecz Pospolita), lost its independence in the result of annexion by Russia, Austria, and Prussia. The Belarusian lands became a part of the Russian Empire.

Such changes in the political life of the State had a bad influence on national life. A policy of total russification was inflicted on the Belarusian territory. A bit later even the name 'Litviny' was no longer relevant. Instead, the name **'Bielaya Rus'** or **'Belarus'** began to be used in reference to our lands annexed by Russia. Earlier the Orthodox population of our Eastern lands was called 'Rusiny', and that name did not correspond to the Russian lands, which were known as Muscovy.

But even the name 'Belarus' did not cohere with the strategic policy of the imperial power. In 1840 the names 'Belarus' and 'Lithuania' were forbidden in official documents according to a special edict by the Tsar. Later it was replaced by the insulting name 'North-Western lands' as if our land was a Russian province with no national peculiarities. Thus, the Litviny-Belarusians were no more a people in the official life of Russia. But in reality, they still were a nation with a unique culture and language.

In the second half of the XIXth century the national patriotic intelligentsia, who fought for the national and political revival of our Motherland, renewed the name **'Belarus', 'the Belarusians'** as a symbol of national independence. With this name our people went into the XXth century, by this very name our nation was acknowledged in the world community, and is entering a new millennium. **But we should always remember that we are the successors of the Litviny and followers of their patriotic principles.**

And in the XIXth century, at a time of harsh national and social opression of the Belarusians by the Russian tsarist government, it was already impossible to stifle a fresh spring of ethnical national development. Decline of natural economy and the development of new economic relations gave great opportunities for the spreading of economic and cultural contacts on the Belarusian lands. Inner migration processes facilitated further formation of a common culture and language, strengthened ethnic interconnections, and were conducive to national self-determination. So, in circumstances that traced similar nation formation processes, the Belarusian nation was formed.

It should be mentioned that loss of statehood and the role of a province in the Russian Empire were almost fatal in the life of the Belarusian nation. Changes in social structure were especially crucial. According to the results of the census of 1897 the Belarusians were no longer lords in their native land, as they had been at the time of the Grand Duchy of Lithuania. **Then it was hard to find a Belarusian in the major fields of economics and trade.** Only 14.5% of urban citizens were Belarusian, compared with the more than 80% of Belarusian urban population in the XVIth century. Correspondingly, the national life of the Belarusian people returned to an ethnographic level. **An ancient European nation, which once formed a flourishing state with well-developed economics, its own democratic traditions, and high culture, was gradually being turned into 'the nation of peasants'.**

The national revival of the Belarusian people at the turn of the XXth century, possibly because of crises and the crash of the Russian Empire, was severely suppressed by a Soviet policy of repression. As a result, the young Belarusian national intelligentsia and the Belarusian political and economic leaders were almost totally destroyed. The Soviets gave no chance for national development because of the denationalization policy when all the nations of the former USSR were supposed to become 'one single Soviet nation'.

It is quite clear now that despite two centuries of dependence there were great patriots in each generation, but each time they were either cruelly destroyed or deported from the Motherland. One can surely learn from our experience that without independence there will not be a strong, sound nation.

The best sons of Belarus were well aware of the need to fight for independence. And now there is an acute need to consolidate state independence as well as to preserve the very Belarusian nation.

But the difficulties of historic fortune did not stop ethnic consolidation of our people. **There is a Belarusian nation with its territory, language, culture living in a distinct economic area.** A remarkable national character, mentality, and certain unique peculiarities define the Belarusian ethnos. Among the most characteristic traits of our people are qualities highly valued in the world community, such as kindness, diligence, responsibility, tolerance, hospitality, hatred of oppression and cruelty. To understand the Belarusian soul better, one can observe their devotion to light colours in cloths, their soft lyrical melodies, kind humanistic fairy-tales and legends, the whole Belarusian folklore. But it doesn't mean in the least that the Belarusian people were nor brave and intelligent, nor that they could put up a stubborn defense of their Motherland. Such fortitude saved our nation from destruction in the past and let us hope to exist as a nation in the future.

**Religion** played an important role in the formation of the Belarusian character. Our ancestors were **pagans.** The chief pagan god, before Christianity was adopted, was the formidable Piarun — the god of thunder and lightning, who was considered to be the guardian of military glory. Viales (the god of stock breeding and wealth), Yaryla (the god of spring and fertility), Zhyzhal (the god of fire), and some others were much honoured as well. The centuries went by, but our ancestors kept performing pagan rituals — spring-calling, Kupalie, the arrow ritual, and others. Some of them are followed until now.

**Christianity started enlightening our lands in the late Xth century. The citizens of the Polatsk and Turau principalities became the first Christians**. The Smalensk principality accepted Christianity in the early XIth century. There was a separate eparchy with a bishop established in each principality. The establishment of the Polatsk eparchy, one of the first in the land, goes back to 992. Bishops were headed by the Kiev Metropolitan who was, in his turn, subordinated to the Constantinople patriarch (Byzantium). Meanwhile, Eastern (Byzantine Orthodox) tradition was spreading on the Belarusian territory along with Western (Roman Catholic). Prince Sviatapolk of Turau with his people became Christians according to Western tradition in 1010.

If compared to nearby countries, the spreading of Christianity caused almost no cruelty. At least no facts are known. And for a long time both Christianity and Pagan religions were peacefully co-existing.

After Christianity was officially divided in the Orthodox and Catholic traditions in 1054, the Belarusian people became Orthodox, which has prevailed as a tradition in our land. The influence of Catholicism became more considerable at the end of the XIVth century after the Kreuskaya Unia was signed by the Grand Duchy of Lithuania and Poland. It was mainly the Balts who became Catholics. There were only three Catholic parishes on the territory of Belarus at that time. Later, a part of the Belarusian nobility, devoted to Poland, was also catholicized.

Quite a few Belarusians took part in the Reformation and became Protestants (mostly Calvinists) in the Middle ages.

In 1596 a new Uniate (or Greek-Catholic) church, that united both Orthodox and Catholic traditions in one (it adopted Orthodox rituals and the rule of the Pope), was established in the Grand Duchy of Lithuania.

Christianity became the dominant religion in Belarus. Christian morality was coherent with the Belarusian character and became the base for our moral values. Along with Christianity there were a few other religions, such as Islam and Judaism, peacefully co-existing in Belarus. Living on the border of the East and the West, our ancestors cultivated tolerance and respect for different religions, and learnt to live in peace. No wonder, the Belarusians were remarkable for such religious tolerance throughout the centuries, and it has become a national trait of character.

**The past, the present, and the future are united together by the national language, that appeared in antiquity and has been formed along with the Belarusian ethnos.** Belarusian belongs to the Slavic group of the Indo-European linguistic family. The Belarusians, like other European nations, used only a spoken language at first. In the Xth century Christianity brought a written language, the old Slavic base of which was laid by the famous Slavic enlighteners Cyrill and Methodius. The Eastern variant of the Old Slavonic language is known as *Church Slavonic*. And at the time of Euphrasinia Polatskaya religious literature was written and rewritten in it. But for secular documents, both the Church Slavonic and the common language were used. So, it is true to say that in the Xth-XIIIth centuries the process of formation of **the Old Belarusian language** had already begun. As time went by, it was more and more used in religious literature and step by step replaced Church Slavonic. The Bible, printed by Frantsysk Skaryna in a clear language, can serve as a fine example. Later, Symon Budny and Vasil Tsiapinski followed Skaryna's steps and printed books entirely in their mother tongue.

**The golden age of the Belarusian language is considered to be the time of the Grand Duchy of Lithuania where it had been the principal official language since the very time of the state's formation in the XIIIth century.** It was the time when Latin was used as a formal language in state affairs in most European countries as well as in Poland. **That is why, it is fair to evaluate Belarusian as one of the most ancient official national languages in Europe.** Compare it to English and French, adopted as state languages in 1362 and 1400 correspondingly.

But after the Grand Duchy of Lithuania and Poland formed the Polish Commonwealth (Rzecz Pospolita) in 1569 with considerable domination by Poland, Belarusian was no longer widely used. In 1696 Polish replaced it in the state documents of the GDL. And after the Russian Empire annexed the Belarusian lands, there was no place for written Belarusian anywhere. These events resulted in a gradual extinction of the written Old Belarusian of the time of the Grand Duchy of Lithuania.

Restoration of the national written language was started by the Belarusian intelligentsia in the first quarter of the XIXth century. The formation of a new literary language took

more than a century. In the early XXth century it was much encouraged by the publication of the first newspapers in Belarusian in Vilnya in 1906. These were *Nasha Niva* (*Our Cornfield*) and *Nasha Dolya* (*Our Piece of Luck*). **At the time of the Belarusian People's Republic, proclaimed on 25th March 1918, the renewed Belarusian language obtained a state recognition.**

The modern literary Belarusian language was developed on the base of numerous dialects. It was the year 1918, when a famous leader of the Belarusian Renaissance Branislau Tarashkievich standardized the writing rules and published the first book of Belarusian grammar. It was widely used in education and a bit later was named *tarashkievitsa* by common people. But in the beginning of the thirties, in time of Stalin's dictatorship, Tarashkievich's orthography was considerably changed to make it similar to Russian. And this reformed orthography, sometimes called *narkamauka*, is officially adopted in contemporary Belarus. *Tarashkievitsa* was mainly preserved in Western Belarus and among Belarusian emigrants, who continue to be devoted to it. In Belarus itself *tarashkievitsa* once more appeared in printing at the time of the new Belarusian Renaissance. Nowadays a number of independent editions as well as the renewed newspaper *Nasha Niva* are published in *tarashkievitsa*.

**The democratic processes of the late 80s led to resuming the official status of Belarusian. On 26th January, 1990 the Law of languages was adopted; according to which Belarusian was proclaimed the only official language of Belarus**. This was also fixed in the first Constitution of the Republic of Belarus in1994. But there seems to be no end to fighting for Belarusian. In 1995 a referendum was held, and it resulted in proclaiming Russian the other state language of Belarus. This let the government make it in actuality the only official language of Belarus. Once more there is a threat of disappearance for Belarusian. Once more we have to fight for our mother tongue. And nowadays the unforgettable words by Frantsishak Bahushevich are as actual as they can be, "**With the mother tongue dead, there will be no Belarusian alive!**"

***Our duty is to preserve the independence of our ethnic community in the next millennium. One may hope that deep ancient roots of our Belarusian family tree are strong enough to let it endure forever.***

# ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ



**Галоўнае дасягненне беларускай нацыі на яе гістарычным шляху — уласная дзяржаўнасць.** Элементы дзяржаўнай арганізацыі на нашай зямлі ўзніклі ў І тысячагоддзі н. э. Старажытныя саюзы плямёнаў паступова перараслі ў раннефеадальныя дзяржавы — княствы. Найбольш буйным з іх было Полацкае.

Упершыню летапіс паведамляе пра Полацкае княства каля 980 г., калі згадваецца князь Рагвалод, што ўладарыў у Полацку. **Полацкае княства было нашай першай дзяржаваю з усімі адпаведнымі атрыбутамі — суверэннай уладаю княжацкай дынастыі і веча, з узятымі пад ахову межамі, з адміністрацыяй, уласнымі войскамі, грашовай сістэмай. Полацкая дынастыя Рагвалодавічаў запачаткавала радавод беларускіх князёў.** У гістарычных дакументах шмат разоў прыгадваюцца Рагвалодава дачка Рагнеда, князі Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей. Найвышэйшай магутнасці княства дасягнула ў другой палове XI ст. пры Усяславе Чарадзеі. У гэты час у Полацку быў збудаваны велічны Сафійскі сабор, які сімвалізаваў роўнасць Полацка з Ноўгарадам і Кіевам. Полацкае княства ахоплівала большую частку тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яно было марской дзяржаваю, бо яму належалі землі ўздоўж Дзвіны да Балтыйскага мора, дзе пачынаўся вялікі гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі». Гэта было важнай прычынаю эканамічнага і палітычнага росквіту княства. Прызнаннем міжнароднага аўтарытэту нашай першай дзяржавы было блізкае сваяцтва Рагвалодавічаў з візантыйскім імператарскім домам Комнінаў. Дачка князя Усяслава Чарадзея стала жонкаю візантыйскага кесара Аляксея.

**Моцнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на тэрыторыі Беларусі ў той час былі Тураўскае і Смаленскае княствы.** У перыяд феадальнай раздробленасці значную ролю адыгрывалі Менскае, Гарадзенскае, Наваградскае, Пінскае, Віцебскае, Друцкае ды іншыя княствы.

У сярэдзіне XIII ст. Полацкае княства страціла сваю значнасць цэнтра палітычнага жыцця на беларускіх землях. Далейшае развіццё нашай першай дзяржавы ўсклад-

няла немецкая экспансія. У 1201 г. немцамі ў вусці Дзвіны была заснавана Рыга, а праз год тут узнік ордэн мечаносцаў (Лівонскі). Гэта стварыла непасрэдную пагрозу для Полацка, які страціў выйсце да мора і пазбавіўся значных эканамічных выгадаў.

У той час знешняя небяспека навісла над усімі абшарамі Беларусі. З поўначы і захаду пагрозу стваралі Лівонскі і Тэўтонскі ордэны, з поўдня і ўсходу — мангола-татарскія орды. У такіх умовах на беларускіх землях пачынае вылучацца новы палітычны цэнтр у Верхнім і Сярэднім Панямонні, дзе існавалі моцныя славянскія гарады — цэнтры княстваў: Новагародак, Гародня, Слонім, Ваўкавыск. Славянскае і балцкае насельніцтва жыло тут уперамешку, «плямамі».

Мірнае суіснаванне славянаў і балтаў і іх супрацоўніцтва былі важнымі прычынамі эканамічнага і культурнага ўздыму рэгёна. Спрыяла паспяховаму развіццю гэтых зямель і выгаднае геаграфічнае становішча. У XIII ст. за рэгіёнам замацавалася назва «Літва». **Менавіта гэтыя землі сталі месцам нараджэння нашай новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.**

Непасрэдным штуршком да развіцця працэса дзяржаваўтварэння стала знешняя небяспека з боку нямецкіх рыцараў і мангола-татараў. Ініцыятыву заснавання новай дзяржавы, што аб'ядноўвала славянскія і балцкія землі і рабілася моцнай перашкодаю на шляху заваёўнікаў, узялі на сябе феадалы найбольш развітага тагачаснага славянскага горада Наваградка (цяпер Навагрудак). У 1240-я гады яны ўступілі ў альянс з адным з найбольш уплывовых балцкіх князёў — Міндоўгам. Міндоўг быў запрошаны на пасад новагародскага князя і, будучы раней язычнікам, прыняў хрысціянства.

**Наваградак адразу вылучыўся як палітычны цэнтр і першая сталіца новай дзяржавы,** да якой былі напачатку далучаны балцкія і славянскія землі ў Цэнтральнай і Паўночна-Усходняй Беларусі. **У 1253 г. вялікі князь Міндоўг са згоды папы рымскага прыняў каралеўскі тытул.** Значных поспехаў у будаўніцтве дзяржавы дасягнуў сын Міндоўга Войшалк.

**У Вялікім Княстве Літоўскім была прынята славянская сістэма дзяржаўнай арганізацыі.** Славянская частка ВКЛ значна пераважала балцкую і была больш развітая ў сацыяльна-эканамічным і культурным плане. Балты ў той час яшчэ былі язычнікамі і нават не мелі свайго пісьменства. **Старабеларуская мова славянскага насельніцтва стала дзяржаўнай моваю ВКЛ.** Беларуская культура дамінавала. Працягвалася славянізацыя мясцовых балтаў, якія пачалі карыстацца беларускай мовай і на побытавым узроўні. Славянская перавага была канчаткова замацавана пасля ўваходжання ў ВКЛ у 1307 г. Полацкага княства.

Далейшаму ўмацаванню ВКЛ спрыяла палітыка забеспячэння адзінства краіны, якую праводзіў вялікі князь **Віцень**. Пры наступных вялікіх князях **Гедзіміне і Альгердзе** Вялікае Княства Літоўскае стала магутнай еўрапейскай дзяржавай. **Тэрыторыя ВКЛ распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора, ад Берасцейшчыны да Акі.** Пераважную частку дзяржавы складалі славянскія землі, балцкія землі займалі ўсяго $^1/_{15}$ плошчы.

У 1323 г. князь Гедзімін перанёс сталіцу ў **Вільню**, якая заставалася палітычным цэнтрам ВКЛ да канца яго існавання. Вільня была заснавана славянамі-крывічамі, што з'явіліся на гэтых землях у VII ст. У XI ст. яна згадваецца як паселішча крывічоў пад назваю Крывы (Крывіч-) горад. У другой палове XI ст. ён стаў цэнтрам княства, на тэрыторыі якога жылі славяне і балты. І пасля знікнення з палітычнай карты свету Вялікага Княства Літоўскага Вільня яшчэ паўтара стагоддзя заставалася для беларусаў цэнтрам палітычнага і культурнага жыцця. У кастрычніку 1939 г. наша старажытная сталіца была перададзена Сталіным Літве.

У выніку знешнепалітычнага ўціску і ўнутраных супярэчнасцяў у 1385 г. ВКЛ заключыла **Крэўскую унію** з Польшчай. Вялікі князь **Ягайла** ў адпаведнасці з дамоваю ажаніўся з польскай каралеваю Ядвігай і быў абвешчаны каралём Польшчы. З боку апошняй адразу былі зробленыя спробы падпарадкаваць сабе ВКЛ.

Аднавіў самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага пасля зацятай барацьбы з Ягайлам вялікі князь **Вітаўт**. У гады яго княжання (1392—1430) ВКЛ дасягнула найбольшага росквіту. У 1422 г. да ВКЛ была канчаткова далучана Жамойць (гістарычная тэрыторыя сучаснай Літвы). Вітаўт Вялікі меў дыпламатычныя адносіны з усімі заходнееўрапейскімі краінамі, з Крымскім ханствам, Асманскай імперыяй, Масковіяй. У сярэдзіне XV ст. адпаведна змянілася і сама назва нашай дзяржавы, якая пачала менавацца **Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім.**

**Менавіта ў час уладарання Вітаўта Вялікае Княства стала вялікім не толькі паводле назвы і тэрыторыі (болей за 900 000 кв. км), але і паводле палітычнай ролі ў тагачаснай Еўропе.**

Наступныя князі ВКЛ — **Казімір, Жыгімонт Стары, Сцяпан Батура (Стэфан Баторы)** ды іншыя працягвалі дзяржаўнае будаўніцтва, але палітычныя і гістарычныя ўмовы не заўсёды спрыялі гэтаму. Наша дзяржава мусіла весці шматлікія войны і часам страчвала свае тэрыторыі.

Вялікае Княства Літоўскае было поліэтнічнай краінай. Асноўную частку яго насельніцтва складалі **беларусы.** Жылі таксама **жамойты, украінцы, палякі**. Напрыканцы XIV ст. у Беларусі з'явіліся **татары**, якіх запрасіў на вайсковую службу князь Вітаўт. У XVI ст. татары перайшлі на беларускую мову і стварылі на ёй свае святыя кнігі. У XIV ст. у ВКЛ з краінаў Заходняй Еўропы пачалі перасяляцца **габрэі.** Паступова яны пачалі займаць прыкметнае месца ў этнічнай структуры, гаспадарчым і культурным жыцці краіны. На нашы землі ўцякалі ад жорсткага пераследу расейскія **стараверы.** Усе жыхары ВКЛ з гонарам называлі сябе ліцвінамі.

Адметнай рысаю беларусаў-ліцвінаў быў дэмакратызм, закладзены яшчэ ў вечавых традыцыях Полацкага княства часоў Рагвалода і Усяслава Чарадзея. Дэмакратызм фарміраваў дух свабоды, маральныя і праўныя ўяўленні пра незалежнасць, разуменне каштоўнасці чалавечай асобы. Менавіта гэтыя прынцыпы сталі асноватворнымі для законаў княства і найперш для **Статутаў ВКЛ — заканадаўчых кодэксаў дзяржавы, прынятых у 1529, 1566 і 1588 гг.** Найбольш дасканалы **трэці Статут** быў падрыхтаваны найлепшымі правазнаўцамі пад кіраўніцтвам выдатных дзяржаўных дзеячаў-беларусаў канцлера ВКЛ Астафея Валовіча і яго пераемніка Льва Сапегі.

Статут 1588 г. быў самым перадавым зборам законаў у тагачаснай Еўропе. Ён дзейнічаў на працягу двух з паловаю стагоддзяў, да 1840 г. Напісаны і выдадзены на **беларускай мове,** ён быў даступны кожнаму ў той час, як у Еўропе шмат якія краіны мелі законы, выкладзеныя на незразумелай простаму народу лаціне. **Усё дзяржаўнае справаводства ВКЛ тады вялося на беларускай мове**, аб чым яскрава сведчаць дакументы архіва княства, які мае назву Метрыка ВКЛ. (Гэты збор, які складае каля 600 тамоў справаводства, вывезены ў Расею і захоўваецца цяпер у Маскве.)

Статуты закладалі ў нашай краіне асновы праўнай дзяржавы, дзе пануе закон, а не ўласная воля валадара. Ужо ў Статуце 1529 г. прадугледжвалася, што ўсе жыхары ВКЛ павінны судзіцца адным гэтым правам. Паводле Статута 1566 г. усе паны, шляхта, баяры, мяшчане і простыя людзі абвяшчаліся паўнапраўнымі грамадзянамі. Прадугледжвалася абмежаванне ўлады вялікага князя праз такія інстытуты дзяржаўнасці, як Сойм і Рада. Быў закладзены **падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую**.

**Статут ВКЛ 1588 г. па праву лічыцца ў свеце класічным узорам заканадаўства эпохі сярэднявечча.** Ён замацоўваў суверэнітэт княства, грамадскі і дзяржаўны лад,

правы і абавязкі жыхароў, прынцыпы судовага ладу. Статут заканадаўча сцвярджаў ідэю рэлігійнай талерантнасці і бараніў правы людзей незалежна ад веравызнання. **Вялікі князь быў абавязаны захоўваць недатыкальнасць межаў дзяржавы і вяртаць страчаныя раней землі.** Грунтоўна было распрацавана крымінальнае права. Уводзілася прэзумпцыя невінаватасці. Статут 1588 г. стаў ці не першым ў Еўропе кодэксам, які рашуча абараняў прыроду.

Трэці Статут ВКЛ быў перакладзены на польскую, расейскую, нямецкую ды іншыя мовы. Ён значна паўплываў на юрыдычную думку Польшчы, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Расеі.

Асноўнымі сацыяльнымі катэгорыямі ў ВКЛ былі сяляне, мяшчане і шляхта. Галоўная роля ў дзяржаве належала шляхце. Яна выбірала караля, удзельнічала ў кіраванні дзяржаваю, несла асноўны цяжар абароны Айчыны, развівала культуру і асвету краіны. Арыстакратычныя вярхі шляхецкага стану называліся магнатамі. Найбольш вядомымі магнацкімі родамі ў Беларусі былі Агінскія, Алелькавічы, Астрожскія, Гальшанскія, Гаштольды, Друцкія, Кезгайлы, Кішкі, Радзівілы, Сангушкі, Сапегі, Солтаны, Пацы, Тышкевічы, Хадкевічы, Храптовічы, Чартарыйскія. Беларуская шляхта падтрымлівала сувязі з еўрапейскім дваранствам, удзельнічала ў рыцарскіх турнірах у Еўропе. Прадстаўнік роду Солтанаў у XV ст. атрымаў бургундскі ордэн Залатога руна, узнагароду, якая давалася толькі за вялікія заслугі і якую марылі атрымаць многія еўрапейскія дваране.

Вялікае Княства Літоўскае мела ўласную дзяржаўную сімволіку, якая была звязана з гістарычным лёсам краіны і адлюстроўвала адметнасць беларускай зямлі і яе насельніцтва. **Дзяржаўным гербам ВКЛ у 1295 г. стаў герб Наваградка і Полацка — Пагоня.** Узброены вершнік, які сімвалізаваў вобраз абаронцы нашай дзяржавы, спачатку ўжываўся як вайсковы. Першым Пагоню выкарыстаў вялікі князь Віцень. **На пачатку XVI ст. з'явілася бел-чырвона-белая харугва, якая стала правобразам нашага дзяржаўнага нацыянальнага сцяга**. Найбольш ранняя выява яе ёсць на батальным палатне, прысвечаным бітве з маскоўскім войскам пад Воршаю ў 1514 г., што захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. Дзяржаўная сімволіка ВКЛ была адроджана ў другой палове XIX ст. паўстанцамі Кастуся Каліноўскага. Дзяржаўнымі сімваламі Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг зноў сталі пры абвяшчэнні ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а потым у 1991г., калі была абвешчана незалежная Рэспубліка Беларусь. Аднак у 1995 г. замест нашых гістарычных сімвалаў у якасці дзяржаўных былі ўведзены, па сутнасці, старыя савецкія сімвалы, якія не маюць пад сабой гістарычнай глебы.

**ВКЛ стварыла трывалую эканамічную аснову, мела незалежную грашовую сістэму.** Галоўная роля ў эканамічным жыцці ВКЛ належала сельскай гаспадарцы. Аснову яе складалі буйныя феадальныя гаспадаркі — фальваркі, дзе вырошчваліся жыта, пшаніца, авёс, бабовыя культуры, гародніна, лён, канапля ды іншыя сельскагаспадарчыя культуры. Прыкметная роля ў гаспадарцы дзяржавы належала паляўнічтву, рыбалоўству, бортніцтву. Высокай ступені развіцця дасягнулі вытворчасць шкла, ганчарства, вінакурэнне, гарбарства, будаўнічая вытворчасць, дрэваапрацоўка, апрацоўка каменя. У XIV ст. у беларускіх гарадах і мястэчках налічвалася болей за 200 рамесніцкіх спецыяльнасцяў.

Значнае месца займаў гандаль. Праз Беларусь праходзілі важныя гандлёвыя шляхі, што ўдала выкарыстоўваліся ў эканамічных інтарэсах дзяржавы. ВКЛ гандлявала з многімі еўрапейскімі краінамі. Асноўную ролю ва ўнутраным гандлі адыгрывалі кірмашы, якія ладзіліся ў гарадах і мястэчках. З другой паловы XVIII ст. пачаўся новы перыяд у эканамічным жыцці ВКЛ. Феадальныя адносіны паступова замяняліся капіталістычнымі. Пачала хутка развівацца таварна-грашовая сістэма, сельска-

гаспадарчая вытворчасць набывала таварны характар. Развівалася спецыялізацыя гаспадарак і рэгіёнаў, будаваліся мануфактуры.

У эканамічным жыцці ВКЛ шырока ўжывалася дзяржаўная сістэма заахвочвання землеўладальнікаў ў павелічэнні эфектыўнасці іх гаспадарак, выкарыстоўваліся розныя прывілеі, гнуткае падаткаабкладанне, што дапамагала пераадольваць эканамічныя заняпады, якія прыносілі войны і іншыя неспрыяльныя абставіны.

У XIII ст. на тэрыторыі, адпаведнай сучаснай Беларусі, было каля 40 гарадоў. У XVII ст. у ВКЛ існавала ўжо 757 гарадоў і мястэчак. Асабліва хутка развіваліся беларускія гарады, што атрымалі магдэбургскае права. Усталяванне гарадскога самакіравання стварала найлепшыя ўмовы для іх жыццядзейнасці. Першай магдэбургскае права атрымала ў 1387 г. Вільня.

Гісторыя ўтварэння і фарміравання Вялікага Княства Літоўскага ў святле навуковых даследаванняў незалежных вучоных сведчыць пра недакладнасць канцэпцыі, якая панавала ў гістарычнай навуцы раней. Паводле гэтай канцэпцыі, ВКЛ было нібыта створана толькі балцкімі плямёнамі, якія заваявалі абшары «ад мора да мора». Гэты міф быў прыняты артадаксальнымі гісторыкамі савецкай Беларусі, якія ў інтарэсах савецкай імперыі павінны былі таксама сцвярджаць, што беларусы ніколі не былі самастойным дзяржаўным народам. Згаданая канцэпцыя прымалася раней і ў Літве. Менавіта сучасная Літоўская Рэспубліка (Lietuva) выступае сёння адзінай паводле назвы пераемніцай Вялікага Княства Літоўскага на падставе таго, што яе гістарычныя тэрыторыі ўваходзілі ў склад ВКЛ. Суседзі яшчэ ў 1918 г. пад час абвяшчэння сваёй незалежнасці ўзялі назву нашай старажытнай дзяржавы і такім чынам прысвоілі ўсё яе гістарычнае мінулае. Літоўская Рэспубліка ўзяла таксама за аснову свайго дзяржаўнага герба Пагоню. Сёння паміж беларускімі і літоўскімі гісторыкамі знойдзена пэўнае паразуменне ў канцэптуальных аспектах гісторыі ВКЛ. На навуковай сустрэчы ў мястэчку Гервяты Астравецкага раёна Беларусі 19—20 чэрвеня 1992 г. былі выпрацаваны агульныя паходы да вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

**Стварэнне ВКЛ мела лёсаноснае значэнне ў гісторыі беларускай нацыі.** Каб не гэтая магутная дзяржава, каб не еднасць і адвага яе народа, каб не ахвярная адданасць нашых продкаў роднай Бацькаўшчыне, яны не вытрымалі б двухсотгадовай крыжацкай экспансіі і смяротна небяспечнай мангола-татарскай навалы, як не выстаялі перад ёю нашы ўсходнія суседзі, якія на два з паловай стагоддзя трапілі ў няволю. У гэтым рэгіёне Еўропы быў прыпынены наступ мангола-татарскіх ордаў на захад, у выніку чаго заходнееўрапейскія народы не зведалі жорсткасці азіяцкіх заваёўнікаў.

У 1362 г. войскі ВКЛ на чале з вялікім князем Альгердам разграмілі аб'яднаныя войскі трох татарскіх ханаў каля Сініх Водаў і вызвалілі ад прыгнёту ўкраінскія землі. У 1506 г. у бітве на р. Лань пад Клецкам войска Вялікага Княства на чале з Міхалам Глінскім разбіла шматтысячную татарскую арду і вызваліла дзесяткі тысяч палонных беларусаў, якіх заваёўнікі гналі ў рабства.

Крыжацкі наступ на нашу Бацькаўшчыну быў спынены 15 ліпеня 1410 г. бліскучаю перамогаю нашых продкаў пад Грунвальдам. У Грунвальдскай бітве ўдзельнічалі аб'яднаныя войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам вялікага князя Вітаўта і Польскага Каралеўства на чале з каралём Ягайлам. Наймацнейшая у Еўропе армія Тэўтонскага ордэна была ўшчэнт разбіта. Пяць стагоддзяў пасля Грунвальда ніводны ўзброены немец не ступаў на беларускія землі.

Напрыканцы XV ст. новая небяспека для нашай краіны паўстала на ўсходзе. Вялікае Княства Літоўскае вымушана было ваяваць з Маскоўскай дзяржаваю. У 1480 г. Масковія вызвалілася ад мангола-татараў і пачала наступ на захад, імкнучыся за-

хапіць суседнія беларускія землі. Маскоўскі князь Іван III прыпісаў сабе ролю збіральніка ўсіх праваслаўных зямель Усходняй Еўропы, такой палітыкі прытрымліваліся і ўсе ягоныя наступнікі.

Першая вайна паміж ВКЛ і Масковіяй адбылася ў **1492—1494 гг**. У выніку наша краіна страціла Вяземскае княства і тэрыторыі ў басейне Верхняй Акі. Пад час новай вайны з Масковіяй у **1500—1503 гг.** былі спустошаны ваколіцы Смаленска, Воршы, Мсціслава, Полацка, Віцебска. Вялікае Княства страціла 29 гарадоў і 70 валасцяў. Усходнія, паўднёвыя і цэнтральныя часткі ВКЛ моцна пацярпелі ад маскоўскай экспансіі ў **1507—1508 гг**.

Вялікія страты напаткалі нашу краіну пад час наступнай вайны з Масковіяй у **1512—1522 гг**., калі ў 1514 г. быў захоплены Смаленск. Навалу з усходу на нейкі час перапыніла бліскучая перамога нашай зброі ў бітве пад Воршай. 8 верасня 1514 г. 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім разграміла 80-тысячную арду заваёўнікаў.

У **1534—1537 гг**. дзяржава нашых продкаў перажыла чарговы наступ маскоўскіх войскаў. Былі спалены Тураў, Мазыр, Брагін ды іншыя гарады. У **1562 г.** войскі Івана IV Жахлівага спустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Воршы, Віцебска, Магілёва. Праз год сам цар з 60-тысячным войскам захапіў Полацк. Пад акупацыяй маскавітаў апынулася амаль уся Паўночная Беларусь. Акупанты рабавалі занятыя землі, вывозілі ў палон насельніцтва. Адметнай падзеяй гэтай вайны стала бітва на рацэ Уле 26 студзеня 1564 г., калі войскі ВКЛ атрымалі бліскучую перамогу над захопнікамі.

Агрэсія з усходу стала галоўнай прычынай таго, што Вялікае Княства Літоўскае на канфедэратыўнай аснове аб'ядналася з Польскім Каралеўствам. **У 1569 г. пасля падпісання Люблінскай уніі была створана новая дзяржава — Рэч Паспалітая**. У выніку гэтага альянсу ВКЛ страціла землі Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны, якія адышлі да Польшчы.

У 1596 г. адбылося заключэнне **Берасцейскай царкоўнай уніі**, якая адкрывала шлях да аб'яднання дзвюх хрысціянскіх канфесій — праваслаўя і каталіцтва ў адну, якая атрымала назву грэка-каталіцкай, або уніяцкай. Свецкія і духоўныя асобы Вялікага Княства — прыхільнікі яго самастойнасці — разлічвалі такім чынам пераадолець небяспеку рэлігійнай варожасці ў самой дзяржаве, а таксама пазбавіцца ад прэтэнзій каталіцкай Варшавы і праваслаўнай Масквы. Новая вера ўсталёўвалася з цяжкасцямі. Аднак напрыканцы XVIII ст. уніятамі былі ўжо 75% насельніцтва Беларусі. Адной з важных прычын шырокага распаўсюджвання уніяцтва было выкарыстанне ў набажэнстве зразумелай народу роднай беларускай мовы. Унію гвалтоўна скасавалі расейскія ўлады ў 1839 г. Ужо ў наш час уніяцкая царква ў Беларусі была адроджана.

Стварэнне канфедэрацыі ВКЛ і Польшчы спрыяла ўмацаванню абароназдольнасці абедзвюх краінаў. У ліпені **1579 г.** войскі вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя вярнулі захоплены раней Маскоўскай дзяржаваю Полацк, а ў наступным годзе канчаткова вызвалілі ўжо ўсю Паўночную Беларусь. У выніку вайны з Масковіяй **1609—1618 гг**. ВКЛ была вернута Смаленшчына, а да Польшчы адышлі Чарнігаўская і Ноўгарад-Северская землі.

На пачатку XVII ст. Рэч Паспалітая вяла вайну са Швецыяй. 27 верасня **1605 г.** 4-тысячнае войска ВКЛ на чале з гетманам Янам Хадкевічам разбілі каля вёскі Кірхгольм пад Рыгаю ў тры разы большую армію шведаў, якія страцілі 9 тысяч жаўнераў.

**У 1632—1634 гг**. адбывалася так званая Смаленская вайна, калі Масковія зноў спрабавала захапіць Смаленскую зямлю, але яна засталася ў складзе ВКЛ.

У **1648—1651 гг**. Рэч Паспалітая мусіла весці цяжкія ваенныя дзеянні на сваіх паўднёвых межах супраць украінскіх казацкіх загонаў, якія пры падтрымцы Масковіі імкнуліся захапіць паўднёва-ўсходнія землі Беларусі.

Трагедыяй для нашага народа стала агрэсія войскаў маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ў **1654—1667 гг**. Трынаццаць гадоў без перапынку сціраліся з твару зямлі беларускія гарады, замкі, палацы, вёскі разам з насельніцтвам. Ад рук захопнікаў, голаду, холаду, эпідэмій Беларусь страціла **53%** жыхароў. Ніводная з суседніх краін ніколі не перажывала такой дэмаграфічнай катастрофы. Абаронцы дзяржавы пакінулі трагічны запіс: «Да таго дайшла Айчына наша, што ратуючыся загіне».

Беларусь стала арэнаю ваенных дзеянняў і ў час Паўночнай вайны **1700—1721 гг.** паміж Расеяй і Швецыяй. Рэч Паспалітая выступала ў якасці хаўрусніка расейскага імператара Пятра І, які першым выкарыстаў у Беларусі тактыку выпаленай зямлі перад наступам непрыяцеля. У выніку загінуў кожны трэці беларус. У час гэтай вайны расейскімі «саюзнікамі» быў узарваны Полацкі Сафійскі сабор.

Ваенная разруха была не адзінай небяспекаю для Вялікага Княства Літоўскага. Канфедэрацыя з Польскай Каронай адчыніла дарогу польскаму ўплыву. Найперш паланізацыі паддаліся беларускія магнаты і шляхта, большая частка якіх перайшла ў каталіцкую веру. Працэс раз'яднання беларускай эліты са сваім народам адыграў драматычную ролю ў далейшай гісторыі нацыі. Страта для нацыянальнага жыцця найбольш адукаванай часткі народа аслабіла яго жыццёвы патэнцыял. Беларуская мова выцяснялася з дзяржаўнага справаводства. У 1696 г. сойм Рэчы Паспалітай вынес пастанову, што дзяржаўныя дакументы ў ВКЛ павінны складацца не па-беларуску, а па-польску.

Бесперапынныя войны, эканамічны заняпад, парушэнне балансу раўнапраўнага існавання двух суб'ектаў канфедэрацыі, несупадзенне палітычных інтарэсаў княства і каралеўства прывялі да катастрафічнага аслаблення дзяржавы. У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай 1772,1793 і 1795 г. паміж больш моцнымі суседзямі — Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй — дзяржава нашых продкаў спыніла сваё існаванне. Землі Вялікага Княства Літоўскага былі захоплены Расейскай імперыяй. **Дзяржаўная незалежнасць беларусаў была ўпершыню страчана на два стагоддзі.**

Лепшыя сыны беларускага народа змагаліся за аднаўленне незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны ў шматлікіх паўстаннях, якія былі жорстка задушаны імперскімі расейскімі ўладамі. **З дапамогай А. Суворава «просвещённая» расейская імператрыца Кацярына II патапіла ў крыві нацыянальна-вызвольнае паўстанне 1794 г. на чале з сынам беларускай зямлі Тадэвушам Касцюшкам.**

**Пасля вызвольнага паўстання 1830—1831 гг. распачалася жорсткая русіфікацыя краю.** Беларускія землі сталі правінцыяй Расейскай імперыі — «Северо-Западным краем». Каб зьмірыць Беларусь, тут насаджалася рускае чынавенства, руская школа, праваслаўная царква. Гэтая трыяда прымушала паднявольных беларусаў змірыцца з накінутай ім думкаю, што яны нібыта добраахвотна ўвайшлі ў склад «братняй Расеі».

Вайна Расеі з Напалеонам каштавала жыцця кожнаму чацвёртаму жыхару нашай зямлі. **Для Беларусі вайна 1812 г. не была айчыннаю, бо лепшыя сілы нашага народа марылі аднавіць з дапамогаю французскага імператара Вялікае Княства Літоўскае.** Каля 25 тысяч нашых суайчыннікаў ваявалі з Расеяй на баку Напалеона. Але спадзяванні на ягоную падтрымку ў адраджэнні дзяржаўнай незалежнасці ВКЛ аказаліся марнымі.

**Пад кіраўніцтвам «начальніка Северо-Западного края» Мураўёва-вешальніка ў 1863—1864 гг. было жорстка задушана вызвольнае паўстанне на чале з Кастусём Каліноўскім**. Высокапастаўлены расейскі чыноўнік, апякун Віленскай навучальнай ак-

ругі Карнілаў, выказаў тады думку, што расейскія школы зробяць у Беларусі тое, што не здолеюць зрабіць штыхом і куляй салдаты. Прароцтва шавініста было блізкае да здзяйснення.

Новыя ўлады падпарадкоўвалі сваім інтарэсам і эканамічны патэнцыял нашых зямель, стваралі гаспадарчую аснову для расейскага панавання. Цары шырока раздавалі сваім генералам і чыноўнікам беларускія землі разам з сялянамі. Толькі Кацярына II і яе сын Павел I падаравалі сваім памешчыкам у беларускіх губернях 500 тыс. сялянскіх душ, прычым значная частка гэтых людзей раней былі асабіста свабодныя. Канфіскоўваліся маёнткі беларускай шляхты, якая не жадала служыць каланіяльным расейскім уладам. Была ўведзена расейская сістэма падаткаў, яна аказалася значна цяжэйшай і не стымулявала развіццё гаспадаркі.

У выніку драпежніцкай каланіяльнай палітыкі эканоміцы беларускіх зямель былі нанесены надзвычай цяжкія страты. Нашы землі зведалі на сабе наступствы ўсіх праблем і цяжараў, якія перажывала Расейская імперыя ў XIX ст. — крызісу феадальнапрыгоніцкага ладу, развіцця на расейскі ўзор капіталістычных адносінаў, эканамічных крызісаў і масавага збяднення насельніцтва. Беларусь ператварылася ў калонію царскай імперыі. Нашы суродзічы вымушаны былі пакідаць Бацькаўшчыну і шукаць магчымасці зарабіць кавалак хлеба на чужыне. 500 тыс. беларускіх сялян ад'ехалі напрыканцы XIX ст. у Сібір, дзе і сёння яшчэ існуюць цэлыя беларускія вёскі. Насельніцтва нашага краю адчувала цяжкі палітычны і культурны ўціск. Расейскія ўлады зачынілі ў Беларусі ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы. У пачатковай і сярэдняй школе выкладанне было цалкам переведзена на расейскую мову. У 1864 г. міністэрства асветы прыняло пастанову, якая забараняла ў навучальных установах нават размаўляць па-беларуску. Беларуская мова была пад жорсткай забаронаю і ў сферы кнігадрукавання.

**Насуперак палітыцы расейскага царызму наш народ здолеў абудзіцца да нацыянальнага жыцця**. Беларускае слова загучала ў творах Яна Баршчэўскага, Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і сярод іншых прадстаўнікоў нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Беларусы побач з расейскімі змагарамі супроць царскага дэспатызму ўдзельнічалі ў народніцкім руху. Адзін з іх, беларускі шляхціц Ігнат Грынявіцкі, у 1881 г. выканаў смяротны прысуд, вынесены «Народнай воляй» цару Аляксандру II. Паплечнікі Грынявіцкага ад імя беларускай фракцыі «Народнай волі» ў 1884 г. выдалі два нумары часопіса «Гомон», дзе ўпершыню тэарэтычна абгрунтавалі існаванне самастойнага беларускага этнасу, заявілі пра яго роўнасць з іншымі народамі і яго права на ўласную дзяржаўнасць.

На мяжы XIX—XX стст. беларускі рэвалюцыйна-дэмакратычны і нацыянальны адраджэнцкі рух набраў сілы. Новы яго этап быў звязаны з пярэдаднем і падзеямі рэвалюцыі 1905—1907 гг. **У 1903 гг. братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Алаізай Пашкевіч (Цёткай) ды іншымі была створана першая беларуская палітычная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада**. У верасні 1906 г. у Вільні выйшла першая легальная беларуская газета **«Наша доля»**, якая была хутка зачынена ўладамі. Але ў лістападзе 1906 г. пачала выдавацца яе пераемніца газета **«Наша ніва»**, якой было наканавана існаваць да жніўня 1915 г. і стаць сапраўднай абуджальніцай беларусаў. «Наша ніва» згуртавала вакол сябе нацыянальныя сілы, падрыхтавала глебу для новага ўздыму Беларускага адраджэння. Гэты працэс быў паскораны важнымі падзеямі, што адбываліся тады ў свеце.

Першая сусветная вайна 1914—1918 гг. абышлася нам у **1,2 млн**. жыццяў. На беларускай зямлі, якая зноў стала арэнаю баявых дзеянняў, загінуў кожны пяты. **1,5 млн**. жыхароў па волі расейскага самаўладства былі выгнаны са сваіх хатаў, зведалі драму бежанства.

Параза ў вайне прывяла ў лютым 1917 г. да краху расейскага самаўладдзя. Для нашай Бацькаўшчыны адкрылася перспектыва адраджэння ўласнай дзяржаўнасці.

**Кульмінацыйным момантам у барацьбе за аднаўленне дзяржаўнасці стаў першы Усебеларускі кангрэс (з'езд) у Менску ў снежні 1917 г.,** арганізаваны пры вядучай ролі Беларускай сацыялістычнай грамады. У яго працы ўдзельнічалі 1872 дэлегаты з усіх рэгіёнаў Беларусі. Яны прадстаўлялі сялян, рабочых, вайскоўцаў, бежанцаў, інтэлігенцыю. Узмацненне на Усебеларускім кангрэсе незалежніцкіх тэндэнцый прывяло да яго разгону бальшавікамі. Але абраныя Рада і Выканаўчы камітэт прадоўжылі дзейнасць і сталі адзінымі абаронцамі інтарэсаў беларускага народа. Выканкам стварыў урад БНР — Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам.

Пасля падпісання бальшавікамі Брэсцкага міру, які цалкам ігнараваў нашы нацыянальныя інтарэсы і дзяліў Беларусь паміж РСФСР і Нямеччынай, Выканаўчы камітэт рады Усебеларускага з'езда абвясціў краіну Беларускай Народнай Рэспублікай (БНР). У сакавіку 1918 г. рада з'езда была пераўтворана ў Раду БНР. **25 сакавіка 1918 г. Рада БНР выдала 3-ю Устаўную грамату, дзе Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржаваю.** У гэтым дзяржаўным Акце гаварылася аб тым, што БНР «павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ»: Магілёўшчыну, Віцебшчыну, Меншчыну, Гарадзеншчыну (з Беластокам), беларускія часткі Віленшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губерняў, заселеныя беларусамі.

Дата абвяшчэння БНР назаўсёды стала гістарычнай для нашага народа і штогод адзначаецца ўсімі свядомымі беларусамі як найвялікшае свята. Залатымі літарамі павінны быць унесены ў гісторыю Беларусі імёны дзеячаў БНР, чыя дзейнасць падрыхтавала з'яўленне Акта 25 Сакавіка: Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Варонка, Алесь Бурбіс, Аркадзь Смоліч, Кастусь Езавітаў і шмат іншых. Раду БНР у розныя часы ўзначальвалі Іван Серада, Пётр Крэчэўскі, Васіль Захарка, Мікола Абрамчык, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Сажыч. Зараз старшынёй Рады БНР з'яўляецца Івонка Сурвіла, якая жыве ў Канадзе.

Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Літва, Польшча, Турцыя, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславакія, Эстонія. Ніхто ўжо не мог заяўляць, што беларускага народа не існуе.

Але замацаваць беларускую незалежнасць у той час не ўдалося. З усходу на Беларусь наступала Чырвоная Армія, з захаду — польскія войскі. Большую частку краіны захапілі бальшавікі. Рада БНР мусіла выехаць з Менска ў Гародню, а потым у Літву. З таго часу Рада Беларускай Народнай Рэспублікі знаходзілася ў эміграцыі, дзе паслядоўна перахоўвала ідэю незалежнасці Беларусі.

Ліквідацыя БНР бальшавікамі выклікала супраціў з боку беларускага народа. **У абарону БНР у лістападзе 1920 г. выступілі слуцкія паўстанцы,** змаганне якіх стала гераічнай старонкаю гісторыі Беларусі. Імёны іх кіраўнікоў таксама нельга забываць — Уладзімір Пракулевіч, Павел Жаўрыд, Антон Сокал-Кутылоўскі, Юрка Лістапад…

Перамога бальшавікоў не магла зліквідаваць уплыў БНР на далейшае развіццё Беларусі. Новыя ўлады вымушаны былі даць беларускім камуністам дазвол на стварэнне БССР. У выніку намаганняў беларускіх дзеячаў — Аляксандра Чарвякова, Зміцера Жылуновіча, Усевалада Ігнатоўскага ды іншых, хто падтрымаў савецкую ўладу з надзеяй на Беларускае адраджэнне, **1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР).** У 1922 г. яна выступіла адным з сузаснавальнікаў СССР. На самым пачатку свайго існавання БССР уключала ўсе этнічныя беларускія землі, але ў далейшым, будучы самастойнай толькі фармальна, страціла шмат сваіх тэрыторый.

Нашу Бацькаўшчыну дзялілі ў сакавіку 1918 г. пры падпісанні Брэсцкай дамовы паміж бальшавіцкай Расеяй і Нямеччынай, у 1920 г. — пры падпісанні дамоваў РСФСР з Літвою і Латвіяй. Сапраўднай драмай для беларускага народа сталіся вынікі Рыжскай мірнай дамовы 1921г. Савецкай Расеі і Польшчы, у выніку чаго Заходняя Беларусь апынулася пад польскай уладаю. Аднавіць цэласць краіны часткова ўдалося ў верасні 1939 г., калі заходнебеларускія землі зноў былі далучаны да СССР. Аднак ужо ў кастрычніку таго ж года Сталін перадаў Віленшчыну разам з Вільняй Літве.

Глыбокай павагі і памяці нашчадкаў заслугоўваюць нашы суайчыннікі з Заходняй Беларусі — змагары за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за беларускую мову, школу і культуру: Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Адам Станкевіч, Ігнат Дварчанін, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аляксандр Уласаў, Францішак Аляхновіч... Шмат хто з іх цярпеў пакуты ў польскіх турмах і канцлагерах, а потым трапіў у савецкія турмы і ГУЛАГ. Гэта была трагедыя цэлага пакалення мужных, загартаваных, самаадданых і жорстка падманутых беларускіх нацыянальных дзеячаў.

Не стала шчаслівым жыццё нашага народа і ў той частцы Беларусі, што знаходзілася ў складзе Савецкага Саюза. Надзея на пабудову свайго ўласнага Беларускага дому існавала хіба толькі ў 20-я гады, што ўвайшлі ў гісторыю як **перыяд беларусізацыі**. У гэтае дзесяцігоддзе было сапраўды багата зроблена для далейшага развіцця нацыянальнай культуры. Беларускім адраджэнцам 20-х гадоў удалося дабіцца дзяржаўнасці беларускай мовы, стварэння нацыянальнай школы, нацыянальнага універсітэта, беларускіх выдавецтваў, газет і часопісаў, тэатраў, музеяў, архіваў. Утварыўся Інстытут беларускай культуры, а на яго аснове — Беларуская акадэмія навук. Напрыканцы 20-х гадоў у школах рэспублікі 88% дзяцей навучаліся па-беларуску.

Аднак зусім іншыя працэсы адбываліся ў эканамічным жыцці Беларусі. Менавіта ў гэты час закладаўся падмурак савецкай эканамічнай сістэмы, галоўным прынцыпам якой была звышцэнтралізаванае дзяржаўнае кіраванне. Калектывізацыя разбурыла беларускую вёску як аснову эканамічнага патэнцыялу краіны, знішчыла рэшткі таварна-грашовых адносін, фактычна аднавіла феадальныя парадкі ў ганебнай дзяржаўна-прыгонніцкай форме. Індустрыялізацыя па-савецку не ўлічвала інтарэсаў рэспублікі і яе насельніцтва.

Таталітарны савецкі рэжым праводзіў палітыку унітарызацыі, пераўтварэння нацыянальных рэспублік у безаблічныя адміністрацыйныя адзінкі новай савецкай імперыі. Канстытуцыя СССР 1936 г. знішчыла рэшткі суверэнітэту Беларускай ССР. Распачатыя яшчэ ў 20-я гады палітычныя рэпрэсіі спынілі далейшае нацыянальнае адраджэнне. **Ахвярамі рэпрэсій сталі ў Беларусі прыкладна 1 млн. чалавек**, сярод якіх дзяржаўныя і гаспадарчыя дзеячы, навукоўцы, дзеячы літаратуры і мастацтва. Была ліквідавана фізічна або на дзесяцігоддзі кінута за калючы дрот ГУЛАГа амаль уся актыўная нацыянальная інтэлігенцыя. Найбольш гаспадарлівае сялянства вынішчылі ў працэсе прымусовай калектывізацыі. У 1937—1938 гг. была загублена большасць беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Толькі ў адзін дзень, 29 кастрычніка 1937 г., растралялі 14 беларусіх пісьменнікаў. Сярод іх былі Платон Галавач, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, Валеры Маракоў... Назаўтра кулі катаў з НКВД абарвалі жыцці яшчэ трох — Тодара Кляшторнага, Янкі Нёманскага, Юлія Таўбіна. Праз дзесяцігоддзі іх, як і тысячы іншых, рэабілітавалі, але беларуская справа была падсечана. Цяпер памяць нашых бязвінных пакутнікаў мы ўшаноўваем на Дзяды ў Курапатах і па ўсёй Беларусі, але вярнуць нацыі яе страты немагчыма.

Пазбаўленай сваіх лепшых сыноў апынулася Беларусь перад новай страшэннай пагрозай — нашэсцем нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 1 верасня 1939 г. першыя ўдары вайны прыняла на сябе разам з Польшчаю і Заходняя Беларусь, а потым прыйшло 22 чэрвеня 1941 г.

У Другую сусветную вайну Беларусь зведала лёс закладніцы дзвюх варожых таталітарных сістэм — сталінскай бальшавіцкай і гітлераўскай фашысцкай. Менавіта на нашай зямлі адбывалася змаганне двух рэжымаў за новы передзел свету. Кінуты на фізічнае вынішчэнне народ Беларусі ўзняўся на абарону сваёй зямлі, самога сябе і сваёй будучыні. Абышлося нам гэта неверагодна дорага, як нікому ў свеце. **У апошняй вайне зноў загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі, знішчана болей паловы нацыянальнага багацця, край ператвар'ыўся ў выгарышча. Былі разбураны 209 гарадоў і мястэчак, спалены 9200 вёсак, з іх 628 — з жыхарамі.** Пра жудасную трагедыю часоў вайны нагадваюць сёння жалобныя званы Хатыні, Трасцянец і сотні іншых месцаў масавага знішчэння людзей пад час нямецка-фашысцкай акупацыі.

Як краіна, што зрабіла велізарны ўклад у разгром нямецкага фашызму, Беларусь ў 1945 г. стала адной з заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Перамога над нямецкім фашызмам дасталася нам страшэннай цаною, але не прынесла нашаму народу жаданай волі. Пасля вайны працягвала на ўсю моц працаваць жудасная машына палітычных рэпрэсій, асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе прымусова ствараліся калгасы, знішчалася ўсё беларускае. Частка заходніх беларусаў, дакладней, насельніцтва Беласточчыны, у выніку передзелу межаў ізноў трапіла ў склад Польшчы.

Працавіты, адказны, самаахвярны беларускі народ у вельмі кароткі час пасля вайны адбудаваў разбураную краіну. Узняўся з руінаў Менск, ажылі Берасце, Магілёў, Віцебск, Гомель, паўсталі нанова многія спаленыя вёскі. Беларусь ператваралася ў адзін з найбольш эканамічна развітых рэгіёнаў СССР. Тут дзейнічалі заводы-гіганты машынабудавання, радыё-, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці, вытворчасці ўгнаенняў. Прадпрыемствы высокіх тэхналогій працавалі на патрэбы ваеннага комплексу і касмічных праграм СССР. Але ўсё гэта будавалася без уліку інтарэсаў эканомікі самой рэспублікі. Ствара лася не індустрыя самастойнай краіны, а своеасаблівы зборачны цэх Савецкага Саюза. Аб'ём выраблёнай прадукцыі быў арыентаваны на спажыванне на абшарах СССР і за яго межамі.

Нездаровы перакос развіцця эканомікі і яго цяжкія наступствы для Беларусі абазначыліся пасля распаду СССР у 1991 г., калі гіганты індустрыі страцілі рынкі збыту і ператварыліся ў цяжкае ярмо на шыі нашага народа. Індустрыяльны патэнцыял краіны аказаўся не надта гатовы да самастойнага існавання. Беларусь — яскравы ўзор каланіяльнай палітыкі метраполіі. Відаць гэта і па экалагічных наступствах індустрыялізацыі па-савецку. Непапраўныя страты нанеслі Беларусі экалагічныя бедствы ў раёне Салігорска, забруджаная гігантамі нафтахіміі атмасфера Гародні, Магілёва, Наваполацка... Праз Беларусь працягнуты лініі трансеўрапейскіх нафта- і газаправодаў, якія гоняць у Еўропу на продаж расейскія прыродныя багацці. Беларусі гэта прыносіць мала карысці, але мы мусім увесь час змагацца са шматлікімі аварыямі, што здараюцца ў сувязі з небяспечным тэхнічным станам састарэлага абсталявання.

Не меней стратаў панесла Беларусь у галіне сельскай гаспадаркі. На працавіты безадказны беларускі народ Масквою быў навешаны яшчэ адзін цяжкі абавязак — карміць цэнтральныя рэгіёны СССР. Былі пабудаваны гіганцкія жывёлагадоўчыя комплексы, птушкафабрыкі. Цягнікамі на ўсход адпраўлялі мясапрадукты, а нам заставаліся «ножкі ды рожкі» ды цэлыя азёры атрутнай жыжы ад такіх комплексаў, што знішчалі ўрадлівыя землі, забруджвалі навакolle. Злачынная палітыка татальнай меліярацыі на беларускім Палессі прывяла да незваротных экалагічных зменаў ва ўсёй краіне і да страты ўрадлівых зямель.

Заканамерным вынікам такой безадказнай палітыкі, заключным яе злавесным акордам стала найвялікшая ў гісторыі чалавецтва **ядзерная катастрофа на Чарно-**

**быльскай АЭС 26 красавіка 1986 г.** Яна прынесла Беларусі незлічоныя страты. 70% радыяцыйных выкідаў асела на нашу краіну, забруджанымі аказаліся 23% тэрыторыі, на якіх пражывала 20% насельніцтва (2,1 млн. чалавек).

Палітыка СССР, скіраваная на зліццё нацый у адзіны «савецкі народ», прывяла да занападу культурных набыткаў беларусаў. Мэтанакіравана ліквідоўваліся беларускія школы, выцяснялася з ужытку і замянялася расейскаю беларуская мова. Беларусь страчвала значныя людскія рэсурсы. Беларуская моладзь цэлымі эшалонамі вывозілася на асваенне цалінных зямель Казахстана, на лесанарыхтоўкі ў Карэлію і Комі, на будаўніцтва сібірскіх гідраэлектрастанцый, Байкала-Амурскай чыгуначнай магістралі, на сібірскія нафтаапрацоўкі. Выпускнікі беларускіх ВНУ накіроўваліся на працу далёка ад радзімы. Да нас масава прыязджалі на сталае жыхарства адстаўныя расейскія афіцэры, многія з якіх сёння актыўна выступаюць супраць дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Забраная ў войска беларуская моладзь гінула ў Венгрыі, Егіпце, Афганістане, у ваенных канфліктах за чужыя інтарэсы ў Сярэдняй Азіі, на Каўказе, ва ўсім свеце, куды сягалі інтарэсы савецкай імперыі.

Дэмакратычныя працэсы канца 80-х гадоў XX ст. аднавілі надзею беларусаў на самастойнае жыццё. **Пачало набіраць сілы новае Беларускае адраджэнне.** Арганізацыю нацыянальнага дэмакратычнага руху ўзялі на сябе новыя палітычныя сілы, сярод якіх найбольш уплывовымі былі — Беларускі народны фронт «Адраджэньне», Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, якую ўзначальваў Міхась Ткачоў.

**27 ліпеня 1990 г. ва ўмовах крызісу савецкай сістэмы і ў выніку змагання за незалежнасць была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. 25 жніўня 1991 г. пасля распаду СССР Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнага закону.**

**19 верасня 1991 г. на сесіі Вярхоўнага Савета была зацверджана новая назва нашай незалежнай краіны — Рэспубліка Беларусь, а таксама адноўлены ў якасці дзяржаўных сімвалаў бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. У 1994 г. прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.** Першым старшынёй Вярхоўнага Савета — найвышэйшага прадстаўнічага і адзінага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады незалежнай Беларусі ў 1991 г. быў абраны Станіслаў Шушкевіч.

**У ліпені 1993 г. у Мінску адбыўся першы ў гісторыі нашага народа Сусветны з'езд беларусаў, арганізаваны Згуртаваннем «Бацькаўшчына».** На Радзіму з'ехаліся беларусы з дзесяткаў краін свету, а ўсяго ў дзейнасці з'езда бралі ўдзел 996 дэлегатаў.

У тыя гады было зроблена шмат, каб дзяржаўная самастойнасць і вольнае жыццё сталі для шматпакутнага беларускага народа рэальнасцю. Пачалі складвацца ўсе неабходныя дзяржаўныя інстытуты самастойнай краіны.

Аднак шлях да свабоды і годнага чалавечага жыцця аказаўся больш складаным, чым тады ўяўлялася. Навязаныя Беларусі рэферэндумы 1995 і 1996 г. кардынальна змянілі накірунак развіцця краіны. **Інтэграцыйная палітыка сённяшніх уладаў Беларусі, скіраваная на аб'яднанне з Расеяй, непазбежна прывядзе да фактычнай страты нашай дзяржаўнасці і занядбання жыццёвых інтарэсаў народа Беларусі.**

У такой сітуацыі нашаму народу неабходна абаперціся на свой драматычны гістарычны досвед, глыбока ўсвядоміць, што ўласная дзяржаўнасць — наша найвялікшае дасягненне і самая высокая каштоўнасць.

На Зямлі жыве мноства нацый і толькі каля двухсот маюць свае дзяржавы. Сярод іх на палітычнай карце свету прысутнічае Рэспубліка Беларусь, і трэба зрабіць усё, каб яна не знікла з гэтае карты.

Уласная дзяржаўнасць забяспечвае найбольш спрыяльныя ўмовы для захавання і развіцця любой нацыі, таму ва ўсіх краінах і ва ўсе часы народы змагаліся за незалежнасць. Нашы продкі лічылі гэта найвышэйшым сваім абавязкам.

Змагаючыся за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны, беларусы не толькі здабылі бліскучыя вайсковыя перамогі, але і далі Еўропе і свету прыклады выключнага ў гісторыі чалавецтва ўсенароднага гераізму, якія выявіліся ў розныя эпохі ў масавым партызанскім руху.

Першы шырокі добраахвотны супраціў захопнікам звязаны з трагічнымі падзеямі вайны з Маскоўскай дзяржавай у 1654—1667 гг., калі Беларусь была акупавана царскімі войскамі. Найбольш актыўным народны рух супраць захопнікаў быў у Мсціслаўскім ваяводстве. Вядома, напрыклад, што ўлетку 1654 г. трохтысячны сялянскі аддзел змагароў мужна ўступіў пад Мсціславам у бой з армібй расейскага ваяводы А. Трубяцкога, у якой налічвалася 15 тыс. ратнікаў. На Смаленшчыне ў тыя гады ў партызанскім руху бралі ўдзел нават праваслаўныя святары. Народнае змаганне ахапіла амаль усю тэрыторыю Беларусі і працягвалася да яе вызвалення.

У 1812 г., калі развеяліся звязаныя з паходам Напалеона ілюзіі на скасаванне прыгоннага права і пачаліся бясконцыя рэквізіцыі, беларусы таксама ўзяліся за зброю. Перад Барадзінскай бітвай Напалеон мусіў накіраваць 10 тыс. жаўнераў на дапамогу 12-тысячнаму віцебскаму гарнізону, які партызаны фактычна трымалі ў аблозе.

Увесь свет ведае пра гераізм беларускіх партызан, якія змагаліся з фашысцкімі захопнікамі ў гады Другой сусветнай вайны.

**Беларуская дзяржаўнасць аплочана мільёнамі жыццяў нашых папярэднікаў. Зямля Беларусі абмыта крывёю лепшых яе сыноў, пралітай ў змаганні за волю.**

**Справа гонару і святы абавязак кожнага, хто жыве ў нашай краіне, мацаваць дзяржаўную незалежнасць Бацькаўшчыны, каб не страціць яе, каб зноў не апынуцца ў няволі. Трэба жыць уласным розумам, быць гаспадарамі свайго лёсу!**

# STATEHOOD



**Independent statehood should be considered as the most valuable achievement of the Belarusian nation in its history.** Elements of state organization appeared on our lands in the first thousand years AD. Ancient tribal unions were steadily forming a kind of early feudal states — principalities. The Polatsk principality was the greatest one.

For the first time it was mentioned in written documents with the name of its Prince Rahvalod in 980. **The Polatsk principality was the first Belarusian state with all necessary symbols of statehood, such as the sovereign rule of prince's dynasty and vecha (a kind of a meeting of citizens to make decisions about the most important questions), administration, the army, and monetary system. The Polatsk prince's dynasty of the Rahvalodavichs is considered to be the root of the Belarusian prince's family tree.** In historical documents the names of Rahnieda (the daughter of Rahvalod), princes Iziaslau, Brachyslau, and Usiaslau Charadzei (Usiaslau the Magician) are mentioned. The Polatsk principality was at the peak of its strength in the second half of the XIth century at the time of Usiaslau Charadzei. The stately Sophia Cathedral, symbolizing the equality of Polatsk to Novgorod and Kiev, was built in that period. The Polatsk principality comprised most of the territory of contemporary Belarus. Being a sea-power, it stretched along the Dzvina as far as the Baltic Sea where the great trade way 'from the Varangians to the Greeks' started. This greatly facilitated the economical and political growth of the Principality. A close relationship between the Rahvalodavichs and the Byzantium imperial house of the Kamins could be evaluated as a fact of world recognition. A daughter of Prince Usiaslau Charadzei married Byzantine Kesar Aleksei.

**The Turau and Smalensk principalities were also quite strong state formations of that time.** And later, in the period of feudal disunity, the Miensk, Harodnya, Navahradak, Pinsk, Vitsebsk, Drutsk, and other principalities played an important role as well.

In the middle of the XIIIth century the Polatsk principality lost its central position in the political life of the Belarusian lands. German invasion was very unfavourable for the further growth of our ancient state. In 1201 the town of Riga was founded by the Germans in the

## СТАРАЖЫТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ КНЯСТВЫ
## ANCIENT BELARUSIAN PRINCIPALITIES



Першая старонка «Аповесці мінулых гадоў»
First page of *Apovests minulykh hadou (Narration of the Old Days)*



Полацкае гарадзішча, дзе першапачаткова знаходзіўся горад
Ancient city cite of Polatsk, the place of the first settlement



Князь Уладзімір захоплівае Полацк
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*
Prince Uladzimir invades Polatsk
Miniature from Radzivil Chronicle



Уладзімір і Рагнеда
*Мастак А. Ласенка. 1770 г.*
Uladzimir and Rahnieda
By A. Lasienka, 1770



Полацкі князь Усяслаў Чарадзей
*Фрагмент мініяцюры Радзівілаўскага летапісу*
Prince of Polatsk Usiaslau Charadzei (Usiaslau the Magician)
Fragment of miniature from Radzivil Chronicle



Кіеўскае войска пад Менскам
*Летапісная мініяцюра*
Army of Kiev at Miensk
Miniature from a chronicle



Абарончы вал XI ст. на рацэ Менцы
Defence earth wall of the XIth c at the River Mienka



Бітва на Нямізе
*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*
Battle at the Niamiha River
Miniature from Radzivil Chronicle

Усяслаў Чарадзей перапраўляецца цераз Дняпро каля Воршы

*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Usiaslau Charadzei (Usiaslau the Magician) crosses the Dniapro nearby the city of Vorsha (Orsha)

Miniature from Radzivil Chronicle

Кіяўляне вызваляюць полацкага князя Усяслава з поруба

*Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Kiev resedents release Prince of Polatsk Usiaslau from the earth-celler

Miniature from Radzivil Chronicle




Полацкае княства
*Л. Аляксееў, Г. Штыхаў, Г. Семянчук*
Polatsk principality
L. Aliaksieeu, H. Shtykhau, H. Semianchuk



Полацк часоў Усяслава
*Рэканструкцыя*
Polatsk in the days of Usiaslau
Restoration




Наступ войска кіеўскіх князёў на Полаччыну ў 1127 г.
Army of Kiev princes directs to Polatsk land in 1127



Сафія Полацкая
*Рэканструкцыя*
Sophia Cathedral in Polats
Restoration



Манета тураўскага
князя Святаполка
Coin of Turau Prince Sviatapolk



Перамовы заслаўцаў з кіеўскім войскам
*Летапісная мініяцюра*
Negotiations between Zaslaue resedents and Kiev army
Miniature from a chronicle



Віслая пячатка Еўфрасінні Полацкай
Seal of Euphrasinia Polatskaya



Аднакамерная хата на гарадзішчы Берасця
*Фота В. Жутковіча*
One-room cottage on the ancient city cite of Bierastsie
Picture taken by V. Zhutkovich



Гарадзішча старажытнага Друцка
City cite of ancient Drutsk



Зброя беларускіх ваяроў Наваградчыны
*Рэканструкцыя В. Сташчанюка*
Armour of Belarusian fighters from Navahradak land
Restored by V. Stashchaniuk





Іконкі-ўстаўкі з гарадзішча Турава
Icons-insertions from Turau ancient city cite



«Рагвалодаў» камень з-пад Воршы
*Гравюра XIX ст.*
*Rahvalod's* stone from nearby the city of Vorsha (Orsha)
Engraving of the XIXth c





Віслая жаночая пячатка XII ст. з Полацка
Seal of a woman from Polatsk, the XIIth c

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ
**GRAND DUCHY OF LITHUANIA**

Вялікі князь Міндоўг
*Гравюра XVI ст.*
Grand Duke Mindouh
Engraving
of the XVIth c





Наваградак. Замкавая вежа Шчытоўка XIII ст.
Navahradak. Castle tower *Shchytouka,* the XIIIth c





Аклад Лаўрышаўскага евангелля
з выявай князя Войшалка
Setting of Lauryshauskaye Gospel with
the image of Prince Voishalk

Вялікі князь Войшалк
Grand Duke Voishalk

Грамата князя Гердзеня
Deed of Prince Herdzien

Грамата полацкага епіскапа Якава.
Каля 1300 г.
Deed of Polatsk bishop Yakau, about 1300

Вялікі князь Трайдзень
Grand Duke Traidzen



Вялікі князь Віцень
Grand Duke Vitsen



Вялікі князь Гедзімін
Grand Duke Hedzimin



Вялікі князь Альгерд
Grand Duke Alhierd



Вялікі князь Ягайла
Grand Duke Yahaila



Крыжакі
*Сярэднявечная мініяцюра*
Cross-bearers
Middle Age miniature



Князь Скіргайла
Prince Skirhaiła



Князь Кейстут
Prince Keistut



Вялікі князь Вітаўт
Grand Duke Vitaut

Бітва пад Грунвальдам

*Сярэднявечная гравюра*

Battle at Gruenwald

Middle Age miniature



Кафля XVI ст. (прамалёўка) са стылізаванай выявай беларускага войска

*З раскопак Г. Штыхава на гарадзішчы Менска*

Painted tile with a stylized picture of Belarusian army, the XVIth c.

Found at the excavations on the ancient Miensk city cite led by H. Shtykhau



Вялікі князь Свідрыгайла
Grand Duke Svidryhaila



Манеты з выявай Пагоні канца XV — сярэдзіны XVII ст.
Coins with *Pahonia* of the late XVth — middle XVIIth c




Вялікі князь Казімір Ягайлавіч
Grand Duke Kazimir Yahailavich



Судовае пасяджэнне
ў Вялікім Княстве Літоўскім
Court session in the Grand Duchy
of Lithuania

Літва

*Гравюра XV ст. з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля*

Lithuania (Litva)

Engraving of the XVth c from *World Chronicle* by H. Shedel




Пячатка віленскага цэха хірургаў 1552 г.

Seal of Vilnya union of surgeons, 1552

Вільня
*Гравюра XV ст.*
Vilnya
Engraving of the XVth c



Панарама Вільні
*З гравюры XVI ст.*
View of Vilnya
From the XVIth c engraving



Вялікі князь і кароль
Аляксандр
з Вышэйшай радай
*Гравюра пачатку XVI ст.*
Grand Duke and King
Aliaksandar with
Vysheishaya Rada
(Supreme Soviet)
Engraving of the early
XVIth c



Бітва з татарамі
*Гравюра XVI ст.*
Battle against the Tatars
Engraving of the XVIth c

## ПАЛІТЫКА КІРУЮЧЫХ КОЛАЎ ПОЛЬШЧЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ



## ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў 20—30-я гг.

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП)

Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)

Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ)

Беларускі сялянскі саюз (БСС)

Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ) — самая масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя ў Заходняй Еўропе (120 тыс. чалавек)

## АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ Ў БЕЛАРУСІ

Было створана 260 лагераў смерці і іх філіялаў

За гады вайны было знішчана больш за 2 млн. 200 тыс. грамадзян

Спалена 628 вёсак разам з жыхарамі

Вывезена ў Германію на катаржныя работы 380 тыс. чалавек

За час акупацыі гітлераўцы правялі больш за 140 карных аперацый

## БЕЛАРУСЬ НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ Ў 1945 — СЯРЭДЗІНЕ 50-х гг.

Красавік 1945 г.

Беларусь і Украіна атрымалі запрашэнне стаць заснавальнікамі ААН

26 чэрвеня 1945 г., Сан-Францыска

БССР разам з іншымі 50-цю дзяржавамі падпісала Статут ААН

Верасень 1944 г.

Заключэнне пагаднення паміж БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення (Беласток) аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі БССР (дамова аб польска-савецкай граніцы падпісвалася без удзелу Беларусі)

10 лютага 1947 г.

Міністр замежных спраў БССР К. В. Кісялёў падпісаў у Парыжы дамовы аб міры з Балгарыяй, Італіяй, Румыніяй, Венгрыяй і Фінляндыяй

Сярэдзіна 50-х гг.

Беларусь засноўвае свае пастаянныя прадстаўніцтвы ў спецыялізаваных органах ААН — ЮНЕСКО, МАП, МАГАТЭ і інш.

З пачатку 1947 г. дзейнасць на міжнароднай арэне фактычна абмяжоўваецца ўдзелам у рабоце органаў ААН

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, СТВОРАНЫЯ Ў КАНЦЫ 80-Х — ПАЧАТКУ 90-Х гг. ХХ ст.

- Беларускі народны фронт «Адраджэньне» (БНФ)
- Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі (АДПБ)
- Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ)
- Грамадзянская партыя (ГП)
- Партыя народнай згоды (ПНЗ)
- Партыя камуністаў Беларусі (ПКБ)
- Беларуская сялянская партыя (БСП)
- Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць (ХДЗ)
- Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДПБ)

## АДНАЎЛЕННЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Сакавік 1990 г.

Выбары народных дэпутатаў БССР

27 ліпеня 1990 г.

Вярхоўны Савет БССР прыняў «Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі»

25 жніўня 1991 г.

Вярхоўны Савет БССР прыняў пакет рашэнняў аб незалежнасці, палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларусі. Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі быў нададзены статус канстытуцыйнага закону

19 верасня 1991 г.

Зацверджана назва краіны — Рэспубліка Беларусь

8 снежня 1991 г.

Кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны падпісалі ў Віскулях пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў са сталіцай ў Мінску. Адначасова было прынята рашэнне аб дэнансацыі Саюзнай дамовы 1922 г.

15 сакавіка 1994 г.

Прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь

10 ліпеня 1994 г.

Выбраны першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь — А. Р. Лукашэнка

# ВЫШЭЙШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ АСОБЫ БЕЛАРУСІ НА РОЗНЫХ ЭТАПАХ ГІСТОРЫІ
# POLITICAL LEADERS AND SENIOR STATESMEN IN THE HISTORY OF BELARUS



## УЛАДАРЫ ПОЛАЦКАГА КНЯСТВА

*Дынастыя Рагвалодавічаў*

| | Гады княжання |
|---|---|
| Рагвалод | 2-я палова X ст. — 980? |
| Ізяслаў | 988—1001 |
| Брачыслаў Ізяславіч | 1003—1044 |
| Усяслаў Брачыславіч Чарадзей | 1044—1101 |
| Барыс Усяславіч | 1101—1106; 1127—1128 |
| Давыд | 1106—1127 |
| Васілька Святаславіч | 1132—? |
| Рагвалод Барысавіч | ? —1151; 1159—1162 |
| Расціслаў Глебавіч | 1151—1159 |
| Усяслаў Васількавіч | 1162—1186 |
| Валодша (Уладзімір) | 1186—1216 |
| Брачыслаў | 1230-я гг. |

## ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

| | *Гады ўладарання* |
|---|---|
| Міндоўг | каля 1248 — 1263 |
| Транята | 1263—1264 |
| Войшалк | 1264—1267 |
| Шварн | 1267 — каля 1270 |
| Трайдзень | 1270—1282 |
| | 1282—1292 — няма звестак |
| Пукувер | 1292—1295 |
| Віцень | 1293—1316 |
| Гедзімін | 1316—1341 |
| Яўнут | 1341—1345 |
| Альгерд | 1345—1377 |
| Ягайла | 1377—1392 |
| Кейстут | 1381—1382; у 1345—1377 падзяляў уладу з Альгердам |
| Вітаўт | 1392—1430 |
| Свідрыгайла | 1430—1432 |
| Жыгімонт Кейстутавіч | 1432—1440 |
| Казімір | 1440—1492 і адначасова кароль польскі з 1447 |
| Аляксандр | 1492—1506 і адначасова кароль польскі з 1501 |
| Жыгімонт І Стары | 1506—1548 і адначасова кароль польскі |
| Жыгімонт ІІ Аўгуст | 1548—1572 і адначасова кароль польскі* |
| Генрык Валезы (Валуа) | 1573 |
| Сцяпан Батура (Стэфан Баторы) | 1576—1586 |
| Жыгімонт ІІІ Ваза | 1587—1632 |
| Уладзіслаў | 1632—1648 |
| Ян Казімір | 1648—1668 |
| Міхал Вішнявецкі | 1669—1673 |
| Ян Сабескі | 1674—1696 |
| Аўгуст ІІ Моцны | 1697—1706, 1709—1733 |
| Станіслаў Ляшчынскі | 1704—1709, 1733 |
| Аўгуст ІІІ | 1733—1763 |
| Станіслаў Аўгуст Панятоўскі | 1764—1795 |

* Пасля Люблінскай уніі 1569 г. вялікі князь ВКЛ адначасова быў і каралём Польшчы.

## КАНЦЛЕРЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

| | |
|---|---|
| Мікалай Малдрык | 1429 |
| Судзівой Валімунтавіч | 1441 |
| Федзька Казлоўскі | (у 1444—1452 канцлер князя Свідрыгайлы) |
| Міхал Кезгайлавіч | 1444—1476 |
| Алехна Судзімонтавіч | 1478—1491 |
| Мікалай Радзівілавіч | 1492—1510 |
| Мікалай Мікалаевіч Радзівіл | 1510—1522 |
| Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд | 1522—1539 |
| Ян Юр'евіч Глябовіч | 1546—1549 |
| Мікалай Янавіч Радзівіл | 1550—1565 |
| Мікалай Юр'евіч Радзівіл | 1566—1579 |
| Астафій Валовіч | 1579—1587 |
| Леў Сапега | 1589—1623 |
| Альбрэхт Станіслаў Радзівіл | 1623—1656 |
| Крыштоф Пац | 1658—1684 |
| Марцыян Агінскі | 1684—1690 |
| Дамінік Радзівіл | 1690—1697 |
| Караль Станіслаў Радзівіл | 1698—1719 |
| Міхал Вішнявецкі | 1720—1735 |
| Ян Фрыдэрык Сапега | 1735—1751 |
| Фрыдэрык Міхал Чартарыйскі | 1752—1775 |
| Аляксандр Міхал Сапега | 1775—1793 |
| Іаахім Літавор Храптовіч | 1793—1795 |

*(Паводле доктара гістарычных навук А. Грыцкевіча)*

## ГЕТМАНЫ НАЙВЫШЭЙШЫЯ І ВЯЛІКІЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

| | |
|---|---|
| Сямён Гальшанскі | 1500—1501 |
| Станіслаў Кезгайла | 1501—1502 |
| Станіслаў Кішка | 1503—1507 |
| Канстанцін Астрожскі | 1507—1530 |
| Юры Радзівіл | 1531—1541 |
| Мікалай Радзівіл Чорны | 1553—1566 |
| Рыгор Хадкевіч | 1566—1572 |
| Мікалай Радзівіл Руды | 1576—1584 |
| Крыштоф Радзівіл | 1589—1603 |
| Ян Караль Хадкевіч | 1605—1621 |

| | |
|---|---|
| Леў Сапега | 1625—1633 |
| Крыштоф Радзівіл | 1635—1640 |
| Януш Кішка | 1646—1653 |
| Януш Радзівіл | 1654—1655 |
| Павел Ян Сапега | 1656—1665 |
| Міхал Казімір Пац | 1667—1682 |
| Казімір Ян Сапега | 1682—1703 |
| Міхал Сервацы Вішнявецкі | 1703—1707 |
| Ян Казімір Сапега | 1708—1709 |
| Людвік Канстанцін Пацей | 1709—1730 |
| Міхал Сервацы Вішнявецкі | 1733—1744 |
| Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька | 1744—1762 |
| Міхал Юзаф Масальскі | 1762—1768 |
| Міхал Казімір Агінскі | 1768—1792 |
| Шыман Касакоўскі | 1793—1794 |

## ПРЭЗІДЭНТЫ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*

| | |
|---|---|
| Іван Серада | 1917—1919 |
| Пётра Крэчэўскі | 1919—1928 |
| Васіль Захарка | 1928—1943 |
| Мікола Абрамчык | 1943—1970 |
| Вінцэнт Жук-Грышкевіч | 1970—1982 |
| Язэп Сажыч | 1982—1997 |
| Івонка Сурвіла | ад 1997 |

## СТАРШЫНІ УРАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

| | |
|---|---|
| Язэп Варонка | 1918 |
| Раман Скірмунт | 1918 |
| Іван Серада | 1918 |
| Антон Луцкевіч | 1918—1920 |
| Вацлаў Ластоўскі | 1919—1923 |
| Аляксандр Цвікевіч | 1923—1925 |

---

* Ад 1920 г. Рада БНР дзейнічае ў эміграцыі.

** Ад 1920 г. Урад БНР дзейнічаў у эміграцыі. На 2-й Усебеларускай канферэнцыі, якая адбылася ў 1925 г. у Берліне, прынята пастанова спыніць дзейнасць Урада БНР. Гэтае рашэнне не было прызнана прэзідыумам Рады БНР.

## СТАРШЫНІ УРАДА БЕЛАРУСКАЙ ССР

*Да 1946 г. — Савет Народных Камісараў, потым — Савет Міністраў*

| | |
|---|---|
| Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) | 1919* |
| Аляксандр Чарвякоў | 1920—1924 |
| Язэп Адамовіч | 1924—1927 |
| Мікалай Галадзед | 1927—1937 |
| Апанас Кавалёў | 1937—1938 |
| Кузьма Кісялёў | 1938—1940 |
| Іван Былінскі | 1940—1944 |
| Панцеляймон Панамарэнка | 1944—1948 |
| Аляксей Кляшчоў | 1948—1953 |
| Кірыла Мазураў | 1953—1956 |
| Мікалай Аўхімовіч | 1956—1959 |
| Ціхан Кісялёў | 1959—1978 |
| Аляксандр Аксёнаў | 1978—1983 |
| Уладзімір Бровікаў | 1983—1986 |
| Міхаіл Кавалёў | 1986—1990 |
| Вячаслаў Кебіч | 1990—1991 |

## СТАРШЫНІ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

*ЦВК БССР дзейнічаў да выбрання ў 1938 г. Вярхоўнага Савета БССР 1-га склікання*

| | |
|---|---|
| Аляксандр Мяснікоў (Мяснікян) | 1919 |
| Аляксандр Чарвякоў | 1920—1937 |
| Міхаіл Стакун | 1937 |
| Нічыпар Наталевіч | 1937—1938 |

* Старшыня Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі.

## СТАРШЫНІ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

| | |
|---|---|
| Нічыпар Наталевіч | 1938—1948 |
| Васіль Казлоў | 1948—1967 |
| Сяргей Прытыцкі | 1968—1971 |
| Фёдар Сурганаў | 1971—1976 |
| Іван Палякоў | 1977—1985 |
| Георгі Таразевіч | 1985—1989 |
| Мікалай Дземянцей | 1989—1990 (у 1990—1991 — старшыня Вярхоўнага Савета БССР) |

## КІРАЎНІКІ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

| | |
|---|---|
| Аляксандр Мяснікоў (Мяснікян) | 1917—1919 |
| Вінцас Міцкявічус-Капсукас | 1919—1920 |
| Вільгельм Кнорын | 1920—1922; 1927—1928 |
| Вацлаў Багуцкі | 1922—1924 |
| Аляксандр Асаткін-Уладзімірскі | 1924 |
| Аляксандр Крыніцкі | 1924—1927 |
| Ян Гамарнік | 1928—1929 |
| Канстанцін Гей | 1930—1932 |
| Мікалай Гікала | 1932—1937 |
| Васіль Шаранговіч* | 1937 |
| Аляксей Волкаў | 1937—1938 |
| Панцеляймон Панамарэнка | 1938—1947 |
| Мікалай Гусараў | 1947—1950 |
| Мікалай Патолічаў | 1950—1956 |
| Кірыла Мазураў* | 1956—1965 |
| Пётр Машэраў* | 1965—1980 |
| Ціхан Кісялёў* | 1980—1983 |
| Мікалай Слюнькоў* | 1983—1987 |
| Яфрэм Сакалоў* | 1987—1990 |
| Анатоль Малафееў* | 1990—1991 |

25 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб прыпыненні дзейнасці КПСС—КПБ на тэрыторыі Беларусі.

---

* Ураджэнцы Беларусі.

## КІРАЎНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Старшыні Вярхоўнага Савета*

| | |
|---|---|
| Станіслаў Шушкевіч | 1991—1994 |
| Мечыслаў Грыб | 1994—1996 |
| Сямён Шарэцкі | ад 1996 |

*Старшыні Савета Міністраў і прэм'ер-міністры (ад 1994 г.)*

| | |
|---|---|
| Вячаслаў Кебіч | 1991—1994 |
| Міхаіл Чыгір | 1994—1996 |
| Сяргей Лінг | 1996—2000 |
| Уладзімір Ярмошын | ад 2000 |

У 1994 г. адбыліся выбары першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на якіх перамогу атрымаў Аляксандр Лукашэнка.

У лістападзе 1996 г. у краіне адбыўся рэферэндум, у выніку якога прэзідэнцкія паўнамоцтвы А. Лукашэнкі працягнуты на два гады звыш 4-гадовага тэрміну, устаноўленага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Пасля рэферэндуму 1996 г. у адпаведнасці са зменамі, унесенымі ў Канстытуцыю 1994 г., створаны Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, які складаецца з Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі.

Старшынёй Палаты прадстаўнікоў 1-га склікання (1996—2000) быў абраны Анатоль Малафееў, 2-га склікання (ад 2000 г.) — Вадзім Папоў.

Старшыні Савета Рэспублікі: Павел Шыпук (1996—2000), Аляксандр Вайтовіч (ад 2000 г.).

Легітымнасць Палаты прадстаўнікоў 1-га і 2-га склікання не прызнана інтэграцыйнымі еўрапейскімі структурамі — Саветам Еўропы, Еўрапарламентам, Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ).

---

Пры падрыхтоўцы раздзела выкарыстаны выданні: Гісторыя Беларусі ў табліцах і схемах (Мн., 2000); История Беларуси: Словарь-справочник (Мн., 2000); Кузнецов И. Н., Шелкопляс В. А. История государства и права Беларуси (Мн., 1999); Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1940. Т. 2.

# БЕЛАРУСКІЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СІМВАЛЫ
# BELARUSIAN NATIONAL SYMBOLS



Беларуская нацыянальная сімволіка — гэта комплекс універсальных семантычных знакаў, колераў і выяў, якія адлюстроўваюць гістарычную традыцыю і этнічную памяць беларускага народа, яго эстэтычны густ і светаўспрыманне, філасофскае асэнсаванне свайго месца ў еўрапейскай цывілізацыі. Беларуская нацыянальная сімволіка ўключае гістарычны герб Пагоня і створаны на яго аснове бела-чырвона-белы сцяг.

Паходжанне герба Пагоня сягае ў глыб стагоддзяў і генетычна звязана са старажытнаславянскай ваеннай традыцыяй народнай пагоні эпохі родаплеменнога ладу — найважнейшай функцыяй арганізацыі жыцця і побыту ўсіх славянскіх плямён, калі кожны чалавек быў у адказе за жыццё свайго супляменніка. У выпадку раптоўнага нападу праціўніка і захопу ў палон членаў абшчыны кожны мужчына, які меў права насіць зброю, быў абавязаны пешкі або конна кідацца ў пагоню за ворагам, каб адбіць палон. Ва ўмовах ваеннай дэмакратыі традыцыя народнай пагоні выконвалася безумоўна і захоўвалася стагоддзямі і ў эпоху Кіеўскай Русі, і ў часы ВКЛ. Іпацьеўскі летапіс паведамляе пра пагоню жыхароў Берасця ў 1280 г. за польскім ваенным атрадам у 200 чалавек, які «паваяваў» аколіцы горада і 10 вёсак па р. Кросна. Грамата вялікага князя ВКЛ і караля польскага Ягайлы, датаваная 1387 г., адназначна тлумачыла пра абавязак пагоні насельніцтву Полацкай зямлі, Мсціслаўскага княства, Наваградскай зямлі, Гарадзеншчыны: «Згодна старажытнаму звычаю, ваенны паход застаецца абавязкам, які здзяйсняецца ўласнымі затратамі і выдаткамі. У тым жа выпадку, калі прыйдзецца праследаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых, то для праследавання, якое па-народнаму называецца пагоняй, абавязваюцца адпраўляцца не толькі рыцары, але і кожны мужчына, якога б ён ні быў паходжання і стану, толькі б ён быў здольны насіць зброю». Галоўнаю прычынаю трывалага існавання і замацавання на землях Беларусі старажытнай традыцыі народнай пагоні былі бясконцыя паходы і войны суседніх народаў і княстваў з X ст. па 1670-я

Паштоўка БНР
з дзяржаўным сцягам
National Flag on a post card
of the BPR






Наверша сцягаў незалежнай
Рэспублікі Беларусь
Tip of flagstaves
of the independent
Republic of Belarus



Дзяржаўны бела-чырвона-белы сцяг Рэспублікі
Беларусь, зацверджаны 19 верасня 1991 г.
National Flag, White-and-Red-and-White Banner, of the
Republic of Belarus, adopted on 19th September, 1991

## БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СІМВОЛІКА
### BELARUSIAN NATIONAL SYMBOLS

1



2



3



4



Гербы Пагоня
1. Пагоня з тытульнага аркуша Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.
2. Пагоня з рукапіснага гербоўніка Э. Коміна. 1575 г.
3. Пагоня з паштоўкі БНР
4. Дзяржаўны герб Пагоня Рэспублікі Беларусь, зацверджаны 19 верасня 1991 г.

State Emblem *Pahonia*
1. *Pahonia* on the title page of the Statute of the Grand Duchy of Lithuania, 1588
2. *Pahonia* from the hand-written collection of coat of arms by Ye. Komin, 1575
3. *Pahonia* from a post card of the BPR
4. State Emblem *Pahonia* of the Republic of Belarus, adopted on 19th September, 1991

гады. Гэта было выклікана выключна важным геастратэгічным размяшчэннем Беларусі на скрыжаванні найважнейшых гандлёвых шляхоў з Поўначы на Поўдзень (шлях «з варагаў у грэкі») і з Захаду на Усход (з Еўропы на Маскву, на Паволжа і далей, у Сярэднюю Азію). Так, у X—XIII стст. князі варажскія, наўгародскія, смаленскія, кіеўскія і іх саюзнікі пры ўдзеле стэпавых качэўнікаў здзейснілі на тэрыторыі Беларусі больш за 100 паходаў. Да гэтага трэба дадаць напады польскіх ваенных атрадаў і галіцка-валынскіх дружын, якія ў другой палове XIII ст. не аднойчы прыводзілі з сабой мангола-татарскае войска. Найцяжэйшым праціўнікам для Беларусі на працягу амаль 200 гадоў быў крыжацкі ордэн. З тэрыторыі Прусіі, Лівоніі і Польшчы з пачатку XIII ст. і па 1410 г. ён зрабіў больш за 140 паходаў на землі Панямоння, Падзвіння і Берасцейшчыны. У адказ было праведзена больш за 60 паходаў, многія з якіх мелі характар традыцыйнай пагоні. Крымскія татары на працягу 1476—1567 гг. здзейснілі ў межы ВКЛ 75 рабаўнічых рэйдаў за людскім палонам. Бясконцыя паходы рускіх вялікіх князёў і цароў з канца XV ст. скончыліся руска-польскай вайной 1654—1667, калі загінула больш за палавіну насельніцтва Беларусі.

Ідэя абароны Бацькаўшчыны, сфакусіраваная ў традыцыі народнай пагоні, стала цэментуючай дзяржаўнай ідэалогіяй для ўсіх жыхароў Беларусі і ВКЛ і ператварылася ў ідэалагічны знак і сімвал эпохі, а пад уплывам еўрапейскай геральдыкі і рыцарскіх традыцый увасобілася ў графічны сімвал — герб Пагоня. Упершыню гэты сімвал зафіксаваны як герб каля 1270 г. у старажытным беларускім горадзе Навагрудку (Навагрудку). Паводле беларуска-літоўскіх летапісаў Рачынскага, Альшэўскага, Румянцаўскага і Еўраінаўскага спісаў, Хронікі Быхаўца і «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага, герб уяўляў сабой «чалавека на коні з мечом, а то знаменуючи через той герб пана доспелого лет, хто бы мог боронити мечом Отчизны своее». Паводле Іпацьеўскага летапісу, такім гербам карыстаўся навагрудскі князь Віцень, які каля 1293 г. «измысли себе герб и печать: рыцер збройны на коне з мечом еже ныне наричут Погоня». Пазней пячатка з гербам Пагоня з'явілася ў полацкіх князёў. Самая ранняя з іх датуецца 1330 г. З'яўленне знака Пагоня праз геральдыку і сфрагістыку ў Навагрудку і Полацку тлумачыцца тым, што гэта былі сталіцы двух найбуйнейшых дзяржаўных аб'яднанняў — Полацкай і Навагрудскай зямель. Полацк і Навагрудак былі галоўнымі ваеннымі базамі адпору крыжацкай агрэсіі на Беларусі.

Графічная выява герба Пагоня прайшла пэўныя шляхі развіцця. Вядома 5 варыянтаў герба: коннік з німбам вакол галавы; без німба; з мячом, але без шчыта; з мячом і шчытом, на якім герб Калоны; з мячом і шчытом, а на ім 6-канцовы крыж. Крыж гэты ідэнтычны крыжу Ефрасінні Полацкай — святыні Полацкай зямлі. Упершыню ён з'явіўся на гербавым шчыце грабніцы вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Ягайлы. Пячаткі з выявай коннага воіна мелі ў XIII ст. смаленскія князі і наўгародскі князь Аляксандр Неўскі, у XV ст. вялікі маскоўскі князь Васілій I Дзмітрыевіч. У аснове расійскіх гербаў XIV ст. і больш позніх (Яздок, Сакольнік, Георгі Пераможца) таксама ляжыць вобраз старажытнаславянскай Пагоні, сведчыць пра этнічную блізкасць беларусаў і рускіх. Герб Пагоня меў самае шырокае распаўсюджанне і выкарыстанне ў сярэдневяковай Беларусі. Паводле Статутаў ВКЛ 1566 і 1588 г., кожны павет быў абавязаны мець пячатку з Пагоняй. Выява Пагоні абавязкова прысутнічала на ваяводскіх сцягах-харугвах. Гэтым гербам упрыгожваліся вежы гарадскіх магістратаў і ўязныя брамы гарадоў і замкаў. Яна была на галоўнай пячатцы вялікага князя ВКЛ, чаканілася на манетах дзяржавы.

Як дзяржаўны сімвал герб меў выгляд шчыта барочнай формы, асноўнае поле якога было пурпуровага колеру, а сярэдзіну займала выява беласнежнай Пагоні. У адборы колераў для сімволікі, яе колернай гаме праявіліся нацыянальныя традыцыі і мастацкі густ нашых продкаў. Славяне асабліва шанавалі белы і чырвоны коле-

ры, лічылі іх свяшчэннымі, гэта былі асноўныя колеры іх адзення. У белае адзенне з чырвоным поясам апраналіся старэйшыны плямён і язычніцкія першасвятары. Генетычныя вытокі любові славян да двух колераў схаваны ў глыбіні тысячагоддзяў, у часах індаеўрапейскай агульнасці, калі ў большасці плямён белы і чырвоны колеры абагаўляліся. Белы колер у тагачасным светаўспрыманні атаясамліваўся з колерам матчынага малака. Ён асацыіраваўся з карміцелькай-зямлёй, з маці-прыродай, з маці-жанчынай. Чырвоны колер лічыўся сімвалам агню і вечнага жыцця. У сувязі з развіццём язычніцкай рэлігіі з'явілася вера ў замагільнае жыццё. Таму памерлых, асабліва дзяцей, пасыпалі чырвонай мінеральнай фарбай — вохрай, чым як бы доўжылі жыццё нябожчыка на тым свеце.

Пасля рассялення ў I тысячагоддзі н. э. усходне-славянскіх плямён на тэрыторыі Беларусі і асіміляцыі тут балцкага і угра-фінскага насельніцтва, старажытныя традыцыі захаваліся, але ў сувязі з далейшым духоўным развіццём грамадства сэнсавае значэнне белага і чырвонага колераў значна пашырылася. Белае стала сімвалізаваць знак дабра, знак чысціні, крынічнай вады, шляхетнага серабра. Чырвонае стала знакам жыватворнага агню, сімвалам адвагі і ваяўнічасці, храбрасці, доблесці і праведнай крыві, пралітай за Айчыну. У найбольшай пашане ў продкаў беларусаў лічыўся пурпуровы колер. Пурпур сімвалізаваў лепшыя якасці мужчыны-воіна, а для князя быў знакам яго боскага паходжання. Адзенне пурпуровага колеру маглі насіць толькі князі і каралі. Па гэтай прычыне першыя сцягі правіцеляў зямель і княстваў мелі менавіта такі колер. Узнятыя сцягі паказвалі ўсяму войску, дзе знаходзіцца іх князь (кароль, правіцель) або ўвогуле, што ён прысутнічае на полі бою. У пачатку XVI ст. на Беларусі, як і па ўсёй Еўропе, сталі з'яўляцца сцягі, звязаныя сваімі колерамі з гербам дзяржавы. Паводле законаў геральдыкі асноўным колерам сцяга стаў колер беласнежнай коннай Пагоні. У сярэдзіне палотнішча праходзіла гарызантальная пурпуровая паласа, якая адпавядала колеру геральдычнага шчыта. Так узнікла трохпалоснае спалучэнне — бела-чырвона-белага колераў. Упершыню графічна зафіксаваны сцяжкі такога колеру ў конніцы ВКЛ, паказанай на палатне «Бітва пад Оршай у 1514 г.», што захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Варшаве. У гэты час з'явіўся і бела-чырвоны польскі сцяг. Пасля Люблінскай уніі 1569 г., калі стала закладвацца федэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая, якая аб'яднала Польскае каралеўства і ВКЛ з адзіным каралём (ён жа адначасова і вялікі князь ВКЛ), пачаліся першыя спробы аб'яднаць абодва сцягі ў адзін, тым больш што ў аснове іх ляжалі аднолькавыя колеры — белы і чырвоны. У 1605 г. кароль Жыгімонт III Ваза ўжыў трохпалосны чырвона-бела-чырвоны сцяг, а крыху пазней з'явіўся бела-чырвона-бела-чырвоны сцяг як спроба аб'яднаць абодва сцягі членаў федэрацыі. Аднак такі сцяг не прыжыўся, і дамінаваць стаў польскі сцяг. Ваяводствы, створаныя ў ВКЛ, у час адміністрацыйнай рэформы 1565—1566 гг. (Берасцейскае, Віцебскае, Мінскае, Мсціслаўскае, Навагрудскае, Полацкае і інш.) мелі самастойныя сцягі-харугвы, якія яны атрымлівалі цэнтралізавана з велікакняжацкага скарбу. На ўсіх іх была выява Пагоні. Беларускія ваенна-служылыя татары ў XVI—XVIII ст. выстаўлялі войска пад уласнай харугвай бела-чырвона-белага колеру з выявай па цэнтры паўмесяца і зоркі. Мелі яны і свой воінскі сімвал — г. зв. татарскую Пагоню, дзе коннік замест мяча трымае лук, шчыт адсутнічаў.

Праваслаўная рэлігія з часоў хрышчэння зямель Беларусі ашчадна ставілася да старадаўніх традыцый і сімвалаў, звязаных з воінскім служэннем, і ўсяляк іх асвячала. У гадзіну цяжкіх выпрабаванняў царква заўсёды была з народам, заклікаючы яго грудзьмі стаяць за радзіму і веру. Святары і манахі былі ў складзе дружын, натхняючы воінаў на праведную бітву, адпявалі загінуўшых, перавязвалі параненых, арганізоўвалі шпіталі, збіралі сродкі і правіянт для пацярпелых воінаў. Лёс царквы шчыльна пераплёўся з лёсам і гісторыяй Беларусі, яе народам і нацыянальнымі сімва-

ламі. Пра гэта сведчыць і бела-чырвона-белая стужка, уключаная ў камплект адзення царкоўных іерархаў. Яна трактуецца як знак патрыяршай улады, як сімвал настаўніцкай місіі Ісуса Хрыста на зямлі, перададзенай яго вучням, як вогненны след яго праведнага слова на бязгрэшнай чыста-белай душы верніка.

З канца XVIII ст. і да сярэдзіны XIX ст. пытанне пра беларускую нацыянальную сімволіку было знята з гісторыі Беларусі, але яно ўзнікла ў час паўстання 1863—1864 гг., калі К. Каліноўскі вярнуўся да сімвала Пагоні. Ёсць падставы меркаваць, што ён адрадзіў да жыцця і бела-чырвона-белы сцяг. З канца XIX ст. у Пецярбургу дэмакратычная студэнцкая моладзь Беларусі і Літвы на сваіх культурна-асветных вечарынах выкарыстоўвала Пагоню і нацыянальны сцяг. Шматлікія факты сведчаць аб неаднаразовым выкарыстанні беларускай нацыянальнай сімволікі ў дарэвалюцыйны час у Вільні, Санкт-Пецярбургу, Мінску і інш. гарадах. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. салдаты-беларусы 12-й дзеючай арміі насілі ўшытыя ў пятліцы шынялі бела-чырвона-белыя нацыянальныя стужкі. Беларуская нацыянальная сімволіка прысутнічала ў снежні 1917 г. на Усебеларускім з'ездзе ў Мінску. Абвешчаная 25.3.1918 г. Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) зрабіла герб Пагоня і бела-чырвона-белы сцяг сваёй афіцыйнай сімволікай. У 1919—1920 гг. беларуская нацыянальная сімволіка выкарыстоўвалася беларускімі вайсковымі фарміраваннямі ў Літве і Польшчы.

Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Беларусь і яе народ аказаліся распалавіненымі паміж Савецкай Расіяй і Польшчаю. На землях Заходняй Беларусі, уключаных у склад Польскай дзяржавы, беларускі нацыянальна-вызвольны і дэмакратычны рух вёў барацьбу пад нацыянальнай сімволікай. Яна выкарыстоўвалася ва ўсіх беларускіх школах і гімназіях, на мітынгах працоўных, беларускім студэнцтвам. Беларуская нацыянальная сімволіка была элементам школьна-гімназічнага касцюма беларускіх вучняў. У 1939 г. насельніцтва Заходняй Беларусі ў многіх мясцінах вітала Чырвоную Армію сваёй нацыянальнай сімволікай. Беларуская зарубежная эміграцыя ва ўсе часы выкарыстоўвала беларускую нацыянальную сімволіку.

Інакш склаўся лёс беларускай нацыянальнай сімволікі ў БССР. Тут толькі ў 1926 г. была спроба выкарыстаць нацыянальныя колеры пры распрацоўцы сцяга і герба БССР. Аднак гэта прапанова не прайшла, а яе ініцыятар старшыня СНК БССР Я. А. Адамовіч хутка апынуўся за межамі рэспублікі. Ідэя адраджэння беларускай нацыянальнай сімволікі звязана з пачаткам дзейнасці ў другой палове 1980-х гадоў маладзёжных нефармальных гісторыка-культурных аб'яднанняў і клубаў («Талака», «Паходня», «Узгор'е» і інш.), узнікненнем у 1988 г. Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» і партый дэмакратычнага кірунку (БСДГ, НДПБ, Сялянскай партыі, АДПБ і інш.). Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі 1990 г. прызнала беларускую нацыянальную сімволіку. Пад гэтай сімволікай прайшлі красавіцкія і майскія забастоўкі працоўных Беларусі 1991 г., якія адыгралі сваю ролю ў крушэнні таталітарызму ў рэспубліцы. Сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 19.9.1991 г. прыняла законы «Аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь» і «Аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь». Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца старажытны беларускі герб Пагоня, Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь — бела-чырвона-белы сцяг*.

*М. А. Ткачоў*

*(Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т. 1. С. 391—393)*

---

* З 1995 г. дзяржаўная сімволіка Беларусі зменена.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў КАРТАХ
# HISTORY OF BELARUS IN MAPS



## РАССЯЛЕННЕ ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ ПЛЯМЁНАЎ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў VIII—IX стст.



# ПЕРШЫЯ КНЯСТВЫ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ (X—XII стст.)

Полацкае, Турава-Пінскае, часткова Смаленскае і Галіцка-Валынскае

| | | | |
|---|---|---|---|
| ПОЛОТЬСК (Полацк) | Цэнтры княстваў і земель | КРЫВІЧЫ | Назвы плямёнаў і іх аб'яднанняў |
| МЕНЬСК (Мінск) | Цэнтры ўдзельных княстваў і земель | — — — — | Прыкладныя межы княстваў і земель |
| Вслонім (Слонім) | Гарады, якія існавалі ў XI - XII стст. | 1067 × | Месцы і даты бітваў |
| 862 | Год першых летапісных звестак | • • • • • • • | Шлях "з варагаў у грэкі" |

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

*Фрагмент карты Гіёма дэ Бапплана. XVII ст.*



# КАРТА ЭТНАГРАФІЧНЫХ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ ПАВОДЛЕ М. ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАГА, Я. КАНЧЭРА І Я. КАРСКАГА

Карта-схема

ЛАТВІЯ
БАЛТЫЦКАЕ МОРА
ЛІТВА
НЯМЕЧЧЫНА
Сувалкская губерня
Віленская губерня
Віцебская губерня
Смаленская губерня
РСФСР
Калужская губерня
Магілеўская губерня
Арлоўская губерня
Гарадзенская губерня
Менская губерня
ПОЛЬШЧА
УКРАІНА

Этнаграфічныя межы Беларусі
па Я. Карскаму (1903 г.)
па М. Доўнар-Запольскаму (1919 г.)
па Я. Канчару (1919 г.)
межы БССР, вызначаныя пастановай І з'езда КП(б) Беларусі ад 30 снежня 1918 г.
межы губерняў

## АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ПАЛІТЫЧНАЯ КАРТА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, СКЛАДЗЕНАЯ АРКАДЗЕМ СМОЛІЧАМ

**Выдадзена на французскай мове ў 1919 г. у берлінскай друкарні Вільгельма Гартмана**



## МЕЖЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ
## FRONTIERS OF WEST-WHITE-RUTHENIA (BIELARUS) IN POLAND



# ФАРМІРАВАННЕ ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У XX ст.






1918 г. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі

1919 г. Абвяшчэнне БССР

1919 г. (люты–ліпень). Аб'яднанне Літвы і Беларусі ў Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку

1921 г. Тэрыторыя БССР пасля заключэння Рыжскага мірнага дагавору паміж Савецкай Расіяй і Польшчай 18 сакавіка 1921г.

1924 г. Тэрыторыя БССР пасля пастанаўлення Прэзідыума УЦВК „Аб перадачы Беларусі раёнаў, у якіх пераважае беларускае насельніцтва" ад 3 сакавіка 1924г.

1926 г. Тэрыторыя БССР пасля пастанаўлення Прэзідыума УЦВК „Аб далучэнні да БССР Рэчыцкага і Гомельскага паветаў" ад 6 снежня 1926г.

1939 г. (17.IX–10.X). Тэрыторыя БССР пасля ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад БССР

1939 г. Тэрыторыя БССР пасля перадачы Літве г. Вільна і часткі Віленскай вобласці па дагавору паміж СССР і Літвой ад 10 кастрычніка 1939г.

1940 г. Тэрыторыя БССР пасля перадачы Літве тэрыторыі з літоўскім насельніцтвам згодна з указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР „Аб змяненні граніц асобных раёнаў Вілейскай і Беластоцкай абласцей у сувязі з удакладненнем граніц паміж Літоўскай і Беларускай ССР" ад 25 лістапада 1940г.

1942 г. Нямецка-фашысцкі падзел БССР (на канец 1942 г.)

1945 г. Тэрыторыя БССР пасля перадачы Польшчы часткі тэрыторыі па дагавору паміж СССР і Польшчай ад 16 жніўня 1945 г.

1950 г. У выніку дэмаркацыі дзяржаўнай граніцы паміж СССР і Польшчай у склад Брэсцкай вобласці ўключаны, а з Гродзенскай вобласці выключаны шэраг населеных пунктаў, згодна ўказу Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР „Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльных зменениях у складзе Брэсцкай і Гродзенскай абласцей Беларускай ССР" ад 8 ліпеня 1950 г.

1964 г. Некалькі населеных пунктаў былі перададзены ў склад Магілёўскай вобласці згодна з указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР „Аб перадачы часткі тэрыторыі Мазырскага сельсавета з Смаленскай вобласці РСФСР у Магілёўскую вобласць Беларускай ССР і частковым змяненнем у сувязі з гэтым граніцы паміж РСФСР і БССР" ад 17 лістапада 1964 г.

1995 г. Тэрыторыя Рэспублікі Беларусь на 1.01.1995 г.

*Заўвага. На картах:*

*1918, 1919 гг.–граніцы сумежных з Расіяй дзяржаў дадзены на 1914 г., цэнтры губерняў на тэрыторыі Расіі–на канец 1917 г.*
*1919 г.–граніцы дадзены на канец 1919 г.*
*1921 г.–граніцы дадзены на 1921 г.*
*1924 г.–граніцы сумежных з СССР дзяржаў дадзены да чэрвеня 1924г.*
*1926 г.–граніцы сумежных з СССР дзяржаў дадзены на 1938 г.*
*1939 г. (10 кастрычніка), 1940г.–граніцы дадзены на 5 снежня 1939 г.*
*1942 г.–цэнтры адміністрацыйных адзінак паказаны на 25 лістапада 1940 г.*
*1945 г.–граніцы сумежных з СССР дзяржаў дадзены на канец 1949 г.*

Лінія савецка-германскага фронту ў сакавіку 1918г.
Тэрыторыя Беларусі ў працэсе фарміравання
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ



## ТЭРЫТОРЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ПАРАЎНАННІ З АСОБНЫМІ КРАІНАМІ ЕЎРОПЫ. 1995 г. (у тыс. кв. км)



# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА
# BELARUSIAN DIASPORA



Беларуская дыяспара — частка беларускага народа, якая жыве па-за межамі Беларусі. У канцы XIX ст. — 1990-я гады беларуская дыяспара ахоплівала ад $^1/_6$ да амаль $^1/_3$ часткі беларускай нацыі. На рубяжы XX—XXI стст. за межамі Рэспублікі Беларусь пражывае 3—3,5 млн. беларусаў.

У розных гістарычных умовах перасяленне насельніцва беларускіх этнічных зямель у іншыя рэгіёны было выклікана эканамічнымі, палітычнымі, ваеннымі, рэлігійнымі і іншымі прычынамі. Ранняя эміграцыя вызначалася найперш уцёкамі з Вялікага Княства Літоўскага пакрыўджаных ці незадаволеных яго палітыкай прадстаўнікоў пануючага саслоўя. Натуральнай эміграцыі з беларускіх зямель садзейнічалі створаныя ў ВКЛ прававыя падставы. Паводле прывілея 1447 г. вялікага князя ВКЛ Казіміра IV (пазней замацаваны ў Статуце ВКЛ 1529 г.) князі, рыцары, шляхта і баяры маглі пакідаць дзяржаву «для лепшого щастья набытья», навучання ваеннаму майстэрству. Статуты ВКЛ 1566 і 1588 г. пацвердзілі права вольных людзей розных саслоўяў на лячэнне, набыццё адукацыі, навучанне рамяству за мяжой. Многія з «вольных» людзей, якія выязджалі ў замежныя краіны, пакідалі там добрую спадчыну, садзейнічалі пашырэнню кнігадрукавання і асветы (Ф. Скарына, П. Мсціславец, Сімяон Полацкі, І. Капіевіч і інш.). У XVI—XVII стст. выезд за мяжу быў выкліканы ўзмацненнем прыгоннай эксплуатацыі сялян у ВКЛ, нацыянальна-рэлігійнага ўціску ў Рэчы Паспалітай. У XVII—XVIII стст. у ходзе войнаў Расіі з Рэччу Паспалітай і іншымі дзяржавамі беларускія землі часта станавіліся арэнай жорсткіх бітваў, а іх жыхары масава выводзіліся ў глыб імперыі. Выхадцы з Беларусі і прымусова пераселеныя сяляне, рамеснікі, гандляры, шляхта садзейнічалі гаспадарчаму асваенню Паволжа і Сібіры, некаторыя з іх займалі ў Расіі высокія дзяржаўныя і ваенныя пасады, сталі заснавальнікамі купецкіх родаў, узбагачалі культурнае жыццё ў месцах свайго пражывання. Перасяленцы беларускіх зямель і іх нашчадкі былі ў ліку пачынальнікаў геаграфічнага, этнаграфічнага вывучэння новых каланізаваных Расіяй тэрыторый, карэнных народаў Прыуралля, Сібіры, Чукоткі,

Камчаткі (А. Каменскі, Л. Сеніцкі і інш.). У другой палове XVII ст. дзесяткі майстроў-рамеснікаў з Полацка, Віцебска, Оршы, Шклова, Магілёва і інш. гарадоў працавалі ў Аружэйнай палаце, аздаблялі церамы Крамля, Каломенскі палац, Навадзевячы, Данскі і Нова-Іерусалімскі (на Істры) манастыры. Яны прынеслі ў Рускую дзяржаву новыя рамёствы, свой адметны стыль, матывы і тэхніку скульптурнай разьбы па дрэве («беларуская рэзь»), вырабу шматколернай кафлі. Тры падзелы Рэчы Паспалітай 1772, 1793, 1795 гг. і развіццё ў сувязі з гэтым у канцы XVIII—XIX стст. нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі вызначалі палітычныя прычыны эміграцыі. Боязь рэпрэсій з боку царскага ўрада выштурхнула з бацькаўшчыны тысячы ўдзельнікаў паўстанняў 1794,1830—1831,1863—1864 гг., а таксама прыхільнікаў аднаўлення ВКЛ у час паходу ў 1812 г. Напалеона на Расію. Яны рассеяліся па свеце, некаторыя ўключыліся ў рэвалюцыйны і вызваленчы рух у Еўропе і Амерыцы (Т. Касцюшка, В. Урублеўскі, М. Судзілоўскі, З. Мінейка і інш.), садзейнічалі развіццю культуры і навукі краін свайго пражывання, узбагачалі тым самым і беларускую спадчыну (І. Дамейка, Г. Дмахоўскі, Н. Орда, А. Рыпінскі, К. Ельскі і інш.). Паводле перапісу 1897 г. у Расійскай імперыі за межамі губерняў пераважна з беларускім насельніцтвам (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская) пражывала больш за 500 тыс. беларусаў. Усходняя беларуская дыяспара папаўнялася таксама шляхам гвалтоўнага высялення найперш па палітычных матывах нелаяльнай да ўлады шляхты, удзельнікаў нацыянальна-вызваленчых паўстанняў. Даследчыкамі прыроды, побыту, традыцый народаў Сібіры, Далёкага Усходу, Казахстана сталі сасланыя І. Чэрскі, Э. Пякарскі, А. Янушкевіч і інш. Першая хваля масавай працоўнай міграцыі беларускага насельніцтва ў іншаэтнічныя рэгіёны Расійскай імперыі (усходняя) і за яе межы (заходняя) пракацілася на рубяжы XIX—XX стст. Яна ўзмацніла працэс фарміравання беларускай дыяспары за межамі Бацькаўшчыны. Да Першай сусветнай вайны па эканамічных прычынах толькі ў Сібір з Беларусі перасялілася больш за 700 тыс. (пераважна сяляне), за межы Расіі — 500—600 тыс. чалавек (пераважна ў ЗША, Канаду, Бразілію, Аргенціну, краіны Заходняй Еўропы). У 1914 г. зарэгістравана першае супольнае Таварыства беларусаў і маларосаў (ЗША, штат Мічыган). У рускіх асяродках ЗША і Канады беларусы складалі значную частку, былі заснавальнікамі многіх праваслаўных цэркваў, прыходаў, удзельнікамі грамадска-культурнага жыцця.

Першая сусветная вайна 1914—1918 гг., Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 г., германская і польская акупацыі Беларусі выклікалі значны адток беларускага насельніцтва на Усход Расіі (246 тыс. бежанцаў і эвакуіраваных пасля не вярнуліся на радзіму), вываз ваеннапалонных у Германію, выезд больш 120 тыс. чалавек у Літву, Латвію, Эстонію, Чэхаславакію, Турцыю і інш. краіны. За мяжой з'явілася першая арганізаваная палітычная эміграцыя (урад і вайсковыя фарміраванні БНР, кіраўніцтва партыі беларускіх эсэраў). Працоўная (сялянская) эміграцыя звязана з выездам у Амерыку і Еўропу (каля 180—250 тыс. жыхароў Заходняй Беларусі, якая знаходзілася пад уладай Польшчы). Найбольшай актыўнасцю і нацыянальна-культурнай дзейнасцю ў міжваенны перыяд вызначалася беларуская дыяспара ў Літве, Латвіі, Чэхаславакіі, ЗША, Францыі, Аргенціне (існавалі таварыствы, нацыянальны друк, асвета). З БССР у 1926—1938 гг. у іншыя рэгіёны СССР перасялілася больш 600 тыс. чалавек (планавы набор рабочай сілы, дэпартацыі, палітычныя рэпрэсіі і інш.). Рассеяныя па абшарах дзяржавы беларусы стварылі дзесяткі грамадскіх, культурна-асветных арганізацый, якія ў 1930-я гады былі знішчаны ўладамі.

У выніку Другой сусветнай вайны амаль 1,5 млн. беларусаў эвакуіравалася на ўсход і толькі трэць з іх вярнулася ў БССР; у ліку савецкіх ваеннапалонных за мяжой апынуліся сотні тысяч беларусаў; 385 тыс. чалавек вывезена ў Германію на прымусовую працу. Да сакавіка 1946 г. у СССР рэпатрыіравана 520 тыс. беларусаў. Аснову

беларускай дыяспары склалі таксама члены беларускіх арганізацый, устаноў, вайсковых фарміраванняў на акупаванай тэрыторыі, якія выехалі на Захад. Пасля вайны пры адсутнасці свабоднага ўезду і выезду з СССР беларуская дыяспара папаўнялася нязначна. Рэгулярны прыток беларусаў і выхадцаў з Беларусі ў заходнія краіны выявіўся ў канцы 1980-х гадоў.У 1988—1991 гг. атрымалі дазвол на эміграцыю з БССР на Захад 74 тыс. чалавек, а ў 1992—1999 гг. — больш за 69 тыс. жыхароў Беларусі (у Ізраіль, ЗША, Германію, Аўстралію, Польшчу, Канаду). На 1999 г., па неафіцыйных звестках, каля 500 тыс. беларусаў пражывала ў ЗША, каля 100 тыс. — у Канадзе, дзесяткі тысяч у Аргенціне, Бразіліі, Францыі, Бельгіі, Германіі, а таксама ў новых цэнтрах беларускай дыяспары — Велікабрытаніі і Аўстраліі. Прыкладна 250—400 тыс. беларусаў Беласточчыны апынулася ў Польшчы пасля вызначэння пасляваенных дзяржаўных граніц. Пасля распаду СССР і ўтварэння на яго абшарах новых незалежных дзяржаў у іх апынулася больш за 2 млн. беларусаў. У наступныя гады вызначылася тэндэнцыя іх вяртання на бацькаўшчыну, хоць хутка выявілася і запавольванне гэтага працэсу ў сувязі з пагаршэннем сацыяльна-эканамічнага становішча Беларусі, адсутнасцю пэўнай дзяржаўнай падтрымкі рэпатрыяваных суродзічаў, цяжкасцю ўладкавання. У 1992—1999 гг. Беларусь прыняла з новых незалежных дзяржаў 408 тыс. асоб, з якіх амаль 188 тыс. беларусы. За гэты час адсюль перасяліліся амаль 210 тыс. жыхароў Беларусі, у тым ліку ў Расію — 155 тыс., Украіну — больш 37 тыс., краіны Балтыі — 5,2 тыс., Казахстан — 4,3 тыс. Беларусы сярод іх складалі адносна невялікую частку.

На постсавецкай прасторы цяпер сканцэнтравана пераважная большасць усіх замежных беларусаў, у Расіі іх больш 1 млн. чалавек, на Украіне больш 400 тыс., Казахстане — 110 тыс., Латвіі — амаль 100 тыс., Літве — 55 тыс., Эстоніі — 25 тыс. і г. д. Частка беларускай дыяспары, што жыве на памежных з Рэспублікай Беларусь тэрыторыях, з'яўляецца карэнным насельніцтвам на гэтых землях. Духоўнай асновай нацыянальнага самавызначэння, праявай самабытнасці, адметнасці сталі створаныя ў замежжы працай і ахвярнасцю многіх беларусаў грамадскія, палітычныя, асветна-культурныя, навуковыя, рэлігійныя арганізацыі, суполкі мастакоў, нацыянальны друк і асвета, культурныя цэнтры, музеі і архівы, мастацкія калектывы, пабудаваныя храмы. За мяжой дзейнічаюць Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларуская праваслаўная царква ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха, Беларускія каталіцкія (уніяцкія) місіі ў Чыкага, Лондане, Парыжы. Царкоўна-рэлігійнае жыццё на нацыянальнай аснове складваецца і на постсавецкім абшары (Масква, Вільнюс, Рыга). Захаванню нацыянальнай свядомасці, пашырэнню звестак пра беларусаў спрыяюць Беларуска-амерыканскае задзіночанне, Беларускае нацыянальнае аб'яднанне, Беларускі кангрэсавы камітэт, Беларуска-амерыканская рада ў Чыкага (усе ў ЗША), Згуртаванне беларусаў Велікабрытаніі, Згуртаванне беларусаў Канады, Федэрацыя беларускіх арганізацый у Аўстраліі, Беларускі хаўрус у Францыі, жаночыя, маладзёжныя і інш. арганізацыі; праводзенне традыцыйных сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі (з 1952 г. — 25 сустрэч), Аўстраліі (з 1976 г. — 13 сустрэч); перыядычны друк, у т. л. штомесячная газета «Беларус» (у ЗША ў 1980-я гады выходзіла 15 выданняў на беларускай мове). Нацыянальна-культурныя, сацыяльна-палітычныя інтарэсы беларусаў Польшчы выказваюць палітычная партыя Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае аб'яднанне студэнтаў і іншыя таварыствы, згуртаваныя ў Раду беларускіх арганізацый і Беларускі саюз, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, газета «Ніва», часопіс «Беларускі гістарычны сшытак» і інш. З канца 1980-х гадоў пачаўся працэс нацыянальна-культурнага гуртавання беларусаў СССР. Аб дынаміцы іх арганізацыйнага аб'яднання на постсавецкай прасторы сведчыць грамадская культурна-асветная дзейнасць у 2000 г. — больш 100 беларускіх суполак, таварыстваў, згуртаванняў, цэнтраў у Расіі,

на Украіне, Малдове, Латвіі, Літве, Эстоніі, Казахстане, Кыргызстане, Арменіі, Узбекістане. Выдаюцца газеты «Рунь» (Вільнюс) і «Прамень» (Рыга). Цэнтры навукова-культурнага жыцця беларускай дыяспары: Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, Англа-беларускае таварыства, Бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане, філіял Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Таронта (Канада), Вялікалітоўскі фонд імя Л. Сапегі, Фонд імя П. Крэчэўскага (ЗША), асацыяцыя «Беларускія перспектывы» (Францыя). Ажыццяўляецца праект стварэння Цэнтра беларускіх даследаванняў у Францыі з удзелам нацыянальнай дыяспары і нашчадкаў беларусаў-эмігрантаў.

Асяроддзе замежных беларусаў вылучыла сваіх вядомых людзей у розных галінах навукі, мастацтва, грамадскага жыцця, рэвалюцыйнага руху. Сярод іх —дыпламаты (І. Гашкевіч), вучоныя (А. Адамовіч, В. Грыцкевіч, Я. Запруднік, А. Калубовіч, А. Каўка, В. Кіпель, Б. Кіт, І. Любачка, А. і Я. Мірановічы, І. Прыгожын, Я. Садоўскі, С. Станкевіч, У. Сядура, В. Тумаш, Ю. Туронак, П. Урбан, Я. Шыраеў, У. Юзвюк і інш.), спевакі (М. Забэйда-Суміцкі, П. Конюх, Б. Данчык), кампазітары (М. Равенскі, М. Шчаглоў-Кулікові́ч), паэты і празаікі (Н. Арсеннева, А. Барскі, Э. Вайвадзіш, А. Кірвель, У. Клішэвіч, І. Ласкоў, А. Салавей, І. Снарская, М. Сяднёў, Я. Чыквін, В. Швед, С. Яновіч і інш.), мастакі (А. Ахола-Вало, М. Давыдзюк, В. Жаўнеровіч, П. Мірановіч, М. Наўмовіч, І. Рагалевіч-Дудко, Г. Русак, Т. Стагановіч, Л. Тарасевіч, З. Чайкоўскі, У. Шыманец, І. Шыманец-Сурвіла і інш.).

Партыйна-дзяржаўныя колы Беларусі доўгія гады ў адносінах да беларускай дыяспары вялі палітыку яе непрызнання, ізаляцыі ад Бацькаўшчыны, расколу па ідэалагічных адзнаках, русіфікацыі. Створаная ў пасляваенны час беларуская секцыя Савецкага камітэта «За вяртанне на Радзіму» (1955) і Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (1964, з 1976 г. — Беларускае таварыства «Радзіма») трымалі сувязь толькі з кіраўніцтвам тых арганізацый, якія лаяльна ставіліся да сацыялістычнага ладу. Ігнараваліся нацыянальна-культурныя патрэбы суродзічаў у іншаэтнічных раёнах СССР. З пачаткам працэсаў дэмакратызацыі, нацыянальнага адраджэння ўзніклі ўмовы для пераасэнсавання ролі беларускай дыяспары. З канца 1980-х гадоў новыя грамадскія рухі (БНФ, ТБМ і інш.) сталі ініцыятарамі ўсталявання з ёй сталых зносін. Істотныя змены ў адносінах да беларускай дыяспары, у тым ліку і на дзяржаўным узроўні, пачаліся, калі Беларусь набыла незалежнасць.

З 1990 г. дзейнічае Міжнародная грамадская арганізацыя «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», асноўнымі задачамі якой з'яўляецца: спрыяць адраджэнню культуры, мовы, нацыянальнай свядомасці і традыцый беларускага народа, кансалідацыі беларусаў свету; наладжваць патрэбныя для Беларусі сувязі з замежжам; аказваць дапамогу ў арганізацыі нацыянальнага, культурнага жыцця беларускім суполкам у замежжы; падтрымліваць пастаянныя кантакты паміж Беларуссю і яе дыяспарай у свеце.

«Бацькаўшчына» стала ініцыятарам і арганізатарам (пры ўдзеле іншых структур) акцый агульнанацыянальнага маштабу. 19—20 снежня 1992 г. у Мінску адбыўся Першы сход беларусаў блізкага замежжа. На сход прыехалі больш за 300 дэлегатаў з Расіі, краін Балтыі, Украіны, Малдовы, Сярэдняй Азіі і Польшчы. На першым з'ездзе беларусаў свету, які праходзіў 8—10 ліпеня 1993 г. у Мінску і быў таксама скліканы па ініцыятыве «Бацькаўшчыны», прысутнічала больш за 1200 дэлегатаў і гасцей з ЗША, Канады, Аргенціны, Аўстраліі, Францыі, Бельгіі, Польшчы, Расіі і інш. краін. У пасяджэннях Другога з'езда беларусаў свету 26—27 ліпеня 1997 г. у Мінску удзельнічалі больш за 700 дэлегатаў і гасцей з розных краін, у тым ліку з ЗША, Італіі, Аўстраліі, Францыі, Украіны.

У 1994—2000 гадах згуртаванне правяло 4 міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, удзельнічала ў Першым і Другім з'ездах беларусаў краін Балтыі (1994—

1998), традыцыйных сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі, у правядзенні культурнай праграмы «Беларусы ў Празе» (1996). Выдадзены кнігі М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», зборнік вершаў Н. Арсенневай «Пад сінім небам», тры зборнікі «Культура беларускага замежжа», матэрыялы Першага з'езда беларусаў свету і па ініцыятыве і пры ўдзеле «Бацькаўшчыны» адноўлены вобраз Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай, па выніках гэтай працы апублікавана кніга У. Арлова «Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны» і створаны дакументальны фільм В. Шавялевіча «Шлях да святыні».

Сваёй дзейнасцю «Бацькаўшчына» аб'ядноўвае беларусаў у адну сусветную беларускую супольнасць, садзейнічае таму, каб суродзічы захоўвалі сваю беларускую адметнасць сярод іншых народаў.

## БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ І ГІМНЫ
## BELARUSIAN SONGS AND ANTHEMS



### БІТВА ПАД ВОРШАЙ

*Словы народныя*
*Музыка старабеларуская*

Ой, ў нядзельку параненьку
Ўзыйшло сонейка хмарненька,
Ўзыйшло сонейка над борам,
Па-над Сялецкім таборам.

А ў таборы трубы граюць,
Да нарады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:

А ці з поля, а ці зь лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы.

Гучаць разам з самапалаў,
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці.

А як з Воршы уцякалі,
Тую рэчку праклiналі:
«Бадай ты павысыхала,
Наша слава тут прапала...»

## ПАГОНЯ

*Словы М. Баргдановіча*
*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, —
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні, —
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у Пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці- Краіна,
Не усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, ты прыймі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь.

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

## У ГУШЧАРАХ

*Словы Н. Арсеньневай*
*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*

У гушчарах, затканых імглою,
Шэрым змрокам, на золку зару
Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцы жалю ды страху,
Мы адвагай юнацкай гарым,
Не чужыя варожыя сілы, —
Толькі ты нас вядзеш да зары.

Не чужыя варожыя сілы, —
Толькі ты нас вядзеш да зары.

Хмараў дым над абшарамі тае,
Вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём!

Беларусь, Беларусь залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём!

## За Случчыну

*Словы Н. Арсенневаў*

*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*

Абтрасалі зь бярозаў лісьце вятругі,
І гублялі рабіны чырвоныя сьлёзы,
Як пайшлі мы ў змаганьне, на раны, на згін,
Абы яваю сталіся крозы.

*Рэфрэн:*

Пайшлі мы, воі з Божае ласкі,
У бой за Случчыну сваю!
Нам дзіў, што сёньня баюць казкі
Пра нас і песьні нам пяюць.

Аддавалі жыцьцё за сябе мы, за вас,
Беларусы-браты, і за сінія нівы,
І за тое, каб нас не смактала дрыгва,
А расьлі мы, аж сьвету надзіва.

*Рэфрэн.*

Не штыхі і ня кулі — жаролы гармат,
За адзіную зброю мы мелі каханьне,
Грала сэрца яно, хоць залеў лістапад
І расьлі ў рад магілы за намі.

*Рэфрэн.*

Не судзіла нам доля разгорыць зару,
Не судзіла даць шчасьце ды волю Айчыне,
Дай жа Бог, каб унукі ўзьнялі Беларусь
На ўзвышшы ахвярай і чынам.

*Рэфрэн.*

## ВАЯЦКІ МАРШ

*Беларускі нацыянальны гімн*

*Словы М. Краўцова*
*Музыка У. Тэраўскага*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой простор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
Дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі родны дух,
Родны дух!
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой усе да аднаго,
Да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першым выкліча на бой!

Браты, да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней,
Ў крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі свае,
Жыцьцё Рэспублікі свае!

## О, БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

*Словы У. Дубоўкі*
*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*

Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет,
У віхры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасьцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю,
Тваіх вачэй пад колер сталі
Праменьне яснае люблю.

Варожасьць шляху не зачыне,
У перашкодах дух расьце.
О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет.

## ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

*Словы Канстанцыі Буйлы*
*Музыка Міколы Равенскага*

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
І хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

І жніва час душой люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Калі на поле выйдуць жнеі,
А касары — на сенакос.

І песню родную люблю я,
Што жнеі ў полі запяюць,
Як гукі звонкія над нівай
Пераліваюцца-плывуць.

Люблю ў пагодную я ночку
Дапозна ў садзіку сядзець,
Сачыць за ясных зор мігценнем,
На месяц залаты глядзець.

Мне тут усё да сэрца міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з першай горкаю слязой.

## НЕ ЗАГАСНУЦЬ ЗОРКІ Ў НЕБЕ

*Словы Янкі Купалы*
*Музыка Міколы Янчука*
*Гарм. Міколы Равенскага*

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе,

Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.

Ночка цёмная на свеце
Вечна не начуе;
Зерне, кінутае ў ніву,
Ўсходзіць ды красуе.

Наша зерне — нашы думкі —
Не загінуць свету,
Бліснуць краскай непаблеклай
Вечных агняцветаў.

З добрых думак, што мы кінем
На сваім дзірване,
Будзе унукам нашым жніва —
Доля, панаванне.

Беларускаю рукою
Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Беларусі мілай.

Зацвіце яна, як сонца
Пасля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
Між усіх народаў.

Не загіне край забраны,
Покі жывы людзі,
Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе.

## МАГУТНЫ БОЖА

*Словы Н. Арсенневай*
*Музыка М. Равенскага*

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы, штодзённай, шэрай,
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць дай.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

# ХРАНАЛОГІЯ ГАЛОЎНЫХ ПАДЗЕЯЎ І ДАТ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ
# LIST OF MAJOR EVENTS ANS DATES IN HISTORY OF BELARUS IN CHRONOLOGICAL ORDER



| | |
|---|---|
| 100 тысяч гадоў назад | З'яўленне на тэрыторыі Беларусі першых людзей. |
| 100—5 тысяч гадоў назад | Каменны век. |
| Каля 25 тысяч гадоў назад | Найстаражытнейшыя з вядомых вучоным стаянкі чалавека каля вёсак Юравічы (Калінкавіцкі раён) і Бердыж (Чачэрскі раён). |
| Канец III тысячагоддзя да н. э. — VII ст. да н. э. | Бронзавы век. |
| VII ст. да н. э. — VIII ст. н. э. | Жалезны век. |
| VI—VIII стст. | Пачатак славянізацыі тэрыторыі Беларусі. |
| VIII—X стст. | Існаванне саюзаў летапісных плямён крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. |
| 826 г. | Першая згадка ў летапісах пра Полацк. |
| Сярэдзіна X ст. | Утварэнне Полацкага княства, першай старажытнабеларускай дзяржавы. |
| 947 г. | Першыя звесткі пра Віцебск. |
| Каля 980 г. | Летапісныя паведамленні пра першага беларускага князя Рагвалода. |
| 980 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Тураў. |

| | |
|---|---|
| Каля 985 г. | Першая згадка ў летапісе пра Заслаўе. |
| 988—1001 гг. | Княжанне ў Полацку Ізяслава, сына Рагнеды Рагвалодаўны. |
| 992 г. | Утварэнне Полацкай епархіі. |
| 1000 г. | Смерць вялікай княгіні Рагнеды. |
| 1003—1044 гг. | Княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяславіча. |
| 1005 г. | Заснаванне Тураўскай епархіі. |
| 1019 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Берасце. |
| 1021 г. | Войска полацкага князя Брачыслава авалодала Ноўгарадам. Бітва палачанаў з дружынай Яраслава Мудрага на Судоме. |
| 1029 г. | Нарадзіўся найславуцейшы з старажытнабеларускіх князёў Усяслаў Чарадзей. |
| 1044—1066 г. | Будаўніцтва ў Полацку трэцяга на ўсходнеславянскіх землях (пасля Кіева і Ноўгарада) Сафійскага сабора, які сімвалізаваў незалежнасць Полацкага княства. |
| 1044—1101 гг. | Княжанне ў Полацку Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем. |
| 1065 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Браслаў. |
| 1066 г. | Пераможны паход палачанаў на Ноўгарад. |
| 3 сакавіка 1067 г. | Бітва на Нямізе паміж войскам Усяслава Чарадзея і злучанымі дружынамі князёў Кіеўскай Русі. |
| | Першыя летапісныя звесткі пра Менск. |
| 1067 г. | Першая згадка ў летапісе пра Воршу. |
| 1068—1069 гг. | Княжанне Усяслава Чарадзея ў Кіеве. |
| 1078 г. | Перамога палачанаў над войскамі Уладзіміра Манамаха. |
| | Першае паведамленне летапісаў пра Лагойск. |
| 1097 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Пінск. |
| 14 красавіка 1101 г. | Памёр князь Усяслаў Чарадзей. |
| 1-я палова XII ст. | Смаленскае княства здабыло самастойнасць. |
| 1101—1119 гг. | Княжанне ў Менску Глеба Усяславіча (Глеба Менскага). |
| 1102 г. | Заснаванне горада Барысава. |
| Каля 1104 — 23 траўня 1167 г. | Жыццё і дзейнасць асветніцы Еўфрасінні Полацкай. |
| 1116 г. | Першыя згадкі ў летапісе пра Слуцк. |

| | |
|---|---|
| 1127 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Гародню. |
| 1127—1159 гг. | Княжанне ў Смаленску Расціслава Мсціславіча. |
| 1129 г. | Высылка полацкіх князёў у Візантыю. |
| Каля 1130 — каля 1182 г. | Жыццё і дзейнасць славутага пісьменніка і прапаведніка Кірылы Тураўскага. |
| 1136 г. | Першыя паведамленні пра гарады Крычаў і Прапойск (Слаўгарад). |
| 1142 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Гомель. |
| 1147 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Брагін і расейскую Маскву. |
| Паміж 1152 і 1161 г. | Будаўніцтва ў Полацку дойлідам Іаанам Спасаўскага (Спаса-Еўфрасіннеўскага) саборнага храма. |
| 1155 г. | Першая згадка пра Мазыр. |
| 1156 г. | Першыя звесткі пра Мсціслаў. |
| 1158 г. | Заваёва незалежнасці Тураўскім княствам. |
| 1161 г. | Полацкі майстар-ювелір Богша (у хрышчэнні Лазар) стварыў крыж Еўфрасінні Полацкай. |
| 1180-я гг. | У Гародні збудавана Барысаглебаўская (Каложская) царква. |
| Каля 1186 г. | Стварэнне «Слова пра паход Ігаравы». |
| 1186—1216 гг. | Княжанне ў Полацку Валодшы (Уладзіміра). |
| 1203, 1206, 1216 г. | Паходы полацкіх дружын на нямецкіх рыцараў у Ніжняе Падзвінне. |
| 1213 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Рэчыцу. |
| Пачатак XIII ст. | Утварэнне Навагародскага княства. |
| 1240-я гг. | Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага. |
| Каля 1248 — 1263 г. | Княжанне ў Новагародку князя Міндоўга, першага вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага. |
| 1240 г. | Удзел палачанаў у разгроме шведскіх рыцараў на Няве. |
| 1242 г. | Разгром нямецкіх рыцараў Аляксандрам Неўскім з удзелам полацкай і віцебскай дружын на Чудскім возеры. |
| 1249 г. | Князь Міндоўг разграміў каля горада Крутагор'е войска татарскага хана Койдана. З таго часу горад атрымаў назву Койданава (з 1932 г. Дзяржынск). |
| 1252 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Наваградак (Навагрудак), Слонім і Ваўкавыск. |

| | |
|---|---|
| 1253 г. | Вялікі князь Міндоўг атрымаў тытул караля і каранаваўся ў Навагрудку. |
| 1258—1259 гг. | Паход мангола-татараў на Беларусь. |
| 1260 г. | Войска Вялікага Княства Літоўскага разбіла крыжакоў каля возера Дурбэ. |
| 1264—1267 гг. | Княжанне вялікага князя Войшалка (сына Міндоўга). |
| 1267 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Магілёў. |
| 1267—1270 гг. | Княжанне вялікага князя Шварна. |
| 1270—1282 гг. | Княжанне вялікага князя Трайдзеня. |
| 1284 г. | Разгром войскамі літоўскага князя Рынгальда мангола-татарскіх войскаў каля вёскі Магільна (цяпер Уздзенскі раён). |
| 1295—1316 гг. | Княжанне вялікага князя Віценя. |
| 1295 г. | Пагоня зацверджана як герб Вялікага Княства Літоўскага. |
| 1307 г. | Добраахвотнае ўваходжанне Полацкай зямлі ў Вялікае Княства Літоўскае. |
| 1314 г. | Перамога Давыда Гарадзенскага над нямецкімі рыцарамі пад Навагрудкам. |
| 1315 г. | У склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшла Берасцейская зямля. |
| 1316—1341 гг. | Княжанне вялікага князя Гедзіміна. |
| 1317 г. | Заснаванне Літоўскай мітраполіі. |
| 1320 г. | Уваходжанне Віцебскага княства ў склад Вялікага Княства Літоўскага. |
| | Вялікі князь Гедзімін заснаваў горад Беласток. |
| 1320—1330-я гг. | Уваходжанне ў склад Вялікага Княства Літоўскага Турава-Пінскай зямлі. |
| 1323 г. | Перанясенне сталіцы дзяржавы з Наваградка ў Вільню. |
| 1331 г. | Перамога войскаў вялікага князя Гедзіміна над рыцарамі Тэўтонскага ордэна на рацэ Акмяне. |
| 1341—1345 гг. | Княжанне вялікага князя Яўнута. |
| 1345—1377 гг. | Княжанне вялікага князя Альгерда. |
| 1348 г. | Перамога войскаў Вялікага Княства над нямецкімі рыцарамі на рацэ Стрэве. |
| 1355 г. | Да Вялікага Княства Літоўскага далучана Бранскае княства. |

| | |
|---|---|
| 1358 г. | У склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшло Мсціслаўскае княства. |
| 1362 г. | Перамога нашых войскаў на чале з Альгердам над злучанымі сіламі Залатой арды на рацэ Сініх Воды, у выніку чаго былі вызвалены ад татарскага прыгнёту і ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага Кіеўская, Чарнігаўская, Валынская, Падольская і Пераяслаўская землі. |
| 1368—1372 гг. | Паходы вялікага князя Альгерда на Маскву. |
| 1377—1392 гг. | Княжанне вялікага князя Ягайлы. |
| 8 верасня 1380 г. | Кулікоўская бітва, у якой удзельнічалі Андрэй Альгердавіч (Андрэй Полацкі), Дзмітры Альгердавіч ды інш. ваяводы з беларускіх зямель. |
| 1385 г. | Крэўская унія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. |
| 1387 г. | Вільня першая з беларускіх гарадоў атрымала магдэбургскае права. |
| 1390 г. | Магдэбургскае права нададзена Берасцю. |
| 1391 г. | Самакіраванне паводле магдэбургскага права атрымала Гародня. |
| 1392 г. | Востраўскае пагадненне паміж Вітаўтам і Ягайлам аб перадачы ўлады ў Вялікім Княстве Вітаўту. |
| 1392—1430 гг. | Княжанне вялікага князя Вітаўта. |
| 1399 г. | У бітве з татарамі на рацэ Ворскле загінуў апошні полацкі князь Андрэй Альгердавіч. |
| 1404 г. | Уваходжанне Смаленскага княства ў Вялікае Княства Літоўскае. |
| 1408 г. | Усталяванне мяжы паміж Вялікім Княства Літоўскім і Маскоўскім Княствам па рэках Ацэ і Угры. |
| 15 ліпеня 1410 г. | Разгром арміі Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам злучанымі сіламі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. |
| 1411 г. | Тарунскі мір Вялікага Княства і Польшчы з Тэўтонскім ордэнам. |
| 1413 г. | Гарадзельская унія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. |
| 1430—1432 гг. | Княжанне вялікага князя Свідрыгайлы. |
| 1432—1440 гг. | Княжанне вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. |
| 1468 г. | Прыняцце Судзебніка вялікага князя Казіміра Ягайлавіча, першага збору законаў дзяржавы. |

| | |
|---|---|
| 1490(?)—1551(?) гг. | Жыццё і дзейнасць асветніка, заснавальніка беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання Францішка Скарыны. |
| 1492—1506 гг. | Княжанне вялікага князя Аляксандра. |
| 1492—1494 гг. | Першая вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім. |
| 1498 г. | Полацк атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права. |
| 1499 г. | Магдэбургскае права нададзена Менску. |
| 1500—1503 гг. | Вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім. |
| 1506—1548 гг. | Княжанне вялікага князя Жыгімонта I Старога. |
| 5 жніўня 1506 г. | Разгром нашымі войскамі на чале з Міхалам Глінскім крымскіх татараў пад Клецкам. |
| 1507—1508 гг. | Вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім. |
| 1512—1522 гг. | Вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім. |
| 8 верасня 1514 г. | Бліскучая перамога 35-тысячнай арміі Вялікага Княства на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім над 80-тысячным войскам маскоўскіх захопнікаў пад Воршай. |
| 1516 г. | Выхад у свет паэмы Яна Вісліцкага «Пруская вайна», прысвечанай перамозе пад Грунвальдам. |
| 6 жніўня 1517 г. | Францішак Скарына выдаў у Празе першую друкаваную беларускую кнігу. |
| 1522 г. | Францішак Скарына заснаваў у Вільні першую на тэрыторыі Усходняй Еўропы друкарню. |
| 1523 г. | Выйшла ў свет паэма беларускага паэта-лацініста Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». |
| 1529 г. | Прыняты першы Статут Вялікага Княства Літоўскага. |
| 1534—1537 гг. | Вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім. |
| 1548—1572 гг. | Княжанне вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста. |
| 1557 г. | Прынята «Устава на валокі», якая ўнармавала ў Вялікім Княстве Літоўскім зямельную рэформу. |
| 1557—1633 гг. | Жыццё і дзейнасць выдатнага палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі. |
| 1558—1583 гг. | Інфлянцкая (Лівонская) вайна Масковіі з Інфлянцкім (Лівонскім) ордэнам, Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай. |

| | |
|---|---|
| 1559 г. | Інфлянцкі (Лівонскі) ордэн перайшоў пад пратэктарат Вялікага Княства Літоўскага. |
| 1562 г. | Сымон Будны распачаў кнігавыдавецкую дзейнасць у Нясвіжы. |
| Люты 1563 г. | Войска Івана IV Жахлівага захапіла Полацк. |
| Студзень 1564 г. | Разгом маскоўскага войска на рацэ Вуле. |
| 1566 г. | Зацверджаны Другі Статут Вялікага Княства Літоўскага. |
| 1569 г. | Аб'яднанне Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў Рэч Паспалітую. |
| 1573 г. | Княжанне вялікага князя Генрыха Валезага (Валуа). |
| 1576—1586 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Сцяпана Батуры (Стэфана Баторыя). |
| Жнівень 1579 г. | Вызваленне Полацка ад маскоўцаў. |
| 1579 г. | Пераўтварэнне Віленскага калегіума ў акадэмію — першую вышэйшую навучальную ўстанову ва Усходняй Еўропе. |
| Каля 1580 г. | Васіль Цяпінскі выдаў беларускі пераклад Евангелля. |
| 1581 г. | Створаны Галоўны літоўскі трыбунал — найвышэйшы судовы і апеляцыйны орган Вялікага Княства Літоўскага. |
| | Адкрыццё Полацкага езуіцкага калегіума. |
| 1587—1632 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы. |
| 1588 г. | Зацверджаны трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага. |
| 9 кастрычніка 1596 г. | Сабор у Берасці абвясціў унію праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай. |
| 1600—1629 гг. | Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй. |
| 27 верасня 1605 г. | Вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч на чале 4-тысячнага аддзела, які складаўся пераважна з беларусаў, разграміў пад Кірхгольмам (паблізу Рыгі) 14-тысячную шведскую армію. |
| 1609—1618 гг. | Вайна Рэчы Паспалітай з Расеяй. |
| Верасень 1610 г. | Войскі Рэчы Паспалітай занялі Маскву. |
| 1618 г. | Дзявулінскае замірэнне паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай, паводле якога Вялікае Княства Літоўскае вярнула сабе Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну і Ноўгарад-Северскую зямлю з 30 гарадамі. |
| 1621 г. | Войскі Рэчы Паспалітай на чале з гетманам Янам Каралем Хадкевічам разграмілі турэцкую армію пад Хоцінам. |

| | |
|---|---|
| 12 лістапада 1623 г. | Забойства віцебскімі бунтаўшчыкамі полацкага уніяцкага архіепіскапа Ясафата Кунцэвіча. |
| 1629—1680 гг. | Жыццё і дзейнасць пісьменніка, грамадскага дзеяча і асветніка Сімяона Полацкага. |
| 1632—1634 гг. | Вайна Расеі з Рэччу Паспалітай (Смаленская вайна), у выніку якой Смаленск застаўся ў Вялікім Княстве Літоўскім. |
| 1648—1651 гг. | Казацка-сялянская вайна ў Беларусі. |
| 1648—1668 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Яна Казіміра. |
| 1654—1667 гг. | Вайна Расеі з Рэччу Паспалітай. Самая крывавая і спусташальная вайна ў нашым мінулым. У выніку яе Беларусь страціла болей за 50% насельніцтва. |
| 1 лютага 1661 г. | Магілёўскае паўстанне, у час якога жыхары горада выразалі 7-тысячны акупацыйны расейскі гарнізон. |
| 1669—1673 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Міхала Вішнявецкага. |
| 1672 г. | Сімяон Полацкі адчыніў першы ў Расеі тэатр. |
| 1674—1696 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Яна Сабескага. |
| 1697—1706, 1709—1733 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Аўгуста II Моцнага. |
| 1700—1721 гг. | Паўночная вайна Расеі і Рэчы Паспалітай са Швецыяй. Вайсковыя дзеянні праходзілі на тэрыторыі Беларусі, якая страціла трэцюю частку насельніцтва. |
| 1704—1709, 1733 | Уладаранне вялікага князя і караля Станіслава Ляшчынскага. |
| 1708 г. | Бітва расейскіх войскаў са шведамі каля вёскі Лясная (Слаўгарадскі раён). |
| 1 траўня 1710 г. | Салдаты Пятра I узарвалі Полацкі Сафійскі сабор. |
| 1733—1764 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Аўгуста III. |
| 1743—1744 гг. | Крычаўскі сялянскі бунт. |
| 1764—1795 гг. | Уладаранне вялікага князя і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. |
| 1767 г. | Слуцкая канфедэрацыя праваслаўнай шляхты, створаная з дапамогай Расеі дзеля ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. |
| 1768 г. | Утварэнне патрыятычнай Барскай канфедэрацыі, якая выступала за захаванне незалежнасці дзяржавы. |
| 1771 г. | Расейскія войскі на чале з А. Суворавым перамаглі каля вёскі Сталавічы (Баранавіцкі раён) сілы барскіх канфедэратаў пад камандаваннем вялікага гетмана Міхала Казіміра Агінскага. |

| | |
|---|---|
| 1772 г. | Першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй і далучэнне ўсходняй часткі Беларусі да Расейскай імперыі. |
| 1773 г. | У Рэчы Паспалітай створана Адукацыйная камісія. |
| 3 траўня 1791 г. | Прыняцце Соймам Рэчы Паспалітай першай ў Еўропе Канстытуцыі. |
| 1792 г. | Утварэнне Таргавіцкай канфедэрацыі магнатаў і шляхты, незадаволеных прыняццем Канстытуцыі і прагрэсіўнымі рэформамі. Канфедэраты звярнуліся па дапамогу да Расеі, якая ўвяла ў Рэч Паспалітую свае войскі. |
| 1793 г. | Другі падзел Рэчы Паспалітай, у выніку якога Расея захапіла цэнтральную частку Беларусі. |
| 1794 г. | Нацыянальна-вызвольнае паўстанне Тадэвуша Касцюшкі. |
| 23 траўня 1794 г. | Указ імператрыцы Кацярыны II пра ўвядзенне ў Расейскай імперыі «мяжы яўрэйскай аселасці», у якую ўваходзілі Полацкая, Магілёўская і Мінская губерні. |
| 1795 г. | Трэці падзел Рэчы Паспалітай і далучэнне да Расейскай імперыі заходняй часткі Беларусі. |
| 24 снежня 1798 г. | Нарадзіўся Адам Міцкевіч. |
| 4 лютага 1808 г. | Нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. |
| 10 чэрвеня 1812 г. | Адкрыццё Полацкай езуіцкай акадэміі, якая мела правы універсітэта. |
| 1812 г. | Паход на Расею Вялікай арміі Напалеона, у якой служыла 25 тысяч нашых суайчыннікаў. Напалеонаўская авантура, якая нарадзіла спадзяванні на аднаўленне незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, каштавала Беларусі мільёна яе жыхароў. |
| 1817—1823 гг. | Дзейнасць таемных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў. |
| 1820 г. | Закрыццё царскімі ўладамі Полацкай акадэміі. |
| 1825 г. | Стварэнне падпольнага таварыства «Ваенныя сябры». |
| 1831 г. | Нацыянальна-вызвольнае паўстанне супраць царызму. |
| 1832 г. | Стварэнне пры расейскім урадзе «Асобага камітэта па справах Заходніх губерняў» з мэтай русіфікацыі Беларусі. |
| | Закрыццё Віленскага універсітэта. |

| | |
|---|---|
| 1836 г. | Царскі ўказ пра ўвядзенне ва ўсіх навучальных установах Беларусі выкладання на расейскай мове. |
| | Стварэнне нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі «Дэмакратычнае таварыства». |
| 2 лютага 1838 г. | Нарадзіўся нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі. |
| 1839 г. | Арганізаваны царскімі ўладамі Полацкі царкоўны сабор прымае акт аб ліквідацыі уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Беларускіх уніятаў (напрыканцы XVIII ст. яны складалі болей за 75% насельніцтва) прымусова далучаюць да Рускай праваслаўнай царквы. |
| 21 сакавіка 1840 г. | Адмысловым царскім указам забаронена ўжыванне ў афіцыйных дакументах назваў «Беларусь» і «Літва». |
| | Указ пра спыненне дзейнасці ў Беларусі трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага і поўнае ўвядзенне расейскага заканадаўства. |
| 1846—1849 гг. | Дзейнасць у Беларусі падпольнай арганізацыі «Саюз свабодных братоў» («Братні саюз літоўскай моладзі»). |
| 1859 г. | Забарона выкарыстання ў беларускім друку лацінскага шрыфту. |
| 3 сакавіка 1861 г. | Скасаванне прыгоннага права. |
| Чэрвень 1862 г. | Выйшаў першы нумар нелегальнай беларускамоўнай газеты «Мужыцкая праўда», якую выдаваў Кастусь Каліноўскі з паплечнікамі. |
| 1863 г. | Нацыянальна-вызвольнае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. |
| 1 лютага 1863 г. | Маніфест Часовага ўрада Літвы і Беларусі з заклікам да паўстання. |
| 13 лютага 1863 г. | Захоп паўстанцамі горада Пружаны. |
| 6 траўня 1863 г. | Захоп паўстанцамі горада Горы-Горкі. |
| 22 сакавіка 1864 г. | Пакаранне К. Каліноўскага смерцю ў Вільні. |
| 1864 г. | Забарона размаўляць у навучальных установах Беларусі на роднай мове. |
| | За ўдзел студэнтаў і выкладчыкаў у паўстанні 1863 г. зачынены Горы-Горацкі земляробчы інстытут. |
| 5 ліпеня 1876 г. | Нарадзілася паэтэса Цётка (Алаіза Пашкевіч). |
| 13 сакавіка 1881 г. | Беларускі шляхціц Ігнат Грынявіцкі забіў у Пецярбургу Аляксандра II, выканаўшы прысуд, які вынесла расейскаму імператару рэвалюцыйная арганізацыя «Народная воля». |

| | |
|---|---|
| 9 чэрвеня 1881 г. | Нарадзіўся выдатны палітычны дзеяч і вучоны, адзін з «бацькоў» Беларускай Народнай Рэспублікі, Іван Луцкевіч. |
| 7 ліпеня 1882 г. | Нарадзіўся Янка Купала. |
| 3 лістапада 1882 г. | Нарадзіўся Якуб Колас. |
| 8 лістапада 1883 г. | Нарадзіўся выдатны палітычны дзеяч, навуковец і пісьменнік Вацлаў Ластоўскі. |
| 1884 г. | Пачаў выходзіць часопіс «Гомон», орган беларускай фракцыі «Народнай волі». |
| 1891 г. | Выйшла ў свет кніга Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская». |
| 9 снежня 1891 г. | Нарадзіўся Максім Багдановіч. |
| 20 верасня 1903 г. | Нарадзілася паэтэса Наталля Арсеннева. |
| Снежань 1903 г. | Утварэнне першай беларускай палітычнай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады. |
| 31 кастрычніка 1905 г. | Расстрэл рэвалюцыйнага мітынгу на Прывакзальным пляцы ў Мінску («Курлоўскі расстрэл»). |
| Студзень 1906 г. | II з'езд Беларускай сацыялістычнай грамады. |
| Травень 1906 г. | Заснаванне першага легальнага беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». |
| 14 верасня 1906 г. | Выйшаў першы нумар легальнай беларускай газеты «Наша доля». |
| 23 лістапада 1906 г. | Пачаў выходзіць беларускі тыднёвік «Наша ніва». |
| 1907—1913 гг. | Дзейнасць Першай беларускай тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага. |
| 9 жніўня 1910 г. | Нарадзілася паэтэса Ларыса Геніюш. |
| 1 жніўня 1914 г. | Пачатак Першай сусветнай вайны. |
| 1915—1917 гг. | Дзейнасць Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. |
| Студзень 1916 г. | Стварэнне ў Вільні Цэнтральнага камітэта беларускіх нацыянальных арганізацый. |
| Люты 1916 г. | У Вільні створана канфедэрацыя, якая выступала за аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага. |
| Сакавік 1916 г. | Нарачанская наступальная аперацыя расейскіх войскаў і яе правал. |
| 19 сакавіка 1917 г. | У Мінску адбылася агульнагарадская маніфестацыя ў гонар перамогі Лютаўскай рэвалюцыі ў Расеі. |
| Ліпень 1917 г. | З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый і партый у Мінску. |

| | |
|---|---|
| 27 кастрычніка | III з'езд Беларускай сацыялістычнай грамады ў Мінску. |
| Лістапад 1917 г. | Цэнтральная рада беларускіх арганізацый пераўтворана ў Вялікую беларускую раду. |
| 18 снежня 1917 г. | Пачатак працы Першага Усебеларускага з'езда. Пасля ягонага разгону бальшавікамі на нелегальным пасяджэнні была абрана Рада Усебеларускага з'езда. |
| 3 студзеня 1918 г. | Рада Усебеларускага з'езда абрала Выканаўчы камітэт. |
| 18 лютага 1918 г. | Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда ўзяў у свае рукі ўладу ў Менску. |
| 21 лютага 1918 г. | Выканкам Рады Усебеларускага з'езда апублікаваў 1-ю Устаўную грамату да народаў Беларусі, дзе абвясціў сябе Часовым урадам. |
| 3 сакавіка 1918 г. | Падпісанне Брэсцкай мірнай дамовы паміж Савецкай Расеяй і дзяржавамі нямецкага блоку, паводле якой частка Беларусі пакідалася немцам. |
| 9 сакавіка 1918 г. | Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда прыняў 2-ю Устаўную грамату, дзе абвясціў Беларусь дэмакратычнай рэспублікай у яе этнаграфічных межах. |
| 25 сакавіка 1918 г. | Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). |
| 28 красавіка 1918 г. | Народны Сакратарыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову дзяржаўнай і абавязковай у БНР і прыняў пастанову пра адкрыццё ў Менску ўніверсітэта. |
| Чэрвень 1918 г. | Урад БНР афіцыйна зацвердзіў герб Пагоня і бела-чырвона-белы сцяг дзяржаўнымі сімваламі, а таксама ўвёў пашпарт грамадзяніна БНР. |
| 11 кастрычніка 1918 г. | Народны Сакратарыят Беларусі прыняў часовую Канстытуцыю БНР. |
| Снежань 1918 г. | Урад БНР на чале з Антонам Луцкевічам вымушаны пераехаць у Гародню. |
| 30—31 снежня 1918 г. | У Смаленску адбыўся I з'езд КП(б)Б, які абвясціў утварэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь (ССРБ). |
| 1 студзеня 1919 г. | Афіцыйнае абвяшчэнне БССР са сталіцай у Менску. У склад БССР увайшлі Віцебская, Гарадзенская, Менская, Магілёўская губерні, а таксама беларускія паветы Віленскай, Ковенскай і Смаленскай губерняў. |
| 16 студзеня 1919 г. | ЦК РКП(б) прыняў рашэнне пра ўключэнне Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў у склад РСФСР і стварэнне на астатняй тэрыторыі Літоўска-Беларускай ССР. |

| | |
|---|---|
| 2—3 лютага 1919 г. | 1-шы Усебеларускі з'езд Саветаў у Менску прыняў 1-ю Канстытуцыю БССР. |
| 27 лютага 1919 г. | Створана Літоўска-Беларуская ССР (ЛітБел) са сталіцаю ў Вільні. У складзе рэспублікі засталася тэрыторыя Віленскай і Менскай губерняў. |
| 21 красавіка 1919 г. | Польскія войскі занялі Вільню. |
| 17 ліпеня 1919 г. | Урад ЛітБел спыніў сваю дзейнасць. |
| 8 жніўня 1919 — 11 ліпеня 1920 г. | Акупацыя Менска польскімі войскамі. |
| Лістапад 1920 г. | Паход 20-тысячнай арміі прыхільніка незалежнасці Беларусі генерала Станіслава Булак-Балаховіча на Палессе. Чырвоная Армія, несучы значныя страты, пакінула Петрыкаў, Мазыр, Калінкавічы. |
| Лістапад—снежань 1920 г. | Антыбальшавіцкае Слуцкае паўстанне (Слуцкі збройны чын). |
| 14 лістапада 1920 г. | Адбыўся 1-шы беларускі з'езд Случчыны, які прызнаў яе часткаю БНР. З'езд вітаў Найвышэйшую раду БНР, выказаў пратэст супраць усталявання савецкай улады «як чужацкай» і пастанавіў прыступіць да арганізацыі ўласных вайсковых фарміраванняў. |
| 27 лістапада 1920 г. | Пачатак баявых дзеянняў слуцкіх паўстанцаў супраць савецкіх войскаў (Дзень Герояў). |
| 18 сакавіка 1921 г. | Падпісана Рыжская мірная дамова паміж РСФСР (і па ўпаўнаважанню ўрада БССР) і УССР з аднаго боку і Польшчай з другога, у выніку чаго Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна адышлі да Польшчы. |
| 11 ліпеня 1921 г. | Адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта. |
| 1921—1937 гг. | Дзейнасць у Заходняй Беларусі Таварыства беларускай школы. |
| 30 студзеня 1922 г. | Адкрыццё ў Менску Інстытута беларускай культуры. |
| 10 ліпеня 1922 г. | Абвешчана аўтаномія Беларускай праваслаўнай царквы на чале з мітрапалітам Мельхіседэкам. (У 1937 г. увесь клір больш чым 400 прыходаў Беларускай аўтакефальнай царквы быў знішчаны.) |
| 30 снежня 1922 г. | Дамова пра стварэнне Саюза ССР. Беларуская ССР увайшла ў склад СССР як заснавальніца. |
| Кастрычнік 1923 г. | Стварэнне Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. |
| Лістапад 1923 г. | У СССР, у тым ліку і ў БССР, створана Аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (ОГПУ—АДПУ), асобыя калегіі якога атрымалі права без суда выносіць пастановы пра тэрміны зняволення і расстрэлы асобаў, якія прызнаны імі вінаватымі. |

| | |
|---|---|
| Сакавік 1924 г. | Першае ўзбуйненне Беларускай ССР. У склад БССР, якая пасля свайго 2-га абвяшчэння ў ліпені 1920 г. уключала ўсяго 6 паветаў Менскай губерні, вернута значная частка беларускіх паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў. Тэрыторыя рэспублікі павялічылася болей як удвая (110,5 тыс. км$^2$), колькасць насельніцтва — да 4,2 млн. чал. |
| 1924 г. | Пачатак ажыццяўлення ў БССР палітыкі беларусізацыі. |
| | У Заходняй Беларусі польскія ўлады зачынілі 400 беларускіх школ і 15 беларускіх газет. |
| Чэрвень 1925 г. | Заснаванне ў Заходняй Беларусі Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай нацыянальна-вызвольнай арганізацыі, якая налічвала 120 тыс. сяброў. |
| 2-я палова 1920-х гг. | Пачатак рэпрэсій супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Паступовае згортванне беларусізацыі. |
| Снежань 1926 г. | Другое ўзбуйненне Беларускай ССР. У склад БССР вернуты Рэчыцкі і Гомельскі паветы. Тэрыторыя рэспублікі склала 125,8 тыс. км$^2$, колькасць насельніцтва — 5 млн. чал. |
| Красавік 1928 г. | У Заходняй Беларусі (Беласток) пачаўся судовы працэс над 133 дзеячамі нацыянальна-вызвольнага руху. |
| 1 студзеня 1929 г. | На базе Інстытута беларускай культуры адкрыта Беларуская акадэмія навук. |
| 1929 г. | Пачатак палітыкі масавай калектывізацыі, якая пазбавіла беларускую вёску лепшых працаўнікоў. У выніку гэтак званага «раскулачвання» з Беларусі былі высланы сотні тысяч жыхароў. |
| Люты 1930 г. | У СССР, у тым ліку і ў БССР, пры «паўнамоцных прадстаўніцтвах» ОГПУ сфарміраваны «тройкі», якім дадзена права без суда накіроўваць у канцлагеры або на расстрэл. |
| 1930—1931 гг. | Масавыя арышты нацыянальнай інтэлігенцыі па сфабрыкаванай ОГПУ справе «Саюза вызвалення Беларусі». |
| 26 жніўня 1933 г. | Пастанова Савета Народных Камісараў БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» з мэтаю «поўнага падпарадкавання беларускага правапісу задачам выхавання працоўных масаў у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму». |
| 1933 г. | Голад, выкліканы палітыкай калектывізацыі. |
| 1937—1938 гг. | Найбольшы размах палітычных рэпрэсій. |

| | |
|---|---|
| 1937—1941 гг. | Масавыя расстрэлы органамі НКВД цывільных грамадзян ва ўрочышчы Курапаты пад Менскам. Паводле розных ацэнак, тут было расстраляна ад 30 да 300 тыс. чалавек. У выніку сталінскага генацыду Беларусь страціла звыш 2 млн. чалавек. |
| 29 кастрычніка 1937 г. | НКВД адначасова расстраляла ў Менску 14 пісьменнікаў: Міхася Зарэцкага, Алеся Дудара, Платона Галавача, Анатоля Вольнага, Васіля Каваля, Валерыя Маракова, Юрку Лявоннага, Васіля Сташэўскага, Зяму Піваварава, Ізі Харыка ды інш. |
| 23 жніўня 1939 г. | У Маскве падпісаны пакт Молатава—Рыбентропа, савецка-нямецкая дамова пра ненападзенне і сакрэтныя пратаколы пра падзел сфераў уплыву. |
| 1 верасня 1939 г. | Нападзенне фашысцкай Германіі на Польшчу і пачатак Другой сусветнай вайны. |
| 17 верасня 1939 г. | Савецкія войскі перайшлі мяжу з Польшчай і да 25 верасня занялі ўсю тэрыторыю Заходняй Беларусі (разам з Вільняй і Беластокам) і Заходняй Украіны. |
| Кастрычнік 1939 г. | Вільня і Віленскі край паводле рашэння ўрада СССР перададзены Літве. |
| 14 лістапада 1939 г. | Заходняя Беларусь прынята ў склад БССР. Насельніцтва рэспублікі павялічылася да 11 млн. чал. |
| 22 чэрвеня 1941 г. | Пачатак вайны Германіі з СССР. |
| 22 чэрвеня — канец ліпеня 1941 г. | Стварэнне аднаго з першых у Беларусі пінскага партызанскага атрада пад камандаваннем Васіля Каржа. |
| 28 чэрвеня 1941 г. | Нямецкія войскі занялі Мінск. |
| Зіма 1941—1942 гг. | Стварэнне на тэрыторыі Беларусі фашысцкіх канцлагераў. |
| Студзень 1942 г. | На акупаванай тэрыторыі створана Беларуская незалежніцкая партыя. |
| Красавік 1942 г. | Стварэнне 1-й беларускай партызанскай брыгады пад камандаваннем Міная Шмырова. |
| Верасень 1942 г. | Стварэнне Беларускага штаба партызанскага руху. |
| Красавік—чэрвень 1943 г. | Беларускія партызаны правялі аперацыю «Граніт», у ходзе якой пушчаны пад адхон 1806 эшалонаў праціўніка, узарваны 66 чыгуначных мастоў, разгромлены 164 гарнізоны. |
| 23 чэрвеня — 28 жніўня 1944 г. | Беларуская аперацыя («Багратыён»), у ходзе якой войскі 1, 2, 3-га Беларускіх і 1-га Прыбалтыйскага |

| | |
|---|---|
| | франтоў разам з беларускімі партызанамі вызвалілі ўсю тэрыторыю Беларусі ад нямецкіх акупантаў. |
| 27 чэрвеня 1944 г. | 2-гі Усебеларускі кангрэс у Мінску пацвярджае пастановы 1-га Усебеларускага кангрэса і Рады БНР аб незалежнасці Беларусі. |
| 3 ліпеня 1944 г. | Ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызвалены Мінск. |
| Красавік 1945 г. | На знак прызнання яе заслуг у разгроме фашысцкай Германіі Беларуская ССР прымаецца ў склад сяброў-заснавальнікаў ААН. |
| Жнівень 1945 г. | СССР перадае Польшчы са складу БССР 17 раёнаў Беластоцкай вобласці разам з Беластокам і 3 раёны Брэсцкай вобласці. |
| 1946—1948 гг. | Чыстка КПБ і замена большасці вядучых камуністаў у Беларусі рускімі. |
| 1951 г. | Адмена ў школах БССР абавязковага экзамена па беларускай мове. |
| | Заснаванне Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. |
| 1954 г. | Уступленне Беларускай ССР у ЮНЕСКО. |
| 1959 г. | Паводле Усесаюзнага перапісу насельніцтва ў Беларусі жыве 8 054 648 чалавек. |
| 1965 г. | Першым сакратаром ЦК КПБ прызначаны Пётр Машэраў (трагічна загінуў у 1980 г.). |
| | Сярэдзіна 1960-х — сярэдзіна 1970-х гг. Нацыянальна-патрыятычны рух сярод беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, студэнтаў, на які ўлады адказалі адміністрацыйнымі рэпрэсіямі. |
| 1970 г. | Паводле дадзеных Усесаюзнага перапісу насельніцтва ў БССР жыве 9 002 300 чалавек. |
| 1971 г. | Праз трыццаць гадоў пасля пачатку нямецкай акупацыі Беларусь дасягнула даваеннага ўзроўню насельніцтва. |
| 25 студзеня 1972 г. | У Мінску нарадзіўся мільённы жыхар. |
| 1979 г. | У Беларускім дзяржаўным універсітэце заснавана «Беларуская майстроўня» — студэнцкае аб'яднанне, якое змагалася за адраджэнне нацыянальнай культуры. |
| | Паводле дадзеных Усесаюзнага перапісу, насельніцтва БССР складае 9 560 000 чалавек. |
| 1986 г. | Ядзерная катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. 70% радыёактыўных выкідаў выпадае на Беларусь. |

| | |
|---|---|
| Снежань 1986 г. | Калектыўны ліст беларускай інтэлігенцыі («Ліст 28-мі») да Міхаіла Гарбачова з заклікам прадухіліць «духоўнае выміранне» беларускага народа. |
| Красавік 1987 г. | Заснаванне Беларускага фонду культуры. |
| 1 лістапада 1987 г. | Несанкцыянаваны мітынг у Мінску з нагоды дня памяці продкаў Дзяды. Удзельнікі абвінавачваюць савецкі рэжым у правядзенні ў Беларусі палітыкі генацыду. |
| 19 чэрвеня 1988 г. | Блізу 10 000 чалавек удзельнічаюць у дэманстрацыі памяці ахвяраў Курапатаў, патрабуючы стварэння следчай камісіі. |
| 19 кастрычніка 1988 г. | У Мінску на сходзе інтэлігенцыі ствараюцца грамадскае гістарычна-асветнае таварыства «Мартыралог Беларусі» і аргкамітэт Беларускага народнага фронту. |
| 30 кастрычніка 1988 г. | Войскі і міліцыя жорстка разганяюць у Мінску масавую дэманстрацыю памяці ахвяраў сталінізму. |
| Студзень 1989 г. | Паводле перапісу насельніцтва, у Беларусі жыве 10 200 200 чалавек. |
| 19 лютага 1989 г. | У Мінску на стадыёне «Дынама» адбыўся 45-тысячны мітынг у падтрымку БНФ і працэсу перабудовы. |
| 24—25 чэрвеня 1989 г. | На Устаноўчым з'ездзе ў Вільні ўтвораны Беларускі народны фронт «Адраджэньне» на чале з Зянонам Пазьняком. |
| 27 чэрвеня 1989 г. | Стварэнне Таварыства беларускай мовы. |
| 26 ліпеня 1989 г. | Масавы мітынг у Мінску патрабуе стварэння следчай камісіі ў справе ўтойвання інфармацыі пра Чарнобыль. |
| 26 студзеня 1990 г. | Вярхоўны Савет БССР прымае Закон аб мовах, у адпаведнасці з якім беларуская мова абвяшчаецца адзінай дзяржаўнай мовай рэспублікі. |
| 27 ліпеня 1990 г. | Прыняцце Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. |
| 10—11 верасня 1990 г. | На Устаноўчым з'ездзе ў Мінску заснавана Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». |
| 3—4 лістапада 1990 г. | Устаноўчы з'езд Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. |
| 2—3 сакавіка 1991 г. | Устаноўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. |
| Красавік 1991 г. | Шматтысячныя забастоўкі і дэманстрацыі рабочых у Мінску, Оршы і іншых гарадах, выкліканыя скачком цэнаў на асноўныя прадукты спажывання. |

| | |
|---|---|
| 25 жніўня 1991 г. | Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі (наданне Дэкларацыі пра дзяржаўны суверэнітэт БССР ад 27.07.1990 г. статуса канстытуцыйнага закону). |
| 3 верасня 1991 г. | Мінскі гарсавет прыняў пастанову пра неабходнасць вяртання сталіцы краіны яе гістарычнай назвы — Менск. |
| 19 верасня 1991 г. | Вярхоўны Савет Беларусі пастанавіў змяніць назву БССР на Рэспубліку Беларусь. |
| | Дзяржаўным гербам Рэспубліку Беларусь зацверджаны герб Пагоня, дзяржаўным сцягам — бела-чырвона-белы сцяг. |
| 8 снежня 1991 г. | Кіраўнікі Беларусі, Расейскай Федэрацыі і Украіны Станіслаў Шушкевіч, Барыс Ельцын і Леанід Кучма падпісваюць у Віскулях (Белавежская пушча) пагадненне пра дэнансацыю дамовы аб стварэнні СССР ад 1922 г. і пра стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД). Сталіцай Садружнасці абраны Мінск. |
| 30 студзеня 1992 г. | Беларусь прынята ў сябры Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ). |
| 18 сакавіка 1992 г. | Вярхоўны Савет Беларусі загадвае ўраду пачаць фарміраванне нацыянальных Узброеных сіл. |
| Травень 1992 г. | Пачынаецца вывядзенне з Беларусі ядзернай зброі. |
| 19—20 снежня 1992 г. | У Мінску адбыўся з'езд беларусаў з былых рэспублік СССР (Першы сход беларусаў блізкага замежжа). |
| 8—10 ліпеня 1993 г. | Першы з'езд беларусаў свету у Мінску. Прыняты дэкларацыя аб прынцыпах нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва, а таксама пастанова пра аднаўленне аб'яднаўчага сімвала і духоўнай рэліквіі беларускага народа — Жыватворнага Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай. |
| 21—23 ліпеня 1993 г. | Візіт беларускай дзяржаўнай дэлегацыі на чале са старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам у ЗША і падпісанне Дэкларацыі пра адносіны паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь. |
| 24 верасня 1993 г. | Беларуска-расейскае пагадненне пра вывядзенне з Беларусі расейскіх войскаў. |
| 15 студзеня 1994 г. | Афіцыйны візіт у Рэспубліку Беларусь прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. |
| Люты 1994 г. | Беларусь упершыню накіроўвае асобную нацыянальную каманду на XVII зімовую Алімпіяду ў Нарвегіі і па колькасці медалёў займае 15-е месца сярод 67 краінаў-удзельніц. |

| | |
|---|---|
| 15 сакавік 1994 г. | Прынята Канстытуцыя незалежнай Рэспублікі Беларусь, паводле якой яна абвешчана самастойнай унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай праўнай дзяржавай. |
| 10 ліпеня 1994 г. | У другім туры прэзідэнцкіх выбараў першым кіраўніком дзяржавы на 5-гадовы тэрмін абраны Аляксандр Лукашэнка. |
| 5 снежня 1994 г. | На нарадзе лідэраў АБСЕ у Будапешце ЗША, Вялікабрытанія і Расея гарантуюць Беларусі, Украіне і Казахстану бяспеку і тэрытарыяльную цэласць. |
| 11 студзеня 1995 г. | Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько падпісвае ў Брусэлі дакумент праграмы НАТО «Партнёрства дзеля міру». |
| 11 красавіка 1995 г. | 19 народных дэпутатаў апазіцыі абвяшчаюць у Вярхоўным Савеце галадоўку, пратэстуючы супраць «антыканстытуцыйных прапановаў прэзідэнта ў справе правядзення рэферэндуму». Спецназ гвалтоўна выдаляе галадоўшчыкаў з будынку парламента. |
| 14 траўня 1995 г. | Выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі і рэферэндум аб наданні расейскай мове афіцыйнага статусу, новай сімволіцы, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзідэнта распускаць парламент. |
| 24 сакавіка 1996 г. | У Мінску адбылася 30-тысячная дэманстрацыя пратэсту супраць аб'яднання Беларусі з Расеяй. |
| 2 красавіка 1996 г. | 50-тысячная дэманстрацыя ў Мінску, прысвечаная 10-м угодкам Чарнобыльскай катастрофы («Чарнобыльскі шлях-99»). Сутычкі дэманстрантаў з міліцыяй і масавыя арышты. |
| 14 траўня 1996 г. | 5 тысяч дэманстрантаў у Мінску пратэстуюць супраць трымання пад арыштам удзельнікаў «Чарнобыльскага шляху». |
| 27 ліпеня 1996 г. | 20 тысяч мінчукоў і прадстаўнікоў іншых гарадоў Беларусі адзначаюць у сталіцы Дзень незалежнасці святочнай дэманстрацыяй і мітынгам, на якім прымаецца рэзалюцыя з патрабаваннем адстаўкі прэзідэнта А. Лукашэнкі. |
| 5 верасня 1996 г. | Дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі пачалі збор подпісаў аб імпічменце — канстытуцыйным адхіленні прэзідэнта А. Лукашэнкі ад улады. |
| 24 лістапада 1996 г. | Рэферэндум па пытаннях, прапанаваных прэзідэнтам А. Лукашэнкам: аб прыняцці новай рэдакцыі Канстытуцыі 1994 г.; аб перанясенні Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь на 3 ліпеня, аб куплі і продажы зямлі, аб смяротным пакаранні, а таксама па пытаннях, прапанаваных Вярхоўным Саветам Беларусі. |

| | |
|---|---|
| 15 красавіка 1997 г. | У Мінску адбыліся дэманстрацыя і мітынг у абарону Канстытуцыі 1994 г. |
| 2 красавіка 1997 г. | У Маскве падпісана дамова пра саюз Рэспублікі Беларусь і Расейскай Федэрацыі. Масавыя акцыі пратэсту ў Мінску і іх жорсткі разгон. |
| 26—27 ліпеня | Другі з'езд беларусаў свету ў Мінску. |
| 27 верасня 1997 г. | У Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр урачыста перанесены вобраз Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай (арыгінал нацыянальнай рэліквіі знік у 1941 г.), адроджаны майстрам Міколам Кузьмічом на заказ Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і з блаславення Беларускай праваслаўнай царквы. |
| 25 снежня 1998 г. | Першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі, паводле якога насельніцтва краіны склала 10 045 200 чалавек (з іх 8 159 100 чалавек — беларусаў). Беларускую мову назвалі роднай 73,7% жыхароў краіны. |
| 29—30 студзеня 1999 г. | Першы кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі з удзелам 600 прадстаўнікоў апазіцыйных партый і рухаў, незалежных прафсаюзаў і грамадскіх арганізацый. Стварэнне Каардынацыйна-кансультатыўнай рады дэмакратычных сіл Беларусі. |
| 30 траўня 1999 г. | Трагедыя ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга» ў Мінску, дзе загінулі 53 чалавекі. |
| 17 кастрычніка 1999 г. | Марш Свабоды, арганізаваны апазіцыйнымі партыямі і рухамі ў Мінску, у якім удзельнічалі болей за 30 тысяч чалавек. (Марш завяршыўся жорсткімі сутыкненнямі з міліцыяй і АМАПам.) |
| 1999 г. | Знікненне ў Мінску вядомых кіраўнікоў апазіцыі Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, а таксама прадпрымальніка Анатоля Красоўскага. |
| 8 снежня 1999 г. | Падпісанне А. Лукашэнкам і Б. Ельцыным «Дамовы пра стварэнне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі». |
| Ліпень 2000 г. | Знікненне ў Мінску вядомага тэлежурналіста Дзмітрыя Завадскага. |
| 29 ліпеня 2000 г. | У Мінску адбыўся па ініцыятыве грамадскасці Усебеларускі з'езд за незалежнасць, у якім удзельнічала 1376 дэлегатаў ад палітычных партый, грамадскіх арганізацый, прафесійных і творчых саюзаў, працоўных калектываў, якія прадстаўлялі ўсе рэгіёны краіны. З'езд прыняў Акт незалежнасці Беларусі, які абвясціў не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту нашай дзяржавы. |

# ПРАГРАМА «БЕЛАРУСЬ-2000»



**I. Асноўныя мэты і задачы**

**1. Мэты праграмы:**

1.1 Падсумаванне і асэнсаванне гістарычнага шляху беларускай нацыі і дзяржаўнасці на мяжы новага тысячагоддзя.

1.2 Умацаванне беларускай дзяржаўнасці, аднаўленне годнай прысутнасці беларускай нацыі і дзяржавы ў сусветнай супольнасці.

**2. Задачы праграмы:**

2.1. Ушанаванне выдатных гістарычных асобаў, вяртанне ў грамадскую свядомасць значных падзей нашай шматвяковай гісторыі.

2.2. Папулярызацыя ведаў пра гістарычны шлях беларускага народа, пра знакамітых дзеячаў гісторыі і культуры краіны, значныя падзеі мінуўшчыны.

2.3. Выхаванне ў дзяцей і моладзі нацыянальнай годнасці і пачуцця любові да Бацькаўшчыны на лепшых прыкладах айчыннай гісторыі і запаветах продкаў.

**II. Асноўныя праекты праграмы**

***1. «Вытокі беларускай нацыі»:***

1.1 Правядзенне навуковых даследаванняў ў праблемах з'яўлення славянскіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі і фарміравання беларускага этнасу.

1.2 Падрыхтоўка і выданне кнігі «Вытокі беларускай нацыі».

